Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 20 лютага 1987 г. № 8 (3366) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## М. С. Гарбачоў:

# ПРАЎДА ПАВІННА БЫЦЬ ПОЎНАЙ

Журналістыка, публіцыстычнае слова — актыўны ўдзельнік перабудовы. Жыццё рашуча перакрэсліла архаічную формулу: пісьменнік папісвае, чытач пачытвае. Друк сёння смела ўздымае самыя складаныя, самыя надзённыя праблемы грамадства. Для друкаванага слова няма больш «забаронных зон». Але і журналістыка не можа заставацца па-за крытыкай. Пра гэта гаварылася і на нядаўнім Пленуме ЦК нашай партыі.

Людзі ў праве чакаць большага ад сродкаў масавай інфармацыі. І не выпадкова праз два тыдні пасля студзеньскага Пленума ЦК КПСС у Цэнтральным Камітэце адбылася дзелавая, зацікаўленая размова аб надзённых задачах друку, тэлебачання і радыёвяшчання.

Перад кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў.

Перабудова, асабліва на новым яе этапе,— працэс нялёгкі, дыялектычны. І добра, што друк не спрашчае яго, паказвае жыццё такім, як яно ёсць, зазначыў М. С. Гарбачоў.

Сказана: гістарычны шлях — не тратуар Неўскага праспекта. Усё новае нараджаецца ў барацьбе. Пры гэтым закранаюцца інтарэсы многіх людзей. А перабудоўвацца трэба ўсім. «Альтэрнатывы перабудове няма,— сказаў Генеральны сакратар ЦК КПСС.—Яе выпакутавала ўсё наша грамадства. Перабудову трэба падтрымліваць, перабудову трэба абараняць, перабудову трэба развіваць, перабудову трэба рухаць наперад».

Галоўная задача цяпер, як было вызначана на студзеньскім Пленуме — развіццё сацыялістычнай дэмакратыі. І ў эканоміцы, і ў палітыцы. Больш сацыялізму— вось сутнасць перабудовы. Для таго, каб ідэі Пленума рэалізаваліся на практыцы, патрэбна паўсядзённая стваральная праца. Неабходна гэтыя ідэі напоўніць канкрэтным зместам. Інакш яны «павіснуць», стануць звычайнай маніламшчынай.

І таму перад нашай прэсай агромністае поле дзейнасці. «Пабольш дзелавітасці — паменш агульных разважанняў аб карысці перабудовы — такім павінен быць сёння лейтматыў выступленняў сродкаў масавай інфармацыі», — сказаў М. С. Гарбачоў.

Архіважная задача сёння — прапаганда перадавога вопыту, жывой справы. Трэба берагчы парасткі новага, падтрымліваць усё тое, што ўмацоўвае сацыялізм, умацоўвае дух чалавека.

Але ў барацьбе за ўсё новае, перадавое, нельга забываць пра зброю крытыкі. Збаўляць крытычныя абароты нельга. «Як мы будзем жыць, калі не будзем праз крытыку, праз удзел у крытыцы, асабліва праз крытыку знізу, правяраць нашу палітыку, змагацца з негатыўнымі з'явамі, папярэджваць гэтыя з'явы?»—менавіта так было пастаўлена пытанне ў выступленні Генеральнага сакратара ЦК КПСС. «Іншая размова — гэта глыбіня, аналітычнасць, праўдзівасць і канструктыўнасць крытычных выступленняў»,—сказаў М. С. Гарбачоў. І тут, трэба прызнаць, не ўсё ў парадку. Крытыка — гэта перш за ўсё адказнасць, а не самавыяўленне і амбіцыёзнасць.

(Заканчэнне на стар. 2—3).



У час сваёй сустрэчы ў Рызе з ветэранамі рэвалюцыі — латышскімі чырвонымі стралкамі, ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў сказаў: «Вядома, у кожнага пакалення свая практыка. Калі б не было руху ад пакалення да пакалення, жыццё б спынілася. Але моладзь павінна ведаць, з чаго пачыналася, каб яна магла пераўноўваць ненавязчыва. Не трэба навязваць. Але падзяліцца вопытам, мудрасцю — гэта абавязак ветэранаў...».

Здымак, які вы бачыце, нібы ілюстрацыя да гэтых слоў. Ветэрану працы, лепшай даярцы калгаса «Іскра» Мастоўскага раёна Ю. Лісоўскай ёсць пра што расказаць вучням мясцовай школы, дзе яна не рэдкі госць. Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

## У НУМАРЫ:

# ПРАЎДА ПАВІННА БЫЦЬ ПОЎНАЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).**

Друк павінен выкрываць рознага роду гультаёў, прыстасаванцаў, махляроў, зацiскальнікаў крытыкі. У той жа час ён павінен больш актыўна дапамагаць тым, хто змагаецца за перабудову. Але, зазначыў М. С. Гарбачоў, «перабудова павінна аб'ядноўваць і мабілізоўваць людзей, а не раз'ядноўваць іх, не параджаць пачуццё крыўды, няўпэўненасці ў сабе».

Ні ў кога — у тым ліку і ў публіцыстаў — няма права зневажаць чалавека, навешваць на яго ярлыкі.

На XXVII з'ездзе КПСС рэзка крытыкавалася практыка падмены палітычнай дзейнасці партыі гаспадарчымі і бытавымі справамі. А вось прэса ўсё яшчэ, бывае, спрабуе ўсе мясцовыя хібы ставіць у віну партыйным камітэтам, прыкрываць усё партыйным парасонам.

На з'ездзе партыі востра ставілася і пытанне аб сацыяльнай справядлівасці. Але сацыяльную справядлівасць часам разумеюць — і такое разуменне сустракаецца яшчэ на старонках газет — па-мяшчанску, як ураўнілаўку. Ураўнілаўка не мае нічога агульнага з сацыялізмам. Сумленную працу таленавітых людзей неабходна заахвочваць. Гэта трэба зразумець усім.

З усёй шчырасцю гаварылася на сустрэчы ў ЦК партыі аб праблеме так званых «белых плям» у гісторыі і літаратуры. Падкрэслівалася, што гісторыя і літаратура не павінны цярпець ад кан'юнктурных разлікаў. Як сказаў М. С. Гарбачоў —«Мы павінны даражыць кожным годам нашай 70-гадовай гісторыі. Аб справах цяжкіх партыя сказала. І мы не збіраемся паказваць іх сёння ў ружовым святле. Але і тут уступае ў сілу няўхільны сацыялістычны закон праўды...»

«Не трэба забываць імён,— сказаў далей Генеральны сакратар,—але тым больш амаральна забываць, або замоўчваць цэлыя перыяды ў жыцці народа, які жыў, верыў і працаваў пад кіраўніцтвам партыі і сацыялізму.

Гісторыю трэба бачыць такой, якая яна ёсць. Усё было— былі памылкі — і цяжкія, але краіна ішла наперад. Вазьміце гады індустрыялізацыі, або калектывізацыі. Гэта жыццё, рэальнасць. Гэта лёс народа з усімі супярэчнасцямі: і з дасягненнямі і з памылкамі».

Час патрабуе добра ўсведамляць дыялектыку развіцця грамадства. Дыялектычнага падыходу вымагае і нацыянальнае пытанне. «З аднаго боку расце, павышаецца культурны ўзровень усіх народаў і народнасцей, нават самых маленькіх, вырасла свая інтэлігенцыя. Яна вывучае карані свайго паходжання, часам гэта прыводзіць да абагаўлення гісторыі і ўсяго, што з ёю звязана, і не толькі прагрэсіўнага, — падкрэсліў М. С. Гарбачоў. — З другога боку — у жыццё ўступаюць новыя пакаленні, іх трэба выхоўваць, даваць сучасныя ўяўленні аб тым, дзе яны жывуць і як зацвердзілася гэтая унікальная з'ява ў чалавечай гісторыі, калі больш як 100 нацый і народнасцей жывуць, калі меркаваць нават па вялікіх гістарычных мерках, дружна і добра». Перад намі — жывое жыццё. І падыходзіць да яго трэба з высокімі меркамі ленінскай нацыянальнай палітыкі, з пазіцый пралетарскага інтэрнацыяналізму.

Што датычыцца літаратуры — у прыватнасці, публіцыстыкі, — перад ёй таксама стаяць сёння складанейшыя праблемы. Асабліва востра стаіць тут пытанне аб праўдзе мастацкага адлюстравання. Не будзем забываць: перамены, якія мы цяпер перажываем, рыхтавала і сапраўдная літаратура, усе сумленныя майстры культуры. Публіцыстыка, яе лепшыя прадстаўнікі заўсёды трывожылі грамадскую свядомасць, вылучалі новыя смелыя ідэі ў эканоміцы, культуры, асвеце...

Аднак сёння, калі адбываюцца вялікія змены ў грамадскай свядомасці, многія пісьменнікі-публіцысты, на жаль, не спяшаюцца сказаць новае слова. А патрэбнасць у ім ёсць, і вялікая.

«У паваротны перыяд,— сказаў М. С. Гарбачоў, — мы як ніколі маем патрэбу ў аб'ектыўным усебаковым бачанні рэальнасці. Праўда павінна быць поўнай».

Новай дэманстрацыяй клопату міралюбівых сіл планеты стаў міжнародны форум «За бяз'ядзерны свет, за выжыванне чалавецтва», які 14 — 16 лютага праходзіў у Маскве. Каля тысячы гасцей і 350 савецкіх грамадзян — вучоныя, якія працуюць у галіне прыродазнаўчых навук, сусветна вядомыя пісьменнікі, кампазітары, мастакі, дзеячы кіно і тэатра, вядомыя вучоныя, палітычныя і грамадскія дзеячы, вучоныя-медыкі і ўрачы, рэлігійныя дзеячы, былыя военачальнікі высокага рангу — абмяняліся думкамі аб кансалідацыі міралюбівых сіл у барацьбе за мір, прадухіленне тэрмаядзернай вайны, развіццё эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва.

# ЗА БЯЗ'ЯДЗЕРНЫ СВЕТ, ЗА ВЫЖЫВАННЕ ЧАЛАВЕЦТВА

Па-дзелавому, у прыватнасці, праходзіла пасяджэнне «круглага стала» дзеячаў літаратуры і мастацтва, на якім выступалі пісьменнікі з розных краін. Акружаючая рэчаіснасць — гэта не толькі прырода, гаварыў акадэмік Д. Ліхачоў, але і тыя духоўныя скарбы, што ствараліся пакаленнямі. Трэба перамяніць псіхалогію людзей, якія разглядаюць усё з пункту погляду неадкладных інтарэсаў.

З удзельнікамі форуму сустрэўся Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў, які выступіў з прамовай «За бяз'ядзерны свет, за гуманізм міжнародных адносін».

«Мы вельмі высока цэнім сам факт правядзення такога форуму, — сказаў Міхаіл Сяргеевіч,— і тую акалічнасць, што на яго з усіх канцоў зямлі з'ехалася такая колькасць славутых і аўтарытэтных людзей. Мы разумеем: у кожнага свае абавязкі, свае справы. Тым не менш вы іх адклалі і за тысячы кіламетраў прыехалі сюды, каб заявіць аб сваіх трывогах і неспакоі, падзяліцца думкамі з людзьмі, якіх хвалююць тыя ж праблемы.

Ужо адно гэта само па сабе значнае, бо ў саставе ўдзельнікаў форуму — прадстаўнікі розных слаёў насельніцтва, людзі з усіх кантынентаў, з многіх дзесяткаў дзяржаў.

Форум — сапраўды ўвасабленне сусветнай грамадскасці.

Савецкім людзям блізкія і зразумелыя ідэі форуму, клопаты і настроі, якія прывялі вас сюды».

Гаворачы аб рэвалюцыйных пераўтварэннях, якія адбываюцца ў жыцці савецкага грамадства, М. С. Гарбачоў падкрэсліў, што «перабудова, калі адцяніць яе міжнародны аспект,— гэта запрашэнне сацыялізму да мірнага спаборніцтва з любой іншай сацыяльнай сістэмай. І мы здолеем справай даказаць, што такое спаборніцтва — на карысць усеагульнаму прагрэсу і міру ва ўсім свеце. Але каб такое спаборніцтва адбылося і разгортвалася ў цывілізаваных формах, дастойных чалавецтва XXI стагоддзя, патрэбна **новае мысленне**, трэба пераадолець склад думак, стэрэатыпы і догмы, атрыманыя ў спадчыну ад незваротна адышоўшага мінулага».

Нагадаўшы аб мірных ініцыятывах, выказаных Савецкім Саюзам у апошні час, М. С. Гарбачоў зазначыў: «Новы будынак міжнароднай бяспекі можа ўзводзіцца і цэментавацца, натуральна, толькі на давер'і... Давер'е неабходна ствараць вопытам супрацоўніцтва, узаемным пазнаваннем, вырашэннем агульных пытанняў». Памыляюцца тыя, хто мяркуе,

# НА АСНОВЕ МАТЭРЫЯЛАЎ З'ЕЗДА

**25 лютага спаўняецца год з дня пачатку работы XXVII з'езда КПСС, які азнаменаваў сабой новы, па-сапраўднаму рэвалюцыйны перыяд у жыцці савецкага грамадства, з'арыентаваў краіну, увесь народ на шлях перабудовы, паскоранага развіцця. Кнігі, якія прапагандуюць рашэнні гэтага гістарычнага партыйнага форуму, чарговых пленумаў ЦК КПСС, займаюць першаступеннае месца ў планах выдавецтваў рэспублікі. Паасобныя з іх ужо прыйшлі да чытача.**

**Адна з серый так і называецца—«Рашэнні XXVII з'езда КПСС — баявая праграма партыі і народа». У выдавецтве «Беларусь» выйшаў шэраг брашур, што растлумачваюць асноўныя напрамкі дзейнасці партыі на сучасным этапе, прапагандуюць савецкі лад жыцця, палажэнні новай рэдакцыі Праграмы КПСС. Нядаўна ўбачылі свет яшчэ дзве: «Духоўнае ўзвышэнне савецкага чалавека» М. Тараткевіча, у якой аўтар асаблівую ўвагу звярнуў на раскрыццё ўнутранага свету савецкіх людзей, узрастанне іх духоўнага і маральнага патэнцыялу, і «Грамадства сацыяльнай справядлівасці» Ф. Баравіка, што закранае пытанні далейшага павышэння сацыялістычнай дэмакратыі, яе перавагі перад дэмакратыяй буржуазнай.**

**Серыя «Стратэгія паскарэння: вопыт, праблемы, перспектывы» — міжвыдавецкая. Брашура Я. Бабосава «Праграма КПСС— дакумент творчага марксізму-ленінізму» выпушчана выдавецтвам «Навука і тэхніка». Паказваючы аб'ектыўную неабходнасць распрацоўкі новай рэдакцыі Праграмы КПСС, аўтар разглядае стан і дыялектыку сучаснай эпохі, пытанні барацьбы за мір і захаванне жыцця на зямлі, выратавання чалавецтва ў ядзерную эпоху. У полі зроку Я. Бабосава і раскрыццё курсу партыі на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця.**

**Тры выданні згаданай серыі выпусціла «Беларусь». У кнізе «Рашаючы фактар» І. Галко на аснове твораў класікаў марксізму - ленінізму, дакументаў XXVII з'езда КПСС і XXX з'езда Кампартыі Беларусі разглядае шляхі актывізацыі чалавечага фактару ў сферы матэрыяльнай вытворчасці, адносіны асобы да працоўнай дзейнасці. Выкарыстаны матэрыялы сацыялагічных даследаванняў, сярод якіх вынікі апытання каля 40 тысяч работнікаў прадпрыемстваў і арганізацый Мінска**

**ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР**

*«У краі блакітных азёр» — менавіта так гучыць назва рэспубліканскай мастацкай выстаўкі, якая заўтра запросіць першых гасцей на ўрачыстае адкрыццё. Пра тое, чым адметная гэтая выстаўка, як яна рыхтавалася, расказвае нашаму карэспандэнту сакратар праўлення Саюза мастакоў рэспублікі, старшыня Мастацкага фонду БССР, старшыня выставачнага камітэта І. Місько.*

# ЁСЦЬ ВЫСТАЎКА— БЫЦЬ КАРЦІННАЙ ГАЛЕРЭІ!




— І сапраўды, выстаўка «У краі блакітных азёр» — незвычайная. Упершыню на Віцебшчыне, а менавіта гэтай вобласці з яе вялікімі гераічнымі і працоўнымі традыцыямі прысвячаюць беларускія мастакі свае творы, разгорнецца такі буйны вернісаж. Адкрыццё адбудзецца таксама нетрадыцыйна — адразу ў чатырох пунктах. Асноўная экспазіцыя наладжана ў Полацку, дзе будуць выстаўлены жывапісныя палотны і скульптура. На жаль, у Віцебску паказаць жывапіс мы не можам з-за невялікай плошчы выставачнай залы, і таму вырашылі тут размясціць экспазіцыю графікі, скульптуры і частку твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. І яшчэ два пункты на зямлі Віцебшчыны— Наваполацк і Ушачы, дзе гледачы ў суботу пазнаёмяцца з мастацтвам беларускіх жывапісцаў...

Нельга не нагадаць пра тое, што мастакі рэспублікі больш за два гады рыхтаваліся да гэтай падзеі. Шматлікія творчыя групы, сфарміраваныя ў Мінску і Гродне, Магілёве і Гомелі, выязджалі ў калгасы і саўгасы Віцебскай вобласці, шукалі герояў будучых сваіх твораў на прадпрыемствах вобласці. І трэба сказаць, што большасць карцін, графічных лістоў, што ўвайшлі ў экспазіцыю, заказаны менавіта прадпрыемствамі і гаспадаркамі Віцебшчыны. Такіх твораў — больш як трыста, і ніводны з іх не фінансаваў ні Саюз мастакоў, ні Мастацкі фонд рэспублікі.

Які ж далейшы лёс гэтых работ? Вядома, кожны заказчык пасля закрыцця выстаўкі мае права забраць твор мастацтва, які яму належыць, павесіць або паставіць яго ў інтэр'еры заводскага Палаца культуры ці ў будынку праўлення калгаса. Але ёсць думка папрасіць нашых заказчыкаў дапамагчы здзейсніць вельмі важную для Віцебшчыны і для ўсіх нас культурную акцыю: перадаць лепшыя творы ў фонд будучай абласной карціннай галерэі. Віцебску, гораду з вялікімі мастацкімі традыцыямі, вядомымі ў свеце, мець такі цэнтр культуры проста неабходна. І гэтае пытанне, дарэчы, стаіць сёння перад грамадскасцю, перад гаспадарамі вобласці на парадку дня як адно з важных, першачарговых.

Што ж уяўляе сабой экспазіцыя выстаўкі «У краі блакітных азёр»? Па сутнасці, гэта летапіс Віцебшчыны, яе старажытнага мінулага, гераічных дзён Вялікага Кастрычніка і гадоў ваеннага ліхалецця, гэта старонкі адраджэння аднаго з куткоў беларускай зямлі, старонкі яе сённяшняй стваральнай працы.

Гісторыя чароўнага азёрнага краю вымяраецца стагоддзямі. Колькі выдатных асоб нарадзіла Віцебшчына! Яны ўвасоблены ў жывапісных палотнах Г. Вашчанкі «Роднае слова. Францыск Скарына», «Сімяон Полацкі і Ефрасіння Полацкая» А. Марачкіна... Помнікам архітэктуры прысвяцілі свае графічныя серыі віцябчане В. Ральцэвіч і Г. Шутаў. Унікальная прыродная жамчужына — Лосьвідскае возера — адлюстравана ў акварэлях Ф. Гумена.

Гераічныя падзеі Вялікай Айчыннай... Памяць мастакоў-франтавікоў, мастакоў-партызан — пра тых, хто вызваляў гэтую зямлю, пра тых, хто стаў яе гонарам і славай. Пра гэта творы ветэранаў вайны І. Ціханава «Вызваленне Полацка» і М. Гуціева «Манкін — лётчык, які выратаваў дзяцей»... «Блахін вядзе бой за мост праз Заходнюю Дзвіну ў г. Віцебску», «Чырвоны сцяг Перамогі над Віцебскам» — так назвалі свае работы Л. Асядоўскі і У. Пасюкевіч...

што ядзерная зброя неабходна для прадухілення большага зла — вайны. **«Чым больш ядзернай зброі, тым менш шанцаў на яе, скажам так, «паслухмяныя паводзіны»**, — працягваў прамоўца.

Чалавецтва ўступіла ў такую эпоху свайго развіцця, калі «яго аб'ядноўвае не толькі інтэрнацыяналізацыя эканамічнага жыцця і магутныя сродкі інфармацыі і камунікацыі, але і аднолькавая небяспека ядзернай смерці, экалагічнай катастрофы і глабальнага выбуху супярэчнасцей паміж беднасцю і багаццем розных яго частак». Разам з тым, нельга забываць, што «сусветнае супольніцтва паўстае цяпер перад намі мноствам дзяржаў з неаднолькавымі гісторыяй, традыцыямі, звычаямі, укладам. У кожнай краіны і народа ёсць свая праўда, свае нацыянальныя інтарэсы, свае імкненні. Гэта — важнейшая рэальнасць сучаснага свету». Выхад у тым, каб «скараціць і пераадолець разрыў паміж апераджальным ходам падзей і ўсведамленнем рэальнасцей, разуменнем таго, што адбываецца і чым гэта небяспечна».

«На жаль,— зазначыў М. С. Гарбачоў,— многія з нашага пакалення **звыкліся з ядзернай зброяй.** У многіх яна стала своеасаблівым ідалам свядомасці, які патрабуе ўсё новых ахвяр. Ёсць і такія, якія гонку ядзерных узбраенняў аб'яўляюць ледзь не гарантыяй захаванасці міру».

Адну з галоўных задач на сучасным этапе М. С. Гарбачоў бачыць у тым, каб **«ачалавечыць міжнародныя адносіны».** Для «ачалавечання» іх «патрэбны адпаведныя дзеянні і ў гуманітарнай галіне, у прыватнасці, у тым, што датычыць інфармацыі, кантактаў паміж людзьмі, творчых абменаў і да т. п. Гэта дапаможа ствараць маральныя гарантыі захавання міру і тым самым садзейнічаць выпрацоўцы гарантый матэрыяльных».

Сваю прамову М. С. Гарбачоў закончыў словамі: «Час нібыта сціскаецца па меры нарастання небяспекі новага вітка гонкі ўзбраенняў, а таксама ў сувязі з рэзкім абвастрэннем рэгіянальных і так званых глабальных праблем. І нельга больш траціць яго на спробы перайграць адзін аднаго, дабіцца аднабаковых пераваг. Стаўка ў такой гульні надта вялікая— выжыванне чалавецтва. Таму ўлік крытычнага фактара часу становіцца жыццёва неабходным.

Няхай жа ідэі форуму дойдуць да ўсіх куткоў Зямлі, наблізяць прасвятленне, расшыраць узаемаразуменне, няхай вашы намаганні дапамогуць руху наперад да свабоднага ад ядзернай зброі, ненасільнага свету — дзеля неўміручасці чалавечай цывілізацыі!»

Прамова была выслухана з вялікай увагай і суправаджалася апладысментамі.

У сустрэчы ўдзельнічалі кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС А. М. Якаўлеў, сакратары ЦК КПСС А. Ф. Дабрынін, В. А. Мядзведзеў.

У Крамлёўскім Палацы з'ездаў адбыўся прыём у гонар удзельнікаў форуму, які прайшоў у атмасферы дружалюбнасці, сардэчнасці і адкрытасці.

**По матэрыялах друку.**

---

**па праблемах арганізацыі працы і быту савецкіх людзей. Брашура В. Янчэўскага, М. Федзюковіча і В. Тачыцкага «Савецкая Беларусь — курсам інтэнсіфікацыі» — гэта адначасова падсумаванне вынікаў, дасягнутых працоўнымі рэспублікі ў адзінаццатай пяцігодцы ў галіне прамысловасці, сельскай гаспадаркі, будаўніцтва, сацыяльнага развіцця, і разгляд тых задач, якія неабходна вырашыць па выкананні рашэнняў XXVII з'езда КПСС і XXX з'езда Кампартыі Беларусі, а таксама заданняў дванаццатай пяцігодкі. У брашуры «Рацыянальнае выкарыстанне рэсурсаў — важнейшая ўмова інтэнсіфікацыі вытворчасці» Я. Александровіч паказвае значэнне эканамічных рычагоў і стымулаў для паляпшэння выкарыстання ўсіх рэсурсаў у прамысловасці.**

**Брашуры, кнігі, якія прапагандуюць рашэнні партыйнага форуму, выпускаюць і іншыя выдавецтвы рэспублікі.**

**М. ВЯРХОТКА.**

## У ФОНД ДАПАМОГІ

**З ініцыятывай паказаць у свой выхадны дзень спектакль, а ўвесь збор ад яго пералічыць у фонд дапамогі жыхарам Грузіі, якія пацярпелі ад стыхіі,— выступіла моладзь Рускага тэатра БССР імя М. Горкага. 16 лютага гледачы ўбачылі новую работу тэатра—«Ноч анёла» А. Розанава. У прэм'ерным спектаклі былі заняты народная артыстка СССР А. Клімава, заслужаны артыст рэспублікі І. Ражба, артысты Б. Падва, М. Мартыненка, У. Курган, А. Душачкін.**

**І. ЧАРКАС.**

## ВІНШУЕМ!

**За заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры, актыўную грамадскую работу і ў сувязі з васьмідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў пісьменніка ЗВОНАКА Пятра Барысавіча (Алеся Звонака) Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

---

Сённяшнім героям працы — хлебаробам, будаўнікам, рабочым, якія былі дэлегатамі XXVII з'езда КПСС, прысвяцілі свае творы Г. Паплаўскі, В. Мікіта, У. Уродніч, У. Гоманаў, М. Апіёк. Вядома, пералічыць імёны тых людзей, чые партрэты ўваходзяць у экспазіцыю, гэтаксама, як і тых, хто ўвасабляў іх у жывапісных палотнах, графічных лістах, скульптурных кампазіцыях, немагчыма. Але мне хацелася б расказаць яшчэ пра адну серыю работ, якую ўмоўна можна назваць «землякі Віцебшчыны». Графічны цыкл С. Геруса апавядае пра выдатных літаратараў — В. Быкава, П. Броўку, Г. Бураўкіна, Р. Барадуліна, Е. Лось, кампазітара А. Багатырова... Па заказу саўгаса імя Машэрава Сенненскага раёна Б. Аракчэеў напісаў карціну «П. М. Машэраў на роднай зямлі». Блізкі ўсім нам вобраз гэтага выдатнага чалавека і кіраўніка ўвасобілі ў скульптурных партрэтах З. Азгур і А. Анікейчык... А Віцебскі краязнаўчы музей зрабіў сацыяльны заказ непасрэдна свайму земляку: на выстаўцы будзе прадстаўлена палатно Л. Шчамялёва «Рэпін у Здраўневе». Госці вернісажа пазнаёмяцца і з двума творамі М. Савіцкага — «Вяртанне» і «Узнагароджанне граматай», што ўзяты з персанальнай выстаўкі мастака ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.

Словам, выстаўка, на маю думку, мае быць цікавай. Яшчэ пра што хацеў бы сказаць. Будуць у экспазіцыі і так званыя «вольныя» работы, якія прадпрыемствы, установы, гаспадаркі Віцебшчыны могуць набыць пасля яе закрыцця...

І апошняе. Падобныя выстаўкі, прысвечаныя абласцям рэспублікі, стануць традыцыйнымі. Адметна, што сувязь мастакоў з жыццём умацоўваецца, больш высокім становіцца аўтарытэт творцы. Мяркуйце самі: на Міншчыне пад час выстаўкі «Міншчына ардэнаносная» з намі было заключана толькі каля трыццаці дагавораў, а на Віцебшчыне, паўтараю, больш за трыста. Шмат у гэтым нам дапамаглі абком і гарком партыі, абласное ўпраўленне і раённыя аддзелы культуры, прадпрыемствы вобласці, у прыватнасці, вельмі нас падтрымала вытворчае аб'яднанне «Даламіт»...

Ну, а цяпер — слова за гледачом.

**Інтэрв'ю ўзяла Л. КРУШЫНСКАЯ.**

---

НАДЗЁННАЯ РАЗМОВА

# Нялёгкая справа — ПЕРАБУДОВА

**Роздум пасля Пленума ЦК КПСС**

ПІСЬМЕННІКІ, «інжынеры чалавечых душ» дзвюма рукамі за перабудову. Яны разумеюць, што без свежага паветра перамен — верх возьмуць гніль і цвіль.

Аднак калі ў сферы матэрыяльнай вытворчасці перабудова больш наглядная (брак, ашуканства, прыпіскі, крадзеж можна разгледзець няўзброеным вокам радавога бухгалтара, юрыста, статыста), то ў сферы духоўнай культуры разгул ашуканства, шэрасць, прыстасавальніцкую нікчэмнасць выявіць цяжка. Шкодныя вынікі тут не ўбачыш адразу, выявіць, хто, дзе і колькі нарабіў шкоды ў нашым духоўным жыцці, — вельмі цяжка.

Адышлі ў мінулае, адыграўшы сваю ролю, такія вядомыя лозунгі, як «Тэхніка вырашае ўсё!», «Кадры вырашаюць усё!» Ёсць у нас цяпер і першакласная тэхніка, і адукаваныя высокакваліфікаваныя кадры. І тым не менш, справы, часам, не вырашаюцца, штосьці перашкаджае, нешта тармозіць, нечага не хапае. Няма ніякіх сумненняў, што можна мець самую першакласную тэхніку, але калі да яе не будзе належных гаспадарчых адносін, дык і карысці ад яе аніякай, наадварот,— толькі боль расчаравання. Кажуць, у нас не хапае кадраў. Ды — не, кадраў у нас хапае, пытанне толькі — якіх? Гэта — па-першае. Па-другое, трэба ўмець яшчэ ўмела іх выкарыстаць, улічваючы здольнасці, розум, уменне кожнага. Бо, бывае, чалавек — прыроджаны аграном, а яму даводзіцца корпацца з паперамі, і наадварот, чалавека без агеньчыка, схільнага толькі да кабінетнай работы, прызначаюць дырэктарам саўгаса. А хіба не бывае, што на кіруючую пасаду ставяць па знаёмстве, па прынцыпу асабістай адданасці?

Усё гэта — прыкметы нізкай маралі. Карані гэтага — у гадах нараджэння і росквіту культу асобы. І хоць асобы гэтай даўно ўжо няма, вынікі прадаўжаюць прыносіць адчувальную шкоду.

Можна без перабольшання сказаць, што грамадства наша перажывае складаны час, час перабудовы, да якой вельмі многія не падрыхтаваны, а хто яе сустракае і проста ў штыкі. Прыкладаў таму незлічонае мноства. Гэта і нізкая якасць прадукцыі прамысловых прадпрыемстваў, і праблемы сельскай гаспадаркі, пакуль што не здольнай забяспечыць краіну неабходнай колькасцю прадуктаў харчавання, і недахопы ў сферы бытавога абслугоўвання і грамадскага харчавання, і рост крымінальных злачынстваў і правапарушэнняў, асабліва сярод моладзі, і страшэннае мноства разводаў. Калі 70 гадоў назад на 200 шлюбаў даводзіўся адзін развод, то цяпер распадаецца кожная трэцяя сям'я.

Моцны ўдар па нашай маралі быў нанесены ў другой палавіне трыццатых гадоў, калі праз год пасля прыняцця Канстытуцыі пачаліся масавыя парушэнні сацыялістычнай законнасці. Няўпэўненасць і пасіўнасць, як прамы вынік боязі перад магчымым рэцыдывам парушэння сацзаконнасці, доўга яшчэ жылі ў душах людзей.

Незадаволенасць выклікала ў народзе распрацаваная ў гады культу выбарчая сістэма. Па сутнасці, выбараў не было, бо наяўнасць у бюлетэні аднаго кандыдата пазбаўляла выбаршчыка права **выбіраць.** Сапраўды, нават на рынку простая бабуля ніколі не прапануе пакупніку выбраць хоць бы тую капусту, калі на стале ляжыць адзін качан. Вось каб у адным бюлетэні было некалькі прозвішчаў, каб можна было выбраць лепшага.

З глыбокім задавальненнем канстатую, што гэтае пытанне знайшло сваё адлюстраванне ў дакладзе Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова «Аб перабудове і кадравай палітыцы партыі» на чарговым Пленуме ЦК КПСС і ў пастанове Пленума, дзе гаворыцца, што «адным з ключавых напрамкаў дэмакратызацыі грамадскага жыцця, кадравай палітыкі з'яўляецца ўдасканаленне савецкай выбарчай сістэмы. Важна пазбавіць практыку вылучэння і абмеркавання кандыдатаў у дэпутаты Саветаў ад элементаў фармалізму, прадаставіць выбаршчыку магчымасць выказваць свае адносіны да большай колькасці кандыдатур, эфектыўна ўдзельнічаць у выбарчым працэсе на ўсіх яго стадыях».

Яшчэ адна праблема, якая непакоіць мяне. Людзі сталага ўзросту помняць шумныя кампаніі падпіскі на аблігацыі дзяржаўных пазык. Падпіскі добраахвотна-прымусовай. Зразумела, гэта быў цяжкі для нашай краіны час, і без пазык абысціся было цяжка. Але і тут не абышлося без маны — на ўсіх аблігацыях стаяў тэрмін пагашэння. Чаму ж ён не выконваўся? Народная гаспадарка даўно адноўлена, а пазыка выплачваецца мізэрнымі часткамі, у многіх выпадках ужо нашчадкам.

**По сутнасці сваёй перабудова маральных адносін — ёсць будаўніцтва новай, сапраўды сацыялістычнай культуры. Гэта працяглы і складаны працэс. Работы хопіць і для нас і для падрастаючага пакалення. Толькі вось ці справіцца наша моладзь з гэтай задачай? Ці правільна мы яе выхоўваем?**

**Чалавека мы нястомна выхоўваем на ўсіх ступенях яго зямнога быцця—з дня нараджэння да апошняга дня. Выхоўваюць наша падрастаючае пакаленне і піянерскія арганізацыі, партыйныя, камсамольскія, прафсаюзныя, ДТСААФ, АСВОД, кнігалюбы, газеты, часопісы, кіно, тэлебачанне. Усе даюць рэкамендацыі, як жыць, падказваюць, з каго браць прыклад, тлумачаць, што такое добра і што такое кепска...**

**Народная прымаўка гаворыць: «У сямі нянек—дзіця без носа». Калі мы пералічым усіх нашых настаўнікаў і нянек, іх акажацца не сем, а семдзесят сем. Я заўважаю, што з кожным годам узрастае роля дзяржавы ў выхаванні падрастаючага пакалення і ў той жа час змяншаецца ў выхаванні роля бацькоў, якія мараць вырасціць са свайго дзіцяці высакароднага, сумленнага, добрага чалавека. Вы думаеце, дзяржава ў гэтым можа замяніць бацькоў? Думаю, ніўто не заменіць сардэчнай матчынай цеплыні і душэўнай бацькоўскай ласкі.**

Выхаванне і літаратура. Так, галоўнае прызначэнне літаратуры — выхоўваць сумленнага чалавека, грамадзяніна. На маю думку, галоўная бяда сучаснай нашай літаратуры — у рэцыдывах тэорыі бесканфліктнасці, якія ўзніклі ў перыяд культу асобы, жывуць да гэтага часу і прадаўжаюць прыносіць адчувальную шкоду. Згодна гэтай канцэпцыі здольнасцю выхоўваць і перавыхоўваць надзелены толькі станоўчыя героі і станоўчыя абставіны. Адсюль імкненне гаварыць толькі аб дасягненнях і поспехах, заплюшчваць вочы на недахопы, як быццам іх зусім не існуе. Аднак станоўчы герой толькі тады можа стаць станоўчым, калі побач ёсць адмоўны, які яго адцяняе, з якім ён канфліктуе, змагаецца і ў барацьбе гіне або перамагае. Няма адмоўнага героя — няма чаго рабіць і станоўчаму.

**Хваліць і захапляцца—нясцяжна. Асабліва калі хваліць начальства. Хваліць рэчы афіцыйна ўхваленыя. У той жа час сур'ёзнай рызыцы падвяргае сябе той, хто хоча даць аб'ектыўную ацэнку рэальнаму жыццю. Сучаснасць твора вызначаецца не датай выпуску кнігі, указанай на вокладцы, а цікавасцю да яе сучаснага чытача. Набываючы кнігу і застаючыся з аўтарам сам-насам, чытач хоча пачуць словы шчырай праўды, спавядальную чэснасць.**

Самым сур'ёзным недахопам нашай сучаснай літаратуры, мне здаецца, з'яўляецца пагражальнае багацце штампаў і стандартаў. Прачытаеш пяць-шэсць старонак іншага аўтара і адразу бачыш, чаго варты гэты твор. Станоўчы герой і прыгожы, і разумны, і спявае, і танцуе, і вершы піша, і дзяўчаты за ім увіваюцца. Адмоўны герой і дурнаваты, і непрыгожы, і няўдачлівы, і жонка ад яго ўцякае. Гэта штамп, так сказаць, сюжэтнай лініі, а ёсць жа яшчэ адлітыя па штампу характары, думкі.

Ёсць, ёсць яшчэ пісьменнікі, якія перш чым сесці за чысты ліст паперы, перабіраюць у галаве ўсе «падказкі», установкі — пра што можна пісаць, а пра што нельга. А між тым, дзе пачынаецца «падказка-інструкцыя», там канчаецца творчасць.

Я дазволю сабе зноў звярнуцца да дакументаў апошняга Пленума ЦК КПСС. Вось як характарызуецца стан сучаснай літаратуры і мастацтва ў дакладзе М. С. Гарбачова: «...Знізіліся крытэрыі ў ацэнках мастацкай творчасці. Гэта прывяло да таго, што разам з творамі, у якіх узнімаліся сур'ёзныя сацыяльна-маральныя праблемы, адлюстроўваліся рэальныя жыццёвыя калізіі, выходзіла нямала пасрэдных, безаблічных твораў, якія нічога не давалі ні розуму, ні пачуццям...»

Цяпер жа, калі пытанне аб маральным клімаце грамадства стала ва ўвесь рост, літаратура, як асявы стрыжань культуры, павінна заняць сваё дастойнае, ганаровае месца, якое належыць ёй па праву. Пісьменнікі мусяць кіравацца не падказкамі, а маральнымі інтарэсамі грамадства і той «інструкцыяй», якую піша само жыццё. «Праўдай адзінай», як сцвярджае Васіль Быкаў, бо праўда, нават самая горкая, катэгорыя маральная.

**Пётр ЛІСІЦЫН.**

г. Гродна.

## НАДЗЁННЫЯ РАДКІ

**Мікола ЯНЧАНКА**



●

*Паэзія стала*
*Салодкай, салоннай,*
*Пакінула вуліцы,*
*Плошчы, пероны.*
*Палац патрабуе,*
*Цяпла, мікрафона.*
*Паэзія стала*
*Казённай, салоннай.*
*А колісь паэты*
*Вадзілі натоўпы.*
*Экспромты-куплеты*
*Пранізвалі токам.*
*Для іх прадстаўлялі*
*Не сцэну, а бочкі,*
*Сцякалі паэты*
*Радок за радочкам.*
*Высока і нізка*
*Гучалі паэты,*
*Іх словы, як іскры,*
*Ляцелі над светам.*
*Аж спіны дубелі,*
*Уставалі чупрыны,*
*Як сцяг, узнімалі*
*Паэтаў мужчыны.*
*Гучалі радкі*
*Раскавана і горда,*
*І словы-штыкі*
*Акрылялі акорды.*
*А прад «Марсельезай»,*
*А прад «Марсельезай»*
*Схіляліся нават*
*Агонь і жалеза...*
*Палацы, экраны —*
*Трыбуны мільёнаў.*
*Замнога паклонаў,*
*Замала праклёнаў.*
*Занадта апрошчана,*
*Адрэдагавана,*
*Гул вуліц і плошчаў*
*Знарок прыхаваны.*
*Трывогі замала*
*І праўды салёнай...*
*Паэзія стала*
*Салодкай, салоннай.*

### Не воплескі— мера адданасці

*І сёння падчас падладжваюць,*
*Маўляў, я — табе, ты — мне.*
*І сёння падчас пагладжваюць*
*Па шэрсці, а супраць — не.*
*А лепей бы — праўду ў вочы,*
*Пра недахопы — ўслых.*
*А гладзіць... Гладзьце ўночы*
*Жонак сваіх.*
*Гладзьце, калі яны вартыя,*
*Курыце ім фіміям,*
*А Партыя ёсць Партыя,*
*Партыя, а не сям'я.*
*Не воплескі — мера адданасці*
*Нашай справе святой.*
*Я цвёрда перакананы,*
*Я нават упэўнены, што*
*Калі б мы паменей пляскалі,*
*Менш мелі хвілін халастых,*
*То меней зубамі ляскалі б*
*Каля прылаўкаў пустых.*

### Аб аднадушнасці

*Клапоцяцца аб аднадушнасці.*
*А я скажу прама: «До!»*
*Аднадушнасць — гняздо*
*двудушнасці,*
*Абыякавасці гняздо.*
*Аднадушнасць, сябры, —*
*не выйсце,*
*Аднадушнасць — самападман.*
*Як на дрэве аднолькавых*
*лісцяў,*
*Так аднолькавых думак няма.*
*Дык навошта, жыццю на зругу,*
*Зеляніну з дрэва зрываць,*
*На галіны яго дзяругу*
*Аднастайнасці апранаць.*
*Няхай яно лісцем ляпеча,*
*Спыняючы культ-сухавей,*
*Няхай на ім вечна шчабеча*
*Шчырасці салавей.*

### Парадна сці—бой!

*Параднасці — бой без літасці.*
*Калі захапляцца, то*
*Ленінскай дзелавітасцю,*
*Ленінскай прастатой.*
*Ленінскай прынцыповасцю,*
*Мудрасцю сціплай яго.*
*Апладзіруйце ім пунсовасцю*
*Рэвалюцыйных сцягоў.*
*Апладзіруйце добрымі справамі,*
*Шчырым, крутым радком,*
*Памножанай намі славаю*
*Нашых дзядоў і бацькоў.*
*Зайздросным і простым*
*уменнем*
*Праўду ў вочы сказаць...*
*За гэткія апладысменты*
*І я — за!*

### Сей зерне!

*Адметныя падзеі*
*Ускалыхнулі край,*
*І ўспыхнулі надзеі*
*На добры ураджай.*

*Дык будзь і ты гатовы*
*У шлях да тых надзей,*
*Не абяцанні-словы,*
*А зерне ў глебу сей.*

*Бо не знікае праца,*
*Нібы раса ў пясок,*
*Маленькае зярняці*
*Ўзгадуе каласок.*

*Ты чуеш, кліча поле,*
*Чакае сенажаць.*
*Мітынгаваць даволі,*
*Пара ўжо працаваць.*

*Даўно пара настала*
*Работы, а не слоў.*
*Паменей — заклікалаў,*
*Пабольш — працаўнікоў.*

*Віхуры папяровай*
*Пара адстаўку даць.*
*Паменей — падсумоўваць,*
*Паболей — працаваць.*

*Спакой пакрые ціна —*
*Свядома выбірай:*
*Ці сажалка руціны,*
*Ці творчасці ручай.*

*Не ўбачыць нам аддачы,*
*Калі пярстом ківаць.*
*Паменей — азадачваць,*
*Паболей — працаваць.*

*Не ў конніцы — пяхоце*
*Нам месца ў барацьбе,*
*Не з дзядзі і не з цёці,*
*А пачынай з сябе.*

*Ідзі ў Кастрычнік новы,*
*На быстрыню падзей,*
*Не абяцанні-словы,*
*А зерне ў глебу сей.*

*Аддай натхненню рукі*
*І розум акрылі —*
*І густа ўзыдуць руні*
*На веснавой раллі.*

●

*Раніцою крочу я*
*У мароз,*
*Убіраю ў вочы я*
*Прыгажосць.*
*Серабра навокала,*
*Крышталёў.*
*Снегу роўна з вокнамі*
*Намяло!*
*Хаты утуліліся*
*Ў каўняры,*
*Ў садзе запаліліся*
*Снегіры.*
*Дрэвы, нібы ў квецені —*
*Угадай,*
*Ці то шэрань свеціцца,*
*Ці то май?*
*Над дняпроўскай кромкаю*
*Шызы лес —*
*Ці то сосны з гронкамі,*
*Ці то бэз?*
*Неяк сумна-радасна*
*Мне чагось:*
*Мне не вечнасць дадзена,*
*Я тут — госць.*
*Ціха, і галіначка*
*Не дрыжыць...*
*Дайце, хоць гадзіначку,*
*Мне пажыць.*

## ДУМКА ЧЫТАЧА

**У «Літаратуры і мастацтве» за 2 студзеня 1987 года быў змешчаны нарыс М. Замскага «Затапленне», у якім выказвалася трывога з нагоды будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС: узвядзенне гідраэлектрастанцыі пацягне за сабой стварэнне буйнога вадасховішча ў рэчышчы Заходняй Дзвіны, што ў сваю чаргу прывядзе да частковага затаплення чатырох раёнаў Віцебскай вобласці — Верхнядзвінскага, Полацкага, Браслаўскага і Міёрскага, негатыўна паўплывае не толькі на эканоміку рэгіёна (па апошніх падліках выдаткі на кампенсацыю нанесенага ўрону складуць больш як 20 мільёнаў рублёў), а і нанясе непапраўную шкоду прыроднаму асяроддзю, парушыць экалагічны баланс.**

**Нагадаем, што адмоўную рэакцыю на будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС выказала літаратурная і навуковая грамадскасць Латвіі. Нам стала вядома, што Савет Міністраў Латвійскай ССР стварыў аўтарытэтную камісію для паўторнай экспертнай праверкі тэхнічнага праекта будаўніцтва гідраэлектрастанцыі. Нагадаем і змешчаны нядаўна ў «Литературной газете» артыкул «Засакрэчаны праект», аўтары якога аргументавана даказваюць немэтазгоднасць будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС з эканамічнага, экалагічнага і сацыяльнага пунктаў гледжання. Крытычную ацэнку гідраэнергетычнаму аб'екту даў у сваім артыкуле «Паварот» С. Залыгін у першым нумары часопіса «Новый мир».**

**Сёння мы знаёмім нашага чытача з часткай лімаўскай пошты, атрыманай пасля публікацыі нарыса «Затапленне».**

# ЯШЧЭ РАЗ АДМЕРАЦЬ...

У сваёй рабоце мне даводзіцца сустракацца з некаторымі пытаннямі, узнятымі ў лімаўскім нарысе «Затапленне», і таму лічу магчымым выказаць сваю думку на гэты конт.

Пафас публікацыі накіраваны супраць будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС, якая, па думцы аўтара, нанясе немалую шкоду некаторым раёнам Віцебскай вобласці.

Што і казаць, захад Еўрапейскай часткі краіны адчувае недахоп электраэнергіі, асабліва зімой, і не думаць пра гэта нельга. Але ж будаўніцтву гідраэлектрастанцыі павінны папярэднічаць дэталёва распрацаваныя тэхніка-эканамічныя абгрунтаванні.

Рашэнне аб будаўніцтве Даўгаўпілскай ГЭС, прынятае ў 1971 годзе, можа аказацца памылковым праз тры пяцігодкі. Дарэчы, пачатак праектных работ па Даўгаўпілскай ГЭС прыпадае не на 1971 год, як гэта сказана ў нарысе, а на дзве пяцігодкі раней, ці яшчэ больш. За гэты час змянілася не толькі пакаленне людзей, якія займаліся праектаваннем станцыі, змяніліся і погляды на прыярытэт эканамічнай эфектыўнасці над сацыяльнымі пытаннямі пры вырашэнні буйных народнагаспадарчых задач. (Гл. артыкул прафесара Б. Ракіцкага «Эканамічная эфектыўнасць і сацыяльная справядлівасць» — «Правда», 9 студзеня 1987 г.).

Адсюль вынікае, што нават не падвяргаючы сумненню сапраўднасць лічбаў праекта 70-х гадоў, сёння патрабуецца іх удакладненне з улікам не толькі змен у кошце работ і матэрыялаў, але і выдаткаў на вырашэнне сацыяльных задач.

Другое пытанне — пра зону затаплення. Тут трэба ясна ўявіць сабе, пра якое затапленне ідзе гаворка. Зона пастаяннага затаплення, г. зн. зона вадасховішча пры так званым НПУ (нармальным падпорным узроўні ГЭС) можа быць вызначана дастаткова дакладна. Такая карта павінна быць не толькі ва ўтульным кабінеце высокай інстанцыі, але і ва ўсіх прылеглых да вадасховішча райвыканкомах і гаспадарках.

Больш складанымі з'яўляюцца пытанні ўліку змены гідрагеалагічных умоў на землях, блізкіх да вадасховішча, дзе будуць адбывацца эразійныя і апоўзневыя працэсы на берагах рэк, забалочанасць зямель, гібель лясоў. Усе гэтыя працэсы з'яўляюцца працяглымі, і для правільнага іх прагназіравання трэба выканаць вялікі аб'ём праектна-разведачных работ.

Што датычыць зоны часовага затаплення зямель пры вясенніх паводках, то гэтае пытанне з'яўляецца не самым складаным у навуковых адносінах, праўда, чамусьці пры адных зыходных дадзеных і адзінай нарматыўнай базе гідралагічных разлікаў розныя ведамствы атрымліваюць розныя вынікі, на чым трэба спыніцца больш падрабязна.

Для непадрыхтаванага чытача кароткія тлумачэнні. Гідралагічныя з'явы ў натуральных умовах, г. зн. да пабудовы ГЭС, у тым ліку максімальную вышыню ўзроўню вады ў рацэ ў будучыя паводкі, можна вызначыць метадамі матэматычнай статыстыкі, на аснове шматгадовых назіранняў за паводкамі. Напрыклад, і пры аднапрацэнтнай верагоднасці (самая вялікая паводка за 100 гадоў), ці 2-працэнтнай (раз у 50 гадоў), ці 5-працэнтнай (раз у 20 гадоў), ці нават 0,1-працэнтнай (раз у 1000 гадоў), хоць кожная з іх можа наступіць у любы наступны год.

Па Заходняй Дзвіне ў межах БССР назіранні праводзяцца па Віцебску — з 1878 г., па Полацку — з 1936 г., па Дзісне — з 1881 г. Дык вось, пры адных і тых жа назіраннях узровень натуральных паводак адной і той жа верагоднасці— 1-працэнтнай, вызначаны гідраметэаслужбай СССР на 80 сантыметраў вышэй за прынятьі інстытутам «Гідрапраект» у праекце Даўгаўпілскай ГЭС. Відавочна, што пасля пабудовы ГЭС максімальныя ўзроўні паводкі ўзрастуць. Так, напрыклад, для 1-працэнтнай верагоднасці ў Друі прыкладна на 140 сантыметраў (а для 5-працэнтнай — на 190 сантыметраў) вышэй, чым пры натуральных умовах, а ў Верхнядзвінску адпаведна на 110 сантыметраў (на 130 сантыметраў). Але які натуральны ўзровень паводкі лічыць правільным?

Калі (як мяркуе аўтар нарыса і цытуемыя ім субяседнікі) у праекце свядома зменшылі ўзроўні паводкі для змяншэння кошту ГЭС, то, канечне, пры высокай паводцы апраўдацца несумленным гідрабудаўнікам вельмі проста, маўляў, здарылася паводка больш рэдкай паўтараемасці. Паколькі розніца ў вызначэнні ўзроўняў з'яўляецца істотнай, лічу, што гэтае пытанне павінна быць падрабязна разгледжана незалежнай аўтарытэтнай экспертызай.

Вядома, у кароткім пісьме ўсіх пытанняў, звязаных з будаўніцтвам ГЭС і вадасховішча, не разгледзець. Але яшчэ адну тэму трэба крануць (праўда, тут я карыстаюся толькі звесткамі, узятымі з нарыса ў «ЛіМе»). Будаўніцтва ГЭС ускладзена на Мінэнерга СССР, а значныя спадарожныя работы — на іншыя міністэрствы і ведамствы, на што павінны быць выдаткаваны адпаведныя сродкі. Але магчымасці гэтых падрадных арганізацый абмежаваныя і рэзка ўзрасці не могуць. Тым не менш, замест вырашэння іншых надзённых задач яны павінны будуць займацца справамі, якія звязаны з Даўгаўпілскай ГЭС. Не выключана і наступная сітуацыя. Дапусцім, энергетыкі сканцэнтруюць свае намаганні і «хутка» закончаць будаўніцтва ГЭС (нарматыўная працягласць яго ўжо вычарпана). Далей што? ГЭС ёсць, а рэчышча вадасховішча не гатова, вынас населеных пунктаў, гаспадарчых пабудоў і мастоў не зроблены, іншыя пытанні, адзначаныя ў нарысе (ахова фауны, лёс археалагічных помнікаў і г. д), не вырашаны. Але ўсё роўна даецца каманда пусціць электрастанцыю ў эксплуатацыю, у сувязі з гэтым хуценька запаўняецца вадасховішча, а астатняе, маўляў, не наш клопат — трэба было «пакруціцца» рэспубліканскім арганізацыям.

Вывад. Калі, па сцвярджэнні «ЛіМа», невядома, хто, калі і за якія сродкі будзе вырашаць вялікае кола пытанняў, звязаных з затапленнем часткі тэрыторыі рэспублікі, то такая будоўля ўвогуле не павінна была пачынацца.

**Э. КРУГЛЯНСКІ,**
**галоўны інжынер праектаў «Белдзіпрадара» Міндарбуда БССР.**

## РЫЗЫКОЎНЫ ПРАЕКТ

**Першая мая рэакцыя на «Затапленне» — абурэнне! Узнікае вось якое балючае параўнанне. Мінулы год прынёс бяду паўднёвым раёнам нашай рэспублікі, я маю на ўвазе чарнобыльскую катастрофу. Людзі пакінулі абжытыя мясціны, урадлівыя землі надоўга выключаны з абароту. Безадказнасць, халатнасць, недысцыплінаванасць, памылкі і недахопы — такія словы прагучалі на спецыяльным пасяджэнні Палітбюро ЦК КПСС. Не ў апошнюю чаргу яны адносіліся і да Міністэрства энергетыкі і электрыфікацыі СССР, непасрэдна да самога міністра.**

**Цяпер жа высвятляецца, што тысячы сем'яў павінны будуць пакінуць родныя хаты і на Віцебшчыне. Відаць, для энергетыкаў галоўнае «отчитаться» за будаўніцтва ГЭС, а ўва што гэта адальецца, ім галава не баліць. Ці не варыянт гэта гісторыі з праектам пераківду паўночных рэк? Няўжо зноў патрэбны будуць спецыяльныя пастановы партыі і ўрада, каб спыніць сапраўдны здзек з зямлі і людзей?**

**У заключэнне выкажу яшчэ некалькі сваіх меркаванняў. Першае. Праект, які нарадзіўся яшчэ ў 1971 годзе, не можа адпавядаць у поўнай меры ўмовам нашага часу. Другое. Навуковае абгрунтаванне праекта трэба абавязкова абмеркаваць спецыялістам розных галін. Мне здаецца, што «Літаратура і мастацтва» магла б арганізаваць на сваіх старонках «круглы стол» з удзелам усіх зацікаўленых асоб, у атмасферы поўнай публічнасці. Трэцяе. Калі ў выніку ўсебаковага аналізу выявіцца неэканамічнасць і экалагічная небяспечнасць праекта, яго ажыццяўленне трэба неадкладна спыніць.**

**Хопіць безадказнасці і рызыкоўных эксперыментаў!**

**П. БАЯНКОЎ,**
**інжынер.**
г. Мінск.

## ГАЛОЎНАЯ КАШТОЎНАСЦЬ— ЧАЛАВЕК

**Нас вельмі ўсхваляваў матэрыял «Затапленне» У ім пераканаўча даведзена, што шкоды ад Даўгаўпілскай гідраэлектрастанцыі будзе куды больш, чым карысці. Цалкам падзяляем заклапочанасць аўтара артыкула. Хочам далучыць свае галасы пратэсту супраць бяздушнасці і абыякавасці асоб, якія ставяць подпісы, не задумваючыся аб выніках. Чаму ж зноў росяцца прыкрыя памылкі, узаконьваюцца неабгрунтаваныя рашэнні? Трэба ж знаходзіць мужнасць, каб прызнаваць памылкі, адольваць сілу інерцыі. Але галоўнае — каб за лічбамі, тэхнічнымі планамі бачыць найперш чалавека, яго лёс, яго кроўныя інтарэсы**

**СЯМ'Я СІЎЧЫКАВЫХ.**
г. Мінск.

Штрыхі да творчага партрэта
Міколы АРОЧКІ

# ДОТЫК РОДНАСЦІ

ПЕРАЧЫТВАЕШ адну за другой кнігі пісьменніка — *быццам* пражываеш гады і дзесяцігоддзі чалавечага жыцця, сталееш разам з аўтарам. І хоць гэта чужое жыццё, але нешта ў ім становіцца ўжо нібыта і тваім, западае ў душу, робіць яе больш чуйнай, відушчай, трывалай...

Мікола Арочка з тых паэтаў, якія могуць сказаць: мая біяграфія ў маіх творах. Не будзем разумець гэта ў прамым сэнсе, асобныя моманты жыцця лірычнага героя разыходзяцца з біяграфіяй аўтара. Аднак разыходжанні — у нейкіх знешніх, канкрэтных сітуацыях, светаадчуванне ж, жыццёвая пазіцыя паэта і яго героя рэдка калі аказваюцца непадобнымі.

Па першых зборніках «Не ўсе лугі пакошаны» (1957) і «Ветраломная паласа» (1962) аўтар уяўляецца шчырым, крыху наіўным, улюбёным у жыццё рамантыкам, сэрца якога б'ецца ў шчаслівай суладнасці з навакольным светам.

**Іду, як заваражаны,**
**А спеў плыве з-за гаці:**
**«Ці ўсе лугі пакошаны,**
**Ці ўсе сенажаці?..»**
**Касьба за Шчараю пяе,**
**Звініць над паплавамі.**
**Лугі надрэчныя мае,**
**Даўно я ў дружбе з вамі!**

Здаецца, усё вакол маладога паэта напоўнена святлом і радасцю. Нягоды, цяжкасці засталіся недзе там, на «стаптаных сцежках маленства», успаміны пра іх не могуць надоўга азмрочыць настрой.

Не з ранніх, а з пазнейшых твораў даведаемся мы пра «перакалочаныя ночы», якіх дагэтуль баіцца аўтар («Перакалочаныя ночы»). Пра тое, што ён мог бы быць пятым, спаленым на хутары («Хутарская балада»). Што вайна хацела дастаць яго і пасля — снарадам, мінай: цэленькія, здольныя кожную секунду выбухнуць смерцю, яны часта ў першыя мірныя гады траплялі падлеткам («Далёкія кастры»).

Перажытае і пабачанае ў гады вайны, пэўна ж, сыграла сваю ролю ў тым, што М. Арочка напісаў драматычную паэму «Курганне» — шматпланавы, складаны па пабудове твор, у якім узнаўляецца трагедыя спаленых беларускіх вёсак. Не маглі не трывожыць паэта ўспаміны, не будзіць яго думку, прымушаючы звязаць у адно цэлае мінулае і сучаснасць. Цяжка з такой яркасцю ўявіць, гэта трэба ўбачыць, і не вачамі дарослага чалавека, а дзіцячай учэпістай да колераў, пахаў і гукаў памяццю:

**Чым жа хляўну адкупіцца?**
**Куркай рабою з седала?**
**Цялём-сысунком, што даверліва**
**У рукі тыкае пысай**
**І соладка пахне малодзівам?..**

Прафесійная даследчыцкая назіральнасць і чуласць падштурхнулі М. Арочку да высновы, што беларуская паэма пакуль што ў даўгу перад самай жахлівай праўдай вайны, што «наш ліра-эпас пры ўсёй павышанай зацікаўленасці новага прачытання гэтай трагічнай старонкі знаходзіцца яшчэ на пачатковай стадыі жывапісання і апісання». Няма ў словах даследчыка (цытата ўзята з манаграфіі Міколы Арочкі «Беларуская савецкая паэма», 1979) недаацэнкі зробленага на той час паэтамі А. Бялевічам, Г. Бураўкіным, Г. Кляўко, Б. Спрынчанам, ён хоча толькі, каб паэмы пра хатынскую трагедыю набылі праблематычную глыбленасць, філасафічнасць асэнсавання — тое, чаго ўжо дасягнула нацыянальная проза. Аднак, думаецца, паэма «Курганне» нарадзілася не з жадання запоўніць убачаны прабел у роднай літаратуры, а з жадання асабістай далучанасці да перажытага народам у мінулую вайну.

Месца дзеяння ў паэме канкрэтызаванае: у вёсцы жывуць знакамітыя ганчары, якія дарылі навакольным жыхарам «начынне звонкае — збанкі, свісцёлкі», стаіць яна каля гары і ў свой апошні дзень поўніцца спрадвечнымі спадзяваннямі і клопатамі, але ў творы няма апісальніцтва. Сцэны, эпізоды, *вобразы набываюць* у паэме сімвалічную шматзначнасць, часам вельмі складаную, як, напрыклад, вобраз хлеба, Курган-гары. Паэт імкнецца давесці не столькі жахлівасць таго, што мае адбыцца з вёскай, колькі асэнсаваць саму трагічную падзею, у выніку якой «памёр тут час. Згас цэлы свет». Памёр і згас назаўжды і бясследна — гэта самае страшнае. Янка, вогненны прывід паэта, ва ўступным маналогу гаворыць:

**Ва мне ж спапілі сведчанні ўсе,**
**песні —**
**Пусцілі іх, як іскры,**
**З дымам хат.**
**Жахлівых сведак шмат.**
**Але паэта**
**Няма ў нас з вёсак вогненных.**
**Няма.**

Безумоўна, з вышыні напісанага ў 70-я і 80-я гады першыя зборнікі паэта бачацца ў многім рытарычнымі і сузіральнымі. У іх адчувальны погляд на жыццё збоку, калі нейкі факт ці падзея хоць і перажыты, але яшчэ не асэнсаваны, не сталі набыткам душы. Толькі, думаецца, для пачаткоўца наіўнасць і пэўная аднабаковасць светаадчування ўсё ж больш прывабныя рысы, чым не забяспечаная вопытам глыбакадумнасць. Вершы «На канікулах», «Пакуль маладзы», «Не раз мяне прыводзіла дарога...», «Недзе на зялёнай пойме Ніла...» (яго ў свой час любіў цытаваць У. Караткевіч), лепшыя вершы з наступных зборнікаў «Ветраломная паласа» і «Крылатае семя» (1967) сведчаць: тое, што ідзе з душы, здольна высекчы іскрынкі паэзіі. Уключаныя ў кнігі выбранага «Колас на ржышчы» (1980) і «Бяздоннае» (1985), амаль усе яны здаюцца там да месца. Раннія вершы, уступаючы часам у плане асэнсавання рэчаіснасці, кранаюць іншым: юнацкім максімалізмам, шчырасцю, непасрэднасцю, светлым парываннем у будучыню.

Па-маладому наіўнае рамантычна-ўзнёслае стаўленне да свету не магло не змяніцца, з часам на месца колішняй захопленасці павінен быў прыйсці роздум над жыццём. Такім мы бачым М. Арочку ў зборніках «Матчына жыта» (1978) і «Падземныя замкі» (1986), у паэмах «Курганне», «Крэва» (1982). Аднак лепшыя творы, якія прыходзяцца на канец 70-ых і 80-ыя гады і якія сведчаць, што патэнцыі развіцця паэтам яшчэ не вычарпаны, — у значнай ступені працяг знойдзенага раней. Ці быў у свой час нечаканасцю зборнік «Матчына жыта», з яго выразна заяўленым «імкненнем да філасофскага аналітызму» (А. Вярцінскі)? Думаецца, не, бо такое імкненне заўважна і ў ранейшых вершах («Ветраломная паласа», «Растанне», «Пра вянцы», «Крылатае семя», «Абразок з маленства» і інш.), толькі не заўсёды яно магло стаць паэзіяй.

Дзеля аб'ектыўнасці варта агаварыцца, што і ў апошніх *творах думка паэта не заўсёды* набывае неабходную значнасць і непаўторную асабовасць. Часам у іх жыццёвы факт не ўступае ў шырокія шматмерныя сувязі з чалавечым светам, так і застаецца адзінкавым у сваёй звычайнасці фактам. Былі такія вершы ў зборніку «Матчына жыта», ёсць яны таксама ў «Падземных замках», напрыклад, «Перапахванне», «Грымеў у кузні за сялом...», «Ранні званок». Не ўсюды атрымліваецца размова з вялікімі папярэднікамі. Але, відаць, паэт гэта разумее і сам. Інакш ці з'явілася б падобнае прызнанне:

**Як цяжка мне выходзіць да вяршыні!**
**Да тайнікоў духоўнасці**
**цягнуцца,**
**Пад ношаю праблем трывожна**
**гнуцца...**

Няпростае гэта ўменне — бачыць адначасова пачатак і працяг, імгненне ўзводзіць да вечнасці...

Калі ўважліва паглядзець на папярэднюю творчасць М. Арочкі, то не здасца нечаканым і яго зварот да сівой мінуўшчыны ў паэме «Крэва». З самага пачатку была прыкметна цяга паэта да каранёў.

**Родны край!**
**...як сыну павер мне:**
**Не хачу між калосся**
**быць коласам тым,**
**Што часамі ўзрастае без зерня,**

— пісаў ён у адным з самых ранніх твораў («Пакуль маладзы»). З гадамі пачуццё прывязанасці да роднай зямлі канкрэтызавалася і паглыблялася, каб выказаць яго, паэт шукаў і знаходзіў свае шчырыя і праніклівыя словы:

**Я тым не падобны да дрэў,**
**Што вырваць карэнне магу,**
**развітацца,**
**Падацца ў свет,**
**але потым вяртацца**
**Збалелай душою ў свой кут,**
**Што сагрэў...**
**(«Пануе ў свеце закон паскарэння...»)**

Вёска, вясковы свет з'яўляюцца вызначальнымі ў творчасці паэта. Слушна адзначаў В. Бечык у прадмове да зборніка «Колас на ржышчы», што «набліжанасць да маральна-псіхалагічных асноў народнага быцця, да спраў і клопатаў людзей, якія вырошчваюць хлеб, фарміруе паэтаў погляд на сучасны свет, дае паэту трывалую меру сапраўдных жыццёвых каштоўнасцей». Гэта набліжанасць падказала паэту і асноўныя тэмы-вобразы. Бацькаўшчына, родная мова, радзінная хата, жыта, хлеб, зямля і ўсё жывое на ёй — яны, зусім не новыя для нашай літаратуры, загучалі ў Арочкі па-свойму, а значыць, і па-новаму, набылі ў лепшых яго творах сучасную метафарычнасць і сімвалізм (жыта ў паэме «Матчына хата», хлеб у «Курганні» і інш.). Творчасць паэта сведчыць, што традыцыйнасць тэм і вобразаў не можа перашкаджаць аўтару быць на ўзроўні часу, мысліць і гаварыць так, як патрабуе сучасная рэчаіснасць. Адвечнымі сялянскімі паняццямі — жыта, сноп, сяўба, зямля — выказваецца ў паэме «Матчына жыта» найактуальнейшая сёння праблема — захаванне міру.

З нейкага часу адчуванне кроўнай сувязі з радзімай набыло ў творах паэта выразную гістарычную рэтраспекцыю. Зусім не выпадковымі бачацца ў зборніку «Падземныя замкі» наступныя радкі: «Я родам — з тое долі пад'ярэмнай...»

Мінулае для паэта не ёсць небыццё — «Пылінкі праху раздзьмувае вецер — і з мёртвага ўспыхвае жывое». Яно вабіць да сябе не толькі цяжкай разгадкай таго, «хто мы былі?», а і жаданнем зразумець «хто нашы нашчадкі? Які наш лёс далейшы?..» У паэме «Крэва» паказана, як рыхтаваўся дзяржаўны саюз Вялікага княства Літоўскага з Польшчай (Крэўская унія), які прадвызначыў пазнейшыя шматлікія складанасці і цяжкасці на гістарычным шляху беларускага народа. На старонках твора паўстаюць постаці вялікіх князёў Кейстута, Вітаўта, Ягайлы, іх барацьба за ўладу і магутнасць дзяржавы. Аднак значэнне «Крэва» пазнавальным зместам не вычэрпваецца: аўтар не проста расказвае пра падзеі пяцівяковай даўнасці, ён імкнецца асэнсаваць іх. А тое, што менавіта асэнсаваўчага моманту не хапае гістарычным творам беларускай літаратуры, сведчыць хоць бы прыклад паэм Т. Бондар «Рагнеда» і У. Скарынкіна «Астральны знак».

Змяніліся часы, іншымі сталі свядомасць і норавы людзей, аднак свет яшчэ не стаміўся вырашаць многія з тых пытанняў, якія вырашаліся калісьці нашымі продкамі: «Хіба трывалым можа быць яднанне на прымусе?», як жыць, «каб у свет ісці... не прыйшлося жабракамі?..» З іх няпростага вопыту, з іх трагічных памылак і страт вырастае запавет сучаснаму грамадству:

**З земель агульных нашых**
**здабываць**
**Два словы —**
**Еднасць...**
**браталюбства.**

Мяркуючы па зборніку «Падземныя замкі», адчуванне асабістай далучанасці да гісторыі свайго народа стала ў паэта светапогляднай перакананасцю. Таму так горача абараняе ён духоўнасць жыцця далёкага продка ў вершы «Спрэчка наконт духоўнасці». Пераконваючы свайго апанента, паэт зноў жа не аддзяляе сябе ад таго, аддаленага стагоддзямі чалавека, для якога «родны свет кружыўся ў вузкім коле»:

**Ды няўжо ў тым свеце,**
**Пад травой,**
**Не краналася маё карэнне —**
**Праз гаркоту —**
**І вады жывой?**
**Тых гаючых сіл, калі араты**
**На раллю сядаў —**
**І пот крысом!**
**Заміраў, захоплены, працяты**
**Навакольнай роднаю красой...**

Не абмежаванасць і духоўную беднасць бачыць паэт у мінулым свайго народа, адвечнага ратая і сейбіта — пад сялянскай страхой жылі гасціннасць, мужнасць, мудрасць. Яны дапамаглі народу выстаяць «на скрыжаванні мячоў і магіл» — такой часта была гісторыя для беларусаў, — данесці да нас, «ад пятлі ўратаваўшы, роднай мовы пяшчоту, і пах, і красу».

М. Арочка не любіць гаварыць ад імя абагуленых «нас». Вось і ў вершы «Дарогі Беларусі» (напісаны ў 1978 г.), радкі з якога цытаваліся вышэй, чытаем:

**...гэты скарб**
**без распіскі прыняўшы,**
**да нашчадкаў**
**ці я**
**ў чысціні данясу?**

Магчыма, тут мацней прагучала б «мы», беларусы, больш пэўна паказаўшы на стан роднай мовы на мяжы XX і XXI стагоддзяў, аднак у цэлым гэта прывабная рыса ў паэта. Перабудову свету варта пачынаць з уласнага «я», апеляцыя ж да «нас» часта выглядае як перакладванне асабістай адказнасці на плечы бязлікіх «усіх».

Апошні зборнік дае надставы для меркавання, што тэма мінулага ў творчасці паэта становіцца адной з галоўных. Значная частка вершаў («Слова да Скарыны», «Крошын», «Заклінанне Чыжыка беларускага», «Маналог Зянона» і інш.), паэма «Мелодыя Таўлая» навеяны роздумам над лёсам папярэднікаў, над роллю гісторыі ў сучасным жыцці. Канцэптуальным для сённяшняга Арочкі ўяўляецца верш «Падземныя замкі» (не выпадкова ж ён даў назву ўсяму зборніку!). Першае палажэнне канцэпцыі: пакуль у нас ёсць свой гістарычны дом, мы не бяздомнікі. І другое: паэт бачыць нялёгкую сувязь паміж тым, што «сталі калісьці падземныя замкі», а сёння падземным, знішчаным, зруйнаваным можа стаць увесь чалавечы свет.

Як бачым, і зварот да мінулага абумоўлены ў многім імкненнем разабрацца ў сучаснасці. Многія вершы народжаны неспакоем за сённяшні свет. Неспакоем не імітаваным, а сапраўдным, калі «сваімі» становяцца балючыя праблемы часу. Такіх вершаў, як «Відавочцы», у якім паэт пагаджаецца з няўмольнай хадой часу і заклікае пісаць «проста — на ўспамін нашчадкам» пра сум жураваў, пра досвіткі, яшчэ не дымныя, пра птушыныя капэлы і васількі ў жыцце, не шмат знойдзеш у зборніках. Чалавека на зямлі ён бачыць не проста наступнікам, а «заступнікам яе харастава, праваты». Надоўга цешыў паэтава сэрца вобраз ветраломнай паласы — векавых дубоў плячо да пляча, пераплеценых лап клёна («Ветраломная паласа»). Яму хутка адкрылася ўзаемазвязанасць і ўзаемазалежнасць усяго жывога на зямлі:

**Крані адно звяно**
**з набраклых парасткаў —**
**і недзе недарод і невырост.**
**Тапор ударыць —**
**спадцішка, па-варварску,**
**і здрыгане зямля за сотні вёрст.**
**(«Таемнасць першасных перапляценняў...»).**

Гэта ж думка вар'іруецца і ў вершы «Дзіву даемся...» (зб. «Падземныя замкі»), аднак тут яна набывае яшчэ большую маштабнасць, бо ў сферу ўзаемадачыненняў уключаецца і духоўны свет чалавека. Кожны зламысны стрэл і выбух, гаворыць аўтар, збіваюць зямлю з прызначанай арбіты і ўсё далей адхіляюць «з кроўнажыццёвага курсу чалавека».

Аднак усхваляванасць, устрывожанасць паэта рэдка выяўляюцца ў форме пафасна-публіцыстычнай, як, напрыклад, «Маналог Зянона» ці напісаны раней «Шукаю заклінання ад распаду» (верш з нязначнымі зменамі ўвайшоў у паэму «Курганне»). Пераважае стрымана-роздумная інтанацыя, яны, за рэдкім выключэннем, пазбаўлены знешняй эфектнасці, калі аўтар у сціплай афарыстычнай форме называе нейкія набалелыя моманты жыцця і дае ім

**(Заканчэнне на стар. 6—7).**

# ЯКОЙ БЫЦЬ ПРАГРАМЕ?

**З пасяджэння прэзідыума праўлення СП БССР**

Рэформа сярэдняй агульнаадукацыйнай і прафесійнай школы, якая праводзіцца зараз у нашай краіне, вялікае значэнне надае перабудове выкладання дысцыплін гуманітарнага цыкла. Не выпадкова адным з пытанняў на пасяджэнні чарговага прэзідыума праўлення СП БССР было абмеркаванне праекта праграмы па беларускай літаратуры для 5—11 класаў сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. На пасяджэнне былі запрошаны прадстаўнікі Навукова-даследчага інстытута педагогікі Міністэрства асветы рэспублікі.

Некалькі гадоў назад пры Саюзе пісьменнікаў была створана камісія па выкладанню беларускай мовы і літаратуры ў школе, сказаў ва ўступным слове старшыня гэтай камісіі Б. Сачанка. Камісія ўжо разглядала першы варыянт праекта новай праграмы, аднак не ўсе заўвагі, якія яна адрасавала Міністэрству асветы, пры складанні новага праекта былі ўлічаны. Гэта і абумовіла вынясенне пытання аб школьнай праграме на пасяджэнне прэзідыума праўлення СП.

Дырэктар Інстытута педагогікі М. Лазарук праінфармаваў прысутных аб рабоце, якая была праведзена супрацоўнікамі над складаннем новага варыянта праекта праграмы. Прамоўца адзначыў, што на абмеркаванне вынесены праект, а не канчатковы варыянт праграмы, і таму агульным клопатам з'яўляецца паляпшэнне і ўдасканаленне яго.

Актыўны ўдзел у абмеркаванні прынялі многія вядомыя пісьменнікі і літаратуразнаўцы.

У выступленні У. Калесніка, у прыватнасці, адзначалася, што праграме не хапае той натхнёнай любові да прадмета, якая здольна захапіць навучэнца. Тут пераважае тэндэнцыя «вытлумачваць» у спрошчанай форме хрэстаматыйныя азы літаратуразнаўства ў сумесі з сацыялагізатарскімі догмамі. І што самае галоўнае — праграме не хапае гістарызму, г. зн. стараннага прывядзення канцэпцыі гістарычнага развіцця беларускай літаратуры ў адпаведнасць з навуковымі дадзенымі сучаснага беларускага літаратуразнаўства. Увесь перыяд развіцця беларускай літаратуры за дакастрычніцкі час аўтары палічылі мажлівым укласці ў 51 гадзіну (разам з урокамі развіцця мовы і пазакласнага чытання). На старажытную беларускую літаратуру адведзена 3 гадзіны, гаварыў У. Калеснік. А між тым, гістарызм на ўроках роднай літаратуры павінен дапамагчы вучню мацней звязаць сваю асобу будучага савецкага грамадзяніна з мінулым свайго краю і свайго народа, а значыць сваё «я» з лёсам народа, зразумець, што дружба савецкіх народаў — гэта плён вялікай і ахвярнай барацьбы перадавых сіл усіх народаў нашай краіны. У арыентацыйных жа пытаннях не ўспамінаецца ніводнае паўстанне супраць царызму. Вучань да восьмага класа не чуе іменаў Скарыны, Каліноўскага, наогул не ведае іменаў Усяслава і Ефрасінні Полацкай, К. Тураўскага, С. Буднага, В. Цяпінскага, А. Філіповіча, К. Лышчынскага, не ведае, што такое Статут Вялікага княства Літоўскага і г. д. Тры гадзіны, якія адводзіць праграма сярэдняй школы на старажытную беларускую літаратуру і літаратуру Адраджэння (самую багатую сярод усходнеславянскіх), літаратуру асветніцтва і барока — гэта нейкае непаразуменне, адзін з вульгарных алагізмаў у мадэліраванні выхавання грамадзянскай свядомасці маладога пакалення. Не выкарыстаны рэальныя здабыткі беларускай гістарычнай прозы, паэзіі, драматургіі. Няма ў спісах пазакласнага чытання ніводнай гістарычнай п'есы У. Караткевіча, паэм М. Танка, В. Зуёнка, А. Разанава, даследаванняў А. Мальдзіса, Г. Кісялёва, не прапагандуюцца здабыткі сучаснага гістарычнага беларускага жывапісу, помнікі старажытнай архітэктуры, вырабы мастацкіх рамёстваў. Матэрыял па беларускім фальклоры застаецца мізэрным, нягледзячы на пэўныя папраўкі. Як можна вывучаць каляндарна-абрадавыя песні без знаёмства з самімі каляндарнымі абрадамі, сямейна-абрадавыя — без сямейных абрадаў? Да якога ж часу можна заставацца ў палоне сацыялагізатарскіх схем, паводле якіх фальклор — гэта ілюстрацыя класавай барацьбы, а не скарбніца народнай мудрасці? — прадаўжаў У. Калеснік.

Раздзел «Міжпрадметных сувязей» — гэта ў многіх выпадках прыніжэнне этычных і мастацкіх вартасцей таго прадмета, які вучню належыць вывучаць на ўроках беларускай літаратуры. Класікі марксізму зыходзілі з прынцыпу роўнасці ўсіх нацыянальных культур. Без гэтага не можа быць прызнання гістарычнай роўнасці нацый і народаў. Аўтары ж праграмы мысляць катэгорыямі феадальна-чыноўніцкай субардынацыі. У праграме XI класа раздзел «Міжпрадметныя сувязі» па аб'ёме спаборнічае з уласна літаратурай. Варта, відаць, памятаць: чым больш уводзіцца тэм у гэтую рубрыку, тым больш акажацца верхаглядства ў змесце ўрокаў і ведах вучняў, верхаглядства запраграміраванага і заканадаўча ўстаноўленага. Хіба гэтага патрабуе перабудова школы і народнай асветы, хіба гэта новае мысленне?

Думаецца, што гэты раздзел трэба нацэліць на выяўленне арыгінальнага, а не падобнага, яго неабходна ўзбагаціць матэрыялам літаратур усіх народаў СССР, а таксама сусветнай літаратуры і культуры, выклікаючы вучня на роздум пра агульначалавечыя, глабальныя праблемы веку, адзначыў У. Калеснік.

Што ж датычыць колькасці вучэбных гадзін, то як можна ўсур'ёз гаварыць пра павелічэнне, калі ў 5-ым класе дадаецца 16 гадзін, у той час як тэрмін навучання ў школе павялічваецца на адзін год. Патрэбна карэнная перабудова праграмы, каб яна адпавядала ў мініяцюры новаму курсу гісторыі беларускай літаратуры, — так закончыў сваё выступленне У. Калеснік.

У вынесеным на абмеркаванне праекце новай праграмы я ўбачыў добра знаёмую старую світку, толькі з прышытымі новымі латкамі, пачаў сваё выступленне А. Клышка. Свежы вецер перамен амаль яе не крануўся. Тут па-ранейшаму ў наяўнасці засацыялагізаванае, ілюстрацыйнае разуменне літаратуры, задач і мэт яе вывучэння ў школе. У праекце прыведзены толькі тыя выказванні У. І. Леніна, якія ёсць у праграме і па рускай літаратуры, але не знайшлі адлюстравання ленінскія выказванні пра Беларусь, без якіх марксісцкае разуменне і вывучэнне гісторыі беларускай літаратуры немажліва. Кідаецца таксама ў вочы адсутнасць у праграме патрыятычных твораў Ф. Багушэвіча, Янкі Купалы, М. Багдановіча. Хіба ёсць на свеце літаратура, якая не адлюстравала б любові народа да свае роднай мовы, да роднай зямлі?! — гаварыў А. Клышка. У праграму павінна ўвайсці лепшае з лепшага. Гэта своеасаблівы літаратурны «генатып» нацыі, які вучань павінен атрымліваць са школы на ўсё сваё далейшае жыццё.

У. Калеснік добра казаў тут аб знявечанні ў праграме нашай старажытнай літаратуры, прадаўжаў А. Клышка. Няпоўнае ўяўленне застаецца і аб пачатку XX стагоддзя. Я лічу, што трэба ўключыць у падручнік IX класа творчасць Максіма Гарэцкага, у прыватнасці яго аповесць «На імперыялістычнай вайне», якая завяршыла б дакастрычніцкі перыяд нашай літаратуры. Даўно чакае наша школа манаграфічнага вывучэння рэвалюцыйнай паэзіі Валянціна Таўлая. Яго выдатная паэма «Таварыш», прысвечаная гераічнаму змаганню з фашызмам у Іспаніі, пашырала б уяўленне вучняў пра тэматычныя абсягі беларускай паэзіі першай паловы дваццатага стагоддзя. Для манаграфічнага вывучэння ў XI класе з жывых пісьменнікаў павінны ўключацца толькі тыя, хто атрымаў шырокае прызнанне. Самым уважлівым чынам неабходна паставіцца да адбору твораў для тэкстуальнага вывучэння. Чакаюць уключэння ў праграму такія шэдэўры, як танкаўскія «На пероне», «Ave Maria». Пры разглядзе гісторыка-рэвалюцыйнай тэмы ў сучаснай літаратуры недаравальна выпаў раман А. Чарнышэвіча «Засценак Малінаўка», закончыў сваё выступленне А. Клышка.

Многія палажэнні новага праекта праграмы механічна запазычаны з рускіх праграм, адзначалася ў выступленні Р. Шкрабы. Ёсць многа тэкстаў, якія апынуліся ў праграме адвольна, у той час, калі складальнікі не здолелі знайсці месца класіку беларускай літаратуры М. Гарэцкаму.

Безумоўна, гэты праект у большай ступені адпавядае задачам выкладання літаратуры ў школе, чым ранейшая праграма, гаварыў В. Рагойша. Але, напрыклад, у 8-ым класе за 9 гадзін, адведзеных на сучасную літаратуру, прапануецца вывучыць творчасць 13-ці празаікаў, 15-ці паэтаў, 3-х драматургаў — усяго 31 аўтар. Які настаўнік можа справіцца з такой задачай? Прытым для вывучэння часам прапануюцца не лепшыя творы сучасных пісьменнікаў. (Напрыклад, «Выбачайце, калі ласка» А. Макаёнка ці «Глыбокая плынь» І. Шамякіна). Праект праграмы стараецца ўсяляк абысці вострапраблемныя складаныя творы сучаснай літаратуры. Ні адзін з апошніх публіцыстычных твораў П. Панчанкі не знайшоў месца ў спісе для пазакласнага чытання, у той час як у рускіх праграмах ёсць і «Сумны дэтэктыў» В. Астаф'ева і «Плаха» Ч. Айтматава — творы, якія выклікалі найбольш спрэчак у апошні час. Нельга ставіць і творы У. Караткевіча ў шэрагу іншых, творчасць гэтага пісьменніка патрабуе сур'ёзнага манаграфічнага вывучэння. Думаецца, што мэтазгодна ўключыць у курс беларускай літаратуры гадзіны на вывучэнне творчасці замежных пісьменнікаў і пісьменнікаў народаў СССР. І самае галоўнае — неабходна публічна, у друку абмеркаваць гэты праект, падкрэсліў В. Рагойша.

Нельга спадзявацца на тое, што мы зможам выпрацаваць такую праграму, якая б вырашыла ўсе нашы праблемы, зазначыў В. Вітка. Аднак адзін з галоўных падыходаў да задач навучання ў школе — эстэтычны крытэрый — амаль цалкам занядбаны, у праекце мы бачым перш за ўсё сацыялагічныя блокі. Мы занадта многае прыхавалі з нашай гісторыі і літаратуры. І калі мы не адкрыем праўду нашым дзецям, ніякага ўзаемадаверу між намі не будзе.

На пасяджэнні выступілі В. Быкаў, В. Івашын, Г. Каржанеўская, А. Рагуля, А. Карпюк.

Вынікі гаворкі падсумаваў першы сакратар СП БССР Н. Гілевіч. Ён зазначыў, што на абмеркаванне быў прадстаўлены не канчатковы варыянт праграмы, а толькі праект, і праект недапрацаваны. Гэтым у многім тлумачацца яго шматлікія хібы. Але ўсе мы сыходзімся на тым, што трэба агульнымі намаганнямі рашуча ламаць стэрэатыпы, якія існавалі на працягу дзесяцігоддзяў у асвятленні нацыянальнай гісторыі і літаратуры. Неабходна паставіць пытанне дакладна: што мы хочам ад літаратуры ў школе? Сягоння трэба альбо пачаць усё па-новаму, альбо па-ранейшаму падмалёўваць старое і пакінуць для літаратуры ў школе ганебную ролю схемы-ілюстрацыі далёка не заўсёды аб'ектыўна адлюстраванай гісторыі. Неабходна пераадолець недахопы так званага «тэматычнага ахаплення», трэба глядзець на літаратуру ў першую чаргу з пункту гледжання яе мастацкіх, эстэтычных вартасцей. І пачынаць неабходна з павелічэння колькасці гадзін, без гэтага, нават змяніўшы метадыку, адкрыць родную літаратуру школьнікам немагчыма.

**Наш кар.**

# ДОТЫК РОДНАСЦІ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).**

недвухсэнсоўную ацэнку. Разам з тым стрыманасць у паэта не мае нічога агульнага з эмацыянальнай збедненасцю.

Думаецца, вывад А. Лойкі, што ў Арочкавых творах «пераважна пануе эпічны спакой», быў справядлівым для зборніка «Матчына жыта», у якім сапраўды часам «па-філасофску» ахалоджваліся гарачыя супярэчнасці часу, што, аднак, бачыцца не недахопам, а асаблівасцю вершаў, як піша рэцэнзент (А. Лойка), «эмацыянальную рэакцыю чытачоў выклікае якраз спалучэнне з канкрэтнымі вобразамі, з'явамі, падзеямі гуманістычнага пафасу». Так, верш «Выбар» складаецца з дзвюх, поўных руху і драматызму, замалёвак. Ратуюць хуткія ногі сям'ю ласёў. Ваўкам дастаецца апошні — «прытомлены рагач», які не змог вытрымаць шалёнай гонкі... Але «кульнуўся на скаку, агнём падкошаны», і прыгажун-важак. Паквапістае вока ўзяло на прыцэл менавіта яго, першага. Няма ў гэтым творы аўтарскіх «пытальнікаў» і «выклічнікаў», тое, пра што хацеў сказаць паэт, выявілася ў кароткай назве «Выбар».

Творы са зборніка «Падземныя замкі» ў параўнанні з папярэднімі больш эмацыянальна напружаныя. Колькі, напрыклад, прыхаванага, бы ў кулак зацiснутага, болю ад таго, што застаўся «ў полі на цэлішчы зямны не сабраны плён», што магло такое стацца «ў сялянства: танней не вырошчваць — купіць!», у радках верша «Зямны роздум паэта»:

**Гадаем — як гэта цяжка**
**Зямлі нараджаць свой плён,**
**Калі не даходзіць часта**
**Да рук і да вуснаў ён.**

**Калі не становіцца ўцехай**
**Ці песняй,**
**Ці смехам дзяцей,**
**А ўздыхам цяжкім,**
**як агрэхам,**
**У зямлі і ў паэта**
**з грудзей.**

Такі ж прыхаваны (таму ён яшчэ мацней апякае) боль у вершах «Дарогай світання», «У пару гнездавання», «Далучэнне да зямлі» і інш., напісаных пад уражаннямі непазбыўнай асабістай страты, а таксама жыцця ў роднай вёсцы. Як «дотык роднасці і ласкі з болем» успрымаюцца «Пах саломы», «На беразе белым», «У грабавым лесе», «Кнігу працы...», «Прыцемак восеньскі...» і інш., у іх паэт выступае тонкім лірыкам настрою.

**Было навокал стольні яснаты!**
**Ах белы бераг,**
**Ты здружыў нас—дзякуй!**
**Ды на лістах, як вадзяныя**
**знакі,**
**З нас праступалі ўжо**
**Вайны сляды!**
**Сляды трывог, журбы,**
**перажыванняў**
**За белы бераг наш,**
**за родны край...**

— шчымлівыя радкі з верша, прысвечанага равесніку і сябру Івану Ральку, які ўжо пакінуў белы бераг жыцця.

Голас паэта павінен быць гнеўным і радасным, напятым як струна і летуценна-мяккім, гарэзлівым і тужліва - журботным, калі ён хоча паказаць усё шматгалоссе жыцця. Невыпадковымі ўяўляюцца ў паэме «Мелодыя Таўлая» наступныя словы:

**Што без пяшчоты я прынёс бы**
**свету?**
**Нясцерпны крык?**
**Сухі ланцужны звон?**
**І заклікі пярунныя змагання?**

Іх прамаўляе галоўны герой паэмы, палымяны змагар, паэт «рэвалюцыйнага духу». Голас сённяшняга Арочкі не назавеш манатонным ці аднастайным, яго дыяпазон досыць шырокі: ад публіцыстычнай страснасці да ціхмянай задуменнасці.

У зборніку «Падземныя замкі» змешчана новая драматычная паэма (М. Арочка застаецца адным з самых паслядоўных прыхільнікаў гэтай складанай жанравай формы). У «Мелодыі Таўлая», думаецца, паэту ўдалося стварыць яркі, жывы чалавечы характар, паказаць час і абставіны, у якіх ён гартаваўся. Час і абставіны па-рознаму вырашалі праблему, дзе месца паэта і што можа яго слова. Вось, напрыклад, два найбольш вядомыя: «калі гавораць гарматы, музы маўчаць» і «да штыка прыраўняць пяро». Паэзія для Валянціна Таўлая не была галоўнай справай жыцця і галоўнай зброяй. Аднак тады, калі ішла барацьба, яна не маўчала. Творы Таўлая — «роздум, боль закратны, ...у ахвярным палымненні дні», у іх «спрасавана на вякі змаганне».

Паэт быў сынам эпохі, якая лепшых сваіх дзяцей накіроў-

вала па цярністым шляху падпольнай барацьбы, турмаў і заўчаснай смерці. Толькі ці не занадта вялікая цана прынесенай паэтам ахвяры?

**Хто ж вымагаў ад творцы рассяваць**
**Сваё жыццё ахвярна-цёплай жменяй?**
**...Для творчасці сябе ён не сцярог.**
**Таму не плён —**
**А толькі адны страты.**
**А за яго пайсці мог у астрог**
**Другі —**
**адбыў бы лёс закратны.**

Што ж, у развагах Падступніцы ёсць свая рацыя. Але менавіта на гарачай самаахвярнасці трымаюцца паэзія, прыгажосць і справядлівасць.

...Лепшыя творы з апошніх па часе кніг Міколы Арочкі гавораць пра яго заглыбленне ў першаасновы жыцця, пра ўсё больш дакладна выбранае слова, адшліфаваны радок. З радасцю за паэта можна канстатаваць: пакуль што ён эвалюцыяніруе як у плане майстэрства, так і ў плане спасціжэння рэчаіснасці.

**Таіса ГРАМАДЧАНКА.**

# За бортам школьнага карабля

У АПОШНІЯ гады выдавецтва «Беларусь» зрабіла нямала карыснага для нашай школы. У першую чаргу маецца на ўвазе выдавецкая серыя фотаальбомаў, якія — хаця на іх нідзе не пазначана, што яны выдаюцца з разлікам на школу — школьная праграма па беларускай літаратуры прапануе настаўнікам як вучэбна-наглядныя дапаможнікі. У гэтым ёсць свой сэнс, бо сапраўды жыццё і творчасць П. Броўкі, І. Мележа, А. Куляшова, М. Танка, якім прысвечаны фотаальбомы, вывучаюцца ў курсе літаратуры нашай сярэдняй школы. Нядаўна выдавецтва парадавала яшчэ адным цудоўным выданнем — фотаальбомам «Васіль Быкаў», які па форме і змесце можна было б таксама аднесці да разраду нашай, на жаль, вельмі малой па колькасці, вучэбна-дапаможнай літаратуры для школы. Але прапанаваць альбом «Васіль Быкаў» нашым настаўнікам можна толькі ўмоўна. І справа тут не ў выданні, а ў структуры школьнага курса літаратуры, для якога, як гэта ні дзіўна, ні парадаксальна, лаўрэат Ленінскай прэміі Герой Сацыялістычнай Працы Васіль Быкаў застаецца з'явай, далікатна кажучы, другараднай. Але пра гэта пазней. Спачатку хочацца сказаць некалькі слоў пра само выданне.

Перад намі кніга «Васіль Быкаў». Першая старонка яе — своеасаблівы фотакалаж. Фатаграфія Васіля Быкава — засяроджаны погляд, погляд у гераічнае мінулае, і фотакадр, узяты з хронікі ваенных часоў. І ўжо адразу чытачу зразумела, што размова ў кнізе пойдзе пра пісьменніка, для якога найбольш важная і блізкая тэма — тэма Вялікай Айчыннай вайны з яе цяжкімі буднямі, з яе стратамі і перамогамі, з яе жорсткай, да канца яшчэ не спазнанай праўдай. Аўтар тэксту — Алесь Адамовіч, пісьменнік і даследчык, які добра ведае Васіля Быкава не толькі як творцу, але і як чалавека. Таму гаворка пра біяграфію Васіля Быкава, пра жыццёвыя вытокі яго творчасці атрымалася змястоўнай. А. Адамовіч адмовіўся ад трафарэтнай, узвычаенай падачы жыццяпісу пісьменніка, ён падключае да ўласнага расказу выказванні самога Васіля Быкава пра сябе і пра сваё жыццё, ён запрашае чытача да агульных роздумаў, да саўдзелу ў спасціжэнні тых праблем, якія ён — ці Васіль Быкаў — уздымаюць. Адлюстраваць праўду вайны і праўду чалавека на вайне, спасцігнуць усе тыя ўрокі, якія дае нам гісторыя, — вось чым жыў і жыве беларускі пісьменнік. У гэтым пераконвае нас кніга «Васіль Быкаў».

Кніга атрымалася. З цікавасцю і карысцю для сябе яе набылі і спецыялісты па літаратуры, і звычайныя чытачы. Тэкст яе двухмоўны, ён напісаны на беларускай і рускай мовах. Таму практычна кнігу можа прачытаць кожны грамадзянін нашай краіны, чалавек любой нацыянальнасці. І таму выклікае неўразуменне тыраж выдання — усяго 20 тысяч! Калі ж улічыць, што фотаальбом можа (і павінен) трапіць яшчэ і ў школу, то лічба 20 тысяч увогуле здасца мізэрнай.

Але вернемся да закранутай ужо праблемы — Васіль Быкаў і школа.

Як учарашнія школьнікі мы ведаем, што Васіля Быкава ў нашай школе практычна няма. Некалькі гадоў назад, калі мы яшчэ сядзелі за школьнымі партамі, на кінаэкранах рэспублікі ішоў фільм «Узыходжанне» Л. Шапіцькі. Настаўнікі, зыходзячы з таго, што многія з вучняў гэты фільм глядзелі, праводзілі з імі гутарку па аповесці В. Быкава «Сотнікаў». Гаварылі пра фільм — і толькі. Ведання тэксту літаратурнага твора ніхто не патрабаваў. І толькі асобныя настаўнікі, абапіраючыся на сваё педагагічнае сумленне, сваё разуменне і веданне сучаснай літаратуры, дамагаліся ад вучняў чытання твораў В. Быкава.

Сёння, калі універсітэцкія вучэбныя планы паставілі нас на парозе педагагічнай практыкі ў школе, мы ўзяліся за дакладнае вывучэнне школьных праграм па літаратуры. Першыя ўражанні былі радасныя: прозвішча Быкава мы сустрэлі ў дзвюх праграмах адразу — і па рускай літаратуры, і па беларускай. Аднак пры больш уважлівым знаёмстве выявілася, што радасць наша была заўчаснай, бо фактычна В. Быкава няма ні ў той, ні ў другой праграме. Паспрабуем акрэсліць сітуацыю.

Упершыню В. Быкаў з'явіўся, як гэта ні дзіўна, не ў беларускай, а ў рускай праграме, зацверджанай Міністэрствам асветы СССР. І толькі праз некалькі гадоў адважылася парэкамендаваць школьнікам асобныя творы В. Быкава Міністэрства асветы нашай рэспублікі. Але з самага пачатку быў узяты курс на тое, каб Быкава не вывучаць, а менавіта чытаць: ёсць у праграмах і такія раздзелы, дзе ў якасці дадатка даецца спіс літаратуры для пазакласнага чытання. З таго часу прайшло больш за дзесяць гадоў, але што змянілася? Сёння ў 7-ым класе, старэйшых класах праграма па рускай літаратуры прадугледжвае чытанне твораў Быкава. У 7-ым — для пазакласнага чытання прапануецца «Трэцяя ракета», у 8-ым — «Альпійская балада», «Дажыць да світання»; у 9-ым — «Абеліск» і «Сотнікаў»; у 10-ым, заўважце, ізноў «Сотнікаў». У 9-ым і 10-ым класах умовы для работы над творамі сучасных пісьменнікаў нібыта трохі лепшыя, чым у папярэдніх: на работу з імі адводзіцца некалькі гадзін. Але як яны могуць быць размеркаваны? На гутаркі па савецкай літаратуры праграма ў 9-ым класе выдзяляе 10 гадзін і прапануе разгледзець творы 23 пісьменнікаў, а ў спісе літаратуры па кожным аўтары значыцца па дзве, а то і па тры аповесці і раманы. Праўда, няёмкасць сітуацыі складальнікі ўсё-такі адчулі, таму ў дужках сціпла заўважылі: на выбар настаўніка і вучняў. Значыць, школьны лёс В. Быкава залежыць яшчэ і ад густу, а часам і настрою настаўніка. І ці не таму складальнікі праграмы прадубліравалі «Сотнікава» яшчэ і ў 10-ым класе: калі не пашанцуе В. Быкаву ў 9-ым, дык, можа, хоць на наступны год звернуць на яго ўвагу...

У выпускным класе на гутаркі па сучаснай літаратуры адводзіцца 14 гадзін. З іх канкрэтна вызначаны гадзіны на «Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна — 2, «Жывыя і мёртвыя» К. Сіманава — 3, «Белы параход» або які іншы твор Ч. Айтматава — 2. На тыя 7 гадзін, што засталіся, побач з быкаўскім «Сотнікавым» могуць, згодна з праграмай, прэтэндаваць яшчэ 30 празаічных і драматычных твораў ды выбраныя вершы 27 паэтаў! Такім чынам, можа зноў паўтарыцца тое ж самае. І калі абставіны складуцца не на карысць твораў В. Быкава, то яны наогул застануцца па-за бортам школьнага карабля (нагадаем, што гаворка ідзе пра школы з рускай мовай навучання).

Праграма па беларускай літаратуры нібыта больш катэгарычная ў сваіх прапановах. Права выбару тут адсутнічае. У 8-ым класе для гутарак даецца канкрэтны, дакладна вызначаны спіс. У яго ўвайшла — «Альпійская балада» В. Быкава, але зноўку сярод іншых. побач з творамі Я. Брыля, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, В. Казько, У. Караткевіча, І. Навуменкі. І на ўвесь гэты абсяг літаратуры даюцца... 3 гадзіны. У 10-ым класе праграма выдзяляе 9 гадзін, але на іх прыпадаюць творы ўжо названых пісьменнікаў, а таксама А. Вярцінскага, Н. Гілевіча, П. Макаля, А. Пысіна, Я. Сіпакова, А. Русецкага, М. Лобана, А. Адамовіча, І. Чыгрынава, А. Жука, А. Кудраўца, А. Кулакоўскага, І. Пташнікава, А. Макаёнка, К. Губарэвіча і інш. Ці не паўтараецца гісторыя з рускім школьным караблём? На беларускім тая ж перагружанасць.

Нядаўна Міністэрства асветы БССР вымушана было павярнуцца тварам да твораў В. Быкава — народнага пісьменніка Беларусі. Са спісу для пазакласнага і неабавязковага чытання яго творы былі пераведзены ў лік тых, якім адведзены праграмныя класныя гадзіны. Але ж дзе адбылося гэтае перамяшчэнне? Не ў старэйшых класах, а ў 7-ым, дзе Быкаву адведзена ўсяго 3 гадзіны, і вартай спецыяльнай увагі прызналі аповесць «Жураўліны крык», адну з першых аповесцей пісьменніка. І мы зноў прыходзім да зробленай раней высновы — уклад, які зрабіў Васіль Быкаў у беларускую, шырэй — ва ўсю савецкую шматнацыянальную літаратуру, застаецца па-ранейшаму невядомы вучням. Фактычна школа наша дзверы свае для Васіля Быкава так і не расчыніла.

Яшчэ В. Бялінскі горача адстойваў права сучаснай яму рускай літаратуры на тое, каб яе вывучалі ў школе. Ён справядліва лічыў, што літаратура заклікана выхоўваць грамадзянскую мужнасць у падлеткаў, думкі пра будучыню радзімы вялікі крытык звязваў з літаратурай, з яе выхаваўчымі магчымасцямі. У сучаснай пазіцыі галоўных педагогаў і метадыстаў адчуваецца яскравае неразуменне ролі прагрэсіўнай айчыннай літаратуры ў выхаванні моладзі. Магчыма, яны лічаць, што сур'ёзныя, філасофскія творы Бакава школьнікам вывучаць яшчэ рана. Але тая «охранительная» палітыка, якую праяўляюць яны пры складанні праграм па літаратуры, сёння не можа ніяк нас задаволіць.

Як ніводзін іншы прадмет, літаратура ў школе спрыяе станаўленню асобы, пазнанню і самапазнанню чалавека, выхаванню адказнага стаўлення да жыцця, дзяржавы, грамадства. Яшчэ не ўляглося ў нашых душах хваляванне ад знаёмства з «Завейным паўстанкам» Ч. Айтматава. Той, хто прачытаў гэты твор, відаць, ніколі ўжо не забудзе жахлівую легенду пра манкуртаў. Мы не хочам, каб нашы выхаванцы былі падобныя да айтматаўскага Сабітжана — сучаснай праявы манкуртства. «А што з таго, што ён навучаўся на розных там курсах і ў розных інстытутах? — разважае галоўны герой «Завейнага паўстанка». — Можа быць, яго і вучылі для таго, каб ён зрабіўся такім, якім стаў. Можа быць, недзе ёсць нехта прадбачлівы, як д'ябал, які шмат працы ўклаў у Сабітжана, каб Сабітжан стаў Сабітжанам, а не кім-небудзь іншым».

Трэба нешта рабіць, каб «бульдозеры бяспамяцтва» (І. Дзядкоў) не прайшліся па нашым часе, каб адмоўнае не множылася, не паўтаралася, не пашыралася. І ў гэтай справе вялікую дапамогу павінны аказаць нам творы В. Быкава, іх вывучэнне і спасціжэнне.

**Аляксандра БІЗНЯ,**
**Алена ДРАНІЦА,**
**Наталля КАЗАК,**
**Усевалад РАГОЙША,**
**студэнты філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна.**

ДУМКА ЧЫТАЧА

# ЧАКАЕМ ДАДАТКУ

Безумоўна, выданне пяцітомнага ў шасці кнігах «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» з'явілася вялікай падзеяй у развіцці беларускай лексікаграфіі.

Я не збіраюся выяўляць усе вартасці і заганы названай працы — гэта ўжо зроблена даволі руплiва і прафесійна да мяне (П. Садоўскі. Час одуму. «Полымя», № 5, 1986). Я толькі хачу выказаць думку, што распачатую лексікаграфічную работу нельга лічыць завершанай.

Пагартайце зборнік «Песні беларускага Паазер'я» З. Я. Мажэйкі (Мінск, 1981) — вы шмат разоў сустрэнеце там словы «танок», «таночак». Ёсць слова «танок», і ў аднатомніку Насовіча, а вось у пяцітомніку яму чамусьці не хапіла месца.

Я не супраць «дýша», але ж у нашых лазнях кажуць «дожджык». Гэтага слова слоўнік не дае, затое ў ім ёсць зусім не беларускія «душавая», «ванная» (што? Комната? Але ж у нашай мове «пакой» мужчынскага роду).

Дваццаць два гады майго жыцця прайшлі ў мястэчках Гродзенскай вобласці (зноў жа не зразумела, чаму польскае «miasto», «miasteczko», украінскае «місто», «містэчко», літоўскае «miestas», «miestelis» лічацца нейтральнымі, а жывое ў вуснах беларускае «мястэчка» нашы лексікографы імкнуцца выціснуць груваcткім словаспалучэннем «гарадскі пасёлак». Там па сённяшні дзень насельніцтва, асабліва старэйшае, захапляецца спевамі пад арганны акампанемент. Але, дальбог, ніколі не чуў, каб у нас казалі «арган — арганіст, аргана — арганіста»,— толькі «арганы — арганісты, арганаў — арганістага». У старажытнай беларускай літаратуры гэты музычны інструмент называўся «арганы» альбо «варганы». Калі ж зноў звернемся да моў братніх суседніх народаў, то ўбачым, што ў польскай і ў літоўскай мовах ягоная назва існуе толькі ў множным ліку — «organy», «vargonai». У харавым творы «Харальная прэлюдыя» ўкраінскага кампазітара Кікты на народныя словы ёсць такі радок: «На органах грае»...

Наогул, кожны тлумачальны слоўнік, на мой погляд, павінен выконваць дзве галоўныя задачы: 1/ дапамагаць разуменню вуснай і пісьмовай мовы, 2/ служыць свайго роду моўным узорам. І першую, і другую задачу «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» ў пяці тамах выконвае няпоўна. Спадзяюся, што ў хуткім часе ў нашых кнігарнях убачу «Дадатак да Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы ў пяці тамах». Хацелася б таксама, каб пры складанні гэтага дапаўнення аўтары больш зважалі на традыцыі нашага пісьменства і жывую беларускую мову.

**Мікола СТОМА,**
**студэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага.**

## ПАЭЗІЯ

### Міхась РУДКОЎСКІ



●

Настаў ён, дзень і час—
                    час лістападу,
Твой высакосна-трудны час,
                    калі
Ты быццам вінаваты, што
                    над садам
Сум уранілі ўчора жураўлі,
Што вунь яна, твая рака,
                    канае,
Што прывід чорным-чорнае
                    начы
Рэальныя абрысы набывае, —
Усё ты знаеш,
Знаеш,
    а—маўчыш.

І чуеш ты віну перад сабою
За гэту рэчку, жураўлёў і сад,
Дзе кружыцца з надзеяй
                    і жальбою
Твой—у смузе—высокі
                    лістапад.

●

Неспакойна нешта ў свеце...
Не малюся, не крычу,—
                    Зямлю,
Як старую стомленую маці,
Моцна-моцна да грудзей
                    тулю.

### Святло

«Тушыце, адыходзячы,
                    святло!» —
Я прачытаў. І патушыў.
                    І выйшаў.
І дом растаў, прапаў
                    у цемрацішы,
Нібы яго ніколі не было.

Не, ён стаяў. А можа, і не
                    ён—
То, можа, толькі здань яго
                    стаяла?
І мне таго, з агнямі,
                    не хапала,
Таго, што і здалёк усім
                    відзён.

А гэты, апусціўшы шторы
                    вейк,
Маўчаў і невідушчы
                    і пануры.
І зябкі халадок прабег
                    па скуры:
«А ці не так з табою,
                    чалавек?»

І думаў я. «Святло другой
                    душы—
Калі і адыходзіш—
                    не тушы!»

●

Зносяць дом, і не дарма,
                    напэўна,
Бурыцца, што век аджыў свой,
                    дом.
А я чую: нікне, нікне
                    крэўнасць
З даўнім і вясёла-мілым
                    днём.

Мо то і не крэўнасць,
                    толькі знаю:
Доўга не пазбыцца мне
                    тугі,—
Быццам на вачах маіх канае
Нехта нечым дужа дарагі.

Будзе новы дом, і ў доме
                    людзі
Будуць жыць, любіць,
                    дзяцей раджаць.
Будзе ўсё. Ды ўжо ніхто
                    не будзе
Там мяне хоць зрэдку
                    ўспамінаць.

### Маналог Воўка перад Сабакам

Хоць і радня, мы—як зямля
                    і неба,
Даўно у нас з табой счужэла
                    кроў.
Мне лес,
                    табе ж ён, гаспадар,
                    патрэбен,
Яму ж—твая сабачая
                    любоў.

Ты, кажуць, друг яму,
                    я, кажуць, вораг.
Няпраўда! Я не вораг, хоць
                    не друг.
На сотні вёрст яна, мая
                    прастора,
Твая ж, сабача, толькі
                    на ланцуг.

Ты хлеб ясі, ты абіраеш
                    косткі,
Я ж ляскаю зубамі па начах.
Які ты добранькі!
        Які я жорсткі!
Сляза ў тваіх,
        жар у маіх вачах.

Ты брэхам плаціш
                    за азадак тлусты.
Я ж моўчкі гіну ў вечнай
                    барацьбе.
Хоць і агідна мне тваё
                    халуйства,
Ды часам мне шкада—раба—
                    цябе.

## ПРОЗА

Віктар ТРЫХМАНЕНКА



# Хацелася б ВЕРЫЦЬ

АПАВЯДАННЕ

— Не ведаю... Не ведаю, сапраўды, ці варта нам пачынаць гаворку пра высокую палітыку, калі мы самі вось так нізка прызямліліся, — заўважыў Балаліхін, крыва ўсміхнуўшыся. Адвёў позірк ад настырнага субяседніка, пачаў глядзець скрозь шкляную сцяну будынка аэрапорта. А глядзець, уласна кажучы, не было куды — за шырэзнымі шыбамі толькі шэрая вата туману.

— Гаварыць трэба! — з націскам працягваў сусед па лаўцы. — Калі ўжо зайшлі ў тупік і палітыка, і жыццё чалавечае, дык варта хоць высветліць, ад чаго пагібель. Людзі ж не рыба, якая моўчкі адыходзіць у вечны сон. Трэба гаварыць, паважаны Аляксандр Міхайлавіч. Трэба!

Нейкі час абодва маўчалі, відаць, рыхтуючыся паспрачацца, таму што ўжо стала зразумела, што пазіцыі ў іх зусім не аднолькавыя.

Вялізная, як ангар, зала чакання была населена пасажырамі ўсіх узростаў, але не надта густа, усім хапала месца сядзець, а каму дык і прылегчы, дзеці маглі нават пабегаць. Непраглядны туман ахутаў аэрапорт толькі сёння з вечара, і пасажыры яшчэ не паспелі яго перапоўніць. Пад скляпеннямі трымаўся шматгалосы, быццам вадападны, шум, зрэдку яго расколваў набатны голас дыктаркі, якая паведамляла аб далейшым пераносе рэйсаў з-за метэаралагічных умоў.

Маса акіянскага туману наплыла на ўзбярэжжа — тутэйшы славуты «вынас». І ніякі прагноз не прадкажа, ці надоўга. Бывае на паўдня, а то і на ўвесь тыдзень.

— Ва ўмовах, да якіх дайшло... дакацілася чалавецтва, усё стала адносным і хісткім — ідэі, планы, пачуцці. Сёння нельга нікому верыць на чэснае слова — ні сябру, ні дзяржаўнаму дзеячу. Вы згодны са мной, Аляксандр Міхайлавіч?

— Не. Не згодзен.

— Так? А хочаце некалькі красамоўных жыццёвых прыкладаў?

— Я слухаю вас, Сяргей Рыгоравіч.

Ці правільна ён назваў яго па бацьку? Пазнаёміліся вось толькі тут, седзячы і сумуючы на гэтых лаўках. Маўчыць, не папраўляе, тады, мусіць, «Рыгоравіч». Хоць не, здаецца, «Георгіевіч»...

— Дазвольце. — Ён перакінуў нагу на нагу, сядаючы глыбей. — Упэўнены, між іншым, што вы і самі задумваецеся аб гэтым жа, ды адкрыта выказацца не асмельваецеся.

— Якая праніклівасць! — Балаліхін звузіў вочы.

— Не сярдуйце. Я больш не буду пераходзіць на асабістае. Мы ж загаварылі аб тым, як жыве сёння чалавецтва, гэты міжнародны дзіцячы сад на планеце.

— Я пакуль толькі слухаю.

— Спадзяюся, і загаворыце.

— Магчыма, Сяргей Рыгоравіч.

— Георгіевіч.

— Прабачце. Пры шуме не разабраўся.

— Нічога. Я яшчэ раз называюся: Сяргей Георгіевіч Дабрынін, заслужаны артыст рэспублікі.

— Вельмі прыемна, — кіўнуў Балаліхін. І каб не называцца ў сваю чаргу, рабіць гэтага не хацелася, без паўзы перавёў гаворку: — Цікава, якое там надвор'е ў перспектыве? Калі такі туман надоўга, можна было б у горад з'ездзіць. А то трымаюць, як на прывязі, адкладваюць вылет на дзве, на тры гадзіны.

— Зіма, бацюхна, недарэмна месяц называецца «люты», — адазваўся Дабрынін. І зноў узяўся за сваё ранейшае: — Што атамнай вайны не пазбегнуць, цяпер відавочна ўсім і кожнаму. Пытанне, відаць, толькі ў тым, калі яна пачнецца.

— Ну, вы ўжо зусім «алілуя» заспявалі, Сяргей Георгіевіч, — усклікнуў Балаліхін. — Небяспека вайны, сапраўды, навісае, але не варта паддавацца песімізму, сілы міру ў свеце таксама вялікія. Ды наша армія нешта значыць у міжнародным маштабе.

— Зноў жа, усё адносна, Аляксандр Міхайлавіч. — Дабрынін падняў руку і бязвольна кінуў яе, ляпнуў сябе па калене. — Сілы міру вельмі шматлікія, але яны не ўзброеныя, бо не маюць кнопак і рычагоў ваеннай машыны. Усё ў руках прэзідэнтаў і галоўнакамандуючых, ва ўладзе ваенна-прамысловых комплексаў. — Ён акінуў субяседніка позіркам, як вопытны настаўнік падлетка. — Больш таго: самыя магутныя дзеячы, прагрэсіўныя ці рэакцыйныя, не змогуць павярнуць лёс чалавецтва. Ядзерная сусветная катастрофа пачнецца сама па сабе. Тут ужо простая і жалезная дыялектыка: сканцэнтраваная ў арсеналах сіла, каласальная разрушальная энергія павінны нарэшце знайсці выхад, проста так быць у патэнцыяле вечна яна не зможа.

— Хто гэта сказаў? — запярэчыў Балаліхін. — Ядзерныя запасы не вечныя. Даляжацца да распаду і стануць проста пылам.

— Усё жартуеце? — Дабрынін зрабіў ганарыста-крыўдлівы выгляд.

— Пры нашай гаворцы не да жартаў.

— Тады навошта пакепліваць?

— А я, ведаеце, зусім сур'ёзна. Я вось што хачу сказаць: на злую сілу ёсць добрая сіла ў наш час. Сіла! І агрэсіўныя дзеячы, як бы ім ні хацелася пагуляць атамнай бомбай, усё-такі асцерагаюцца. Таму што вымушаны лічыцца з абароннай магутнасцю Савецкага Саюза, усёй сацыялістычнай садружнасці.

— Ай... Аляксандр Міхайлавіч.

— Што «ай»?

— Меркаванні пра тое, што савецкія людзі, могуць, маўляў, спакойна працаваць і гадаваць дзяцей, таму што іх ахоўвае наша доблесная армія — па сутнасці прапагандысцкія. У сучасных умовах, пры сучасных сродках вядзення вайны армія, уласна кажучы, перастала быць абаронцам краіны і народа.

— Як перастала?

— А вось паслухайце і не рабіце страшныя вочы, я не збіраюся гаварыць нешта крамольнае, я проста разважаю. Справа не ў самой арміі, яна ў нас гераічная і магутная, а ў новых умовах, я падкрэсліваю апошняе. Калісьці было так: войскі выступалі ў паход, а мірнае насельніцтва заставалася ў тыле. Потым стала горш: бітвы ішлі на фронце, але ў тыле рваліся бомбы, пылалі тэрміткі, людзі, аднак, неяк жылі, хоць і працавалі без перадыху, галадалі, мерзлі. Цяпер жа, калі для ядзернай зброі не існуе адлегласцей і заслонаў, калі менавіта па глыбокіх тылах, па гарадах і будоўлях плануюцца першыя ўдары, мірнаму насельніцтву няма ніякага ўратавання. Армія можа доблесна ваяваць, а краіна ўсё адно будзе разгромлена. Дарэчы, падобныя ўдары, у мініяцюры, ужо былі — Хірасіма і Нагасакі. А цяпер гэтыя, як іх... мегатонныя ядзерныя бомбы здольны ў імгненнеператварыць у пустыню ўсю краіну, увесь кантынент.

— Настрой у вас, Сяргей Рыгоравіч... Даруйце — Георгіевіч, настрой у вас — як вось гэты туман. І развагі таксама нейкія туманныя.

— Не толькі ў мяне. Ва ўсіх. Людзі імкнуцца не думаць аб тым, што наперадзе, заняцца справамі, клопатамі, а бязвыхаднасць становішча — яна ўсё ж існуе.

— Здаецца, прыйшоў час абвергнуць вашу песімістычную «дактрыну».

— І вы зможаце абвергнуць?

— Як двойчы два.

— Палічыў бы гэта за вялікае шчасце, калі б яно стала магчымым.

— А нічога незвычайнага. Усё проста.

— Ну, што ж далей?

— Надвор'е на планеце і на самой справе неспрыяльнае. Лакальныя войны ідуць ужо даўно. Але прагрэсіўныя сілы, актыўна выступаючыя на сусветнай арэне, валодаюць і сваёй ваеннай магутнасцю, трымаюць пакуль што імперыялістаў у запрэжцы.

— Пакуль што... А далей.

— Так будзе і далей, калі не горш — для імперыялістаў. Самі яны перад сусветнай ракетна-ядзернай вайной таксама дрыжаць, хоць і лезуць на ражон, дзе толькі можна. Узяць тых жа амерыканскіх імперыялістаў. Ім давялося з вялікім смуткам развітвацца са становішчам непрыступнасці для нападу. Цяпер іх кантынент, як і любы горад, дасягальны для ядзернага ўдару — гэтаксама, як і Хірасіма. Яны балансіруюць на мяжы вайны. Кепска гэта, канечне. Не даюць спакойна жыць добрым людзям, прымушаюць іх да вялікіх затрат на абарону. Дзве сацыяльныя сістэмы, непрымірымая барацьба ідэалогій, неспакойнае і супярэчлівае, цяжкае і цудоўнае дваццатае стагоддзе. Наш народ, аднак, упэўнена глядзіць у будучыню, працуе, гадуе новае пакаленне. І сам расце, — Балаліхін павярнуўся да суседа, дабрадушна ўсміхнуўся. — А вам асабіста, Сяргей Георгіевіч, я б параіў часцей спускацца з падмосткаў сцэны ў гушчыню жыцця. Прыслухайцеся, як народ разважае аб цяперашняй міжнароднай абстаноўцы. Песімізму не сустрэнеце. Ну, уздыхне пажылая жанчына, праклінаючы вайну, ну, усхліпне салдацкая маці, а ўвогуле настрой у народа бадзёры. Небяспеку разумеюць, вядома, навальніцу адчуваюць, але і ўсведамляюць, наколькі магутная свая родная краіна, і як шмат у свеце ад яе залежыць.

Дабрынін абыякава глядзеў некуды ўбок, паклаўшы падбародак на калючы каўнер паліто.

— Ну, добра... — кінуў ён панура. Са злосцю зірнуў на суседа спадылба. — Пакінем пакуль што дыялектыку і дыпламатыю. А ўявім сабе такое: учора які-небудзь з амерыканскіх асаў, Джон ці Чарлі, прапіў грошы, пасварыўся з жонкай, а сёння ў гэткім — мора па калена — настроі накіраваўся ў патрульны палёт з атамнай бомбачкай над Еўропай. І пайшло, і загрымела-запылала. Там ужо не высветліш, хто па кім першы нанёс удар, стануць усе кідацца атамнымі бомбамі: у каго толькі ёсць яны. Нешта накшталт бойкі на танцпляцоў-

**Анатоль ІВЕРС**



# «З ПАРТЫЗАНСКАГА СШЫТКА»

## *Мяне зямлянка берагла*

Я да зімы ў бары прывык,
Да клімату цвярозага.
А тут з'явіўся сакавік
Над стараной бярозавай.

І хоць зіма яшчэ ляжыць,
Нібы бяльмо, навокала,
Рытмічна звоняць капяжы
З сасонніка высокага.

І так прыемна бачыць, мецць
Зеніт вясенняй просіні,
Бярозаў бель і соснаў медзь,
Што мерзлі з шэрай восені.

Мяне ж зямлянка берагла —
Падзяка ёй сардэчная!
Сцяжынка — бачу — пралягла
Цераз бары зарэчныя...

## *Расцвітае ў вёсцы бэз*

Расцвітае ў вёсцы бэз,
Мы ж яго не бачым.
Жыць не можам толькі без,
Без начной удачы.

На чыгунцы — цішыня:
Дзесь пратрухаў вожык.
Праляжым, відаць, да дня,
Да паўночы, можа.

Салавей заводзіць трэль
У галлі крушыны.
Ды ўспамінаў не затрэ:
Гарнізон скрышылі!

А тым часам нарастаў
Стук з-пад Азярніцы.
Цяжкавагавы састаў
Вырастае быццам.

Параўняўся з намі — ўверх
Паравоз падскочыў.
І такі быў феерверк —
Асляпіла вочы.

Смутак сэрца не скрабе,
Бо была удача.
Расцвітае ў вёсцы бэз —
Мы яго не бачым.

## *Гаючая крыніца*

Гаючая крыніца
Кіпела серабром.
Ніколі не забыцца
Пра дарагіх сяброў.

Ці вечар быў ці ранак,
Ішлі туды не так —
Там абмывалі раны
Пасля ліхіх атак.

У галаве кружыла,
Як возьмеш хоць глыток,
І прабягаў па жылах
Прыемны халадок.

Ды хто сказаў: без смаку
Крынічная вада?!
Яна таліла смагу,
Каб крочыць мог у даль...

Кіпучая крыніца...
Вятры не замялі...
Іду ёй пакланіцца
Да самае зямлі.

## *Плач жалейкі*

Дзень гарачы. Ясны дзень.
Жніўны поўдзень.
Не стрымаюць нас нідзе —
Усюды пройдзем.

Нас прыгорне родны лес —
Даль лясная.
Хлебаробы на сяле
Нас пазнаюць.

Думку думаў партызан
Перад боем.
У сэрца матчына сляза
Упала болем:

— Ой, чакаю я здалёк
Дні і ночы.
Прыязджай жа, Васілёк,
Васілёчак...

А ў даліне — перабор —
Плач жалейкі.
Адгукнуўся сівы бор
Сумам нейкім.

І паплыў у даль матыў
Песні жніўнай
Над палеткам залатым
Пераліўна.

Выліў скаргу ўсю да дна
Люд прыгонны,
І дайшла яна да нас
На загоны.

І трывожыць і заве
У бой на катаў —
Не схавацца галаве
У трох накатах...

Перамога адгула
У завірусе.
І да роднага вугла
Ён вярнуўся.

І за плугам ён пайшоў...
Кінуў лейцы,
Учуўшы: грае пастушок
На жалейцы...

І зноў сэрца, як тады,
Затраслося,
Як шугаў злавесны дым
Над калоссем.

І дагэтуль сніць пажар
(Столькі ж вёснаў!),
І камбайнам не пажаў
Плач жалосны.

---

цы: пачалі двое — увязаліся ўсе.

Балаліхін паспрабаваў нешта запярэчыць, але Дабрынін не даў яму слова сказаць. Таропка працягваў:

— Такім чынам, мы не гарантаваны нават ад выпадковага ўзнікнення ядзернай вайны. Зброі і боепрыпасаў цяпер усюды столькі, што трэба яшчэ здзіўляцца, як да гэтага часу хто-небудзь не пульнуў атамную ракету, як камень у чужы агарод.

І ён утаропіўся на Балаліхіна вачыма. Што, маўляў, на гэта скажаш?

— Не так усё і проста, — запярэчыў Балаліхін спакойна. — Яны сваіх Джонаў і Чарлі таксама на прывязі трымаюць.

— Але ці ёсць сілы, каб стрымліваць у бяздзеянні атамны вулкан, на якім усе мы, людзі, сядзім?

— Знойдуцца.

— Цяжка паверыць.

— А вы ўспомніце такі факт: да пачатку другой сусветнай вайны абодва бакі валодалі вялізнымі арсеналамі хімічнай зброі, але нават у катастрафічных умовах яна не была прыменена.

— Так... Таму, відаць, што гітлераўцы разумелі: атрутныя рэчывы небяспечны для іх саміх у першую чаргу.

— А чаму вы думаеце, што цяперашнія апалагеты вайны дурныя? Таксама кумекаюць...

Балаліхін падняўся. Каб не паддацца спакусе пацягнуцца да хрусту ў суставах, пружыніста пераміналўся з нагі на нагу.

— Пайду на разведку, даведаюся, што там плануецца ў нябеснай канцылярыі.

— Схадзіце. Я пасцерагу ваша месца, — сказаў Дабрынін. Паспешліва дадаў: — Толькі не пакідайце мяне надоўга.

Калі Балаліхін вярнуўся, артыст сустрэў яго стоячы.

— О! Нарэшце вы з'явіліся. Я ўжо было падумаў: кінулі старога... — Свае словы Дабрынін суправаджаў шырокім тэатральным жэстам.

— Што вы, што вы...— супакоіў яго Балаліхін. — У стане такім чалавека кідаць нельга.

Артыст прыклаў руку да грудзей. Ён застаўся стаяць, таптаўся ля свайго месца, на якое паклаў дарожны партфель. А Балаліхін сеў. З задавальненнем расслабіўся. Няблага было б і падрамаць, адкінуўшыся на спінку, ды хіба ахвочы да гаворкі сусед дазволіць?

— А я тут сядзеў у адзіноце, чакаў вас, разважаў над вашым «апраўержэннем», — гаварыў Дабрынін, пахаджваючы перад лаўкай.— Ведаеце, яно даволі хутка развеялася.

— Чаму так? — спытаў Балаліхін.

— Відаць, слаба аргументавана.

— Як хочаце, так і ўспрымайце.

— Не, вы паслухайце, Аляксандр Міхайлавіч. Паслухайце і дайце адказ, калі можаце.

І ўсхваляваным голасам, і выразным жэстам артыст патрабаваў увагі. Балаліхін моўчкі ўзняў на яго вочы.

— Супрацьстаянне дзвюх магутных сіл не можа захоўвацца бясконца доўга. Назапашаныя ядзерныя патэнцыялы з абодвух бакоў, гэтая каласальная энергія не можа нікуды знікнуць. — Дабрынін гаварыў, быццам выконваў ролю, у якую «ўрос». — Вам, мабыць, вядомы закон фізікі: «Энергія не ўзнікае з нічога і не знікае бясследна». Яна ўсё ж узарвецца, тройчы праклятая ядзерная зброя, прыдуманая чалавекам на сваю пагібель. Дальбог, узарвецца. Ніякай надзеі на выратаванне няма...

— Вы не дагаварылі закон фізікі, — абарваў яго Балаліхін. — Далей ідзе наступнае: «Энергія пераходзіць з адной формы ў другую».

— Так. Ну і што?

— Неабавязкова ўзрывацца ядзернай энергіі, яна можа быць выкарыстана ў мірных мэтах. Гэта — па-першае. А па-другое, законы фізікі непрымальны да жыцця і развіцця грамадства. Людзі ж не малекулы.

Словы Балаліхіна, сказаныя аднатонна і нават неяк абыякава, падзейнічалі. Дабрынін змоўк плюхнуўся на сядзенне.

Здаецца, нават удалося задрамаць, пакуль ён «абкатваў» у думках сказанае.

Але вось данёсся спачатку прыглушаны, як далёкая хваля, людскі гоман, а потым і голас Дабрыніна:

— Вы, Аляксандр Міхайлавіч, я здагадваюся, з ваенных?

— Можа быць.

— Мабыць, начальнік, можа, нават палкоўнік?

— Не мае асаблівага значэння.

Зноў даўгавата маўчаў Дабрынін. Уздыхнуў шматзначна і забалабоніў як быццам сабе пад нос, ні да кога не звяртаючыся:

— У ваенных, асабліва ў вялікіх начальнікаў, адносіны да вайны свае, можна сказаць... станоўчыя. Насіцца на танках, страляць, разбураць — ім гэта звыкла, і псіхалогія адпаведная. У вір вайны яны кінуцца (дакладней, кінуць салдат) заўсёды гатовы.

Яго мармытанне Балаліхін зразумеў, хоць і не вельмі прыслухоўваўся. Прамаўчаць не змог.

— Што характар у нашых ваенных баявы — гэта правільна. А што ім быццам вайна не супрацьпаказана — глупства, нават паклёп.

Рэзкавата? Ну і чорт з ім. Надакучыў сваімі развагамі. А за словы «кінуць у вір вайны салдат» варта было б што-небудзь сказануць старому прытворшчыку.

— Што тычыцца «псіхалогіі», дык паклёп злы, — не стрымаўся ўсё ж Балаліхін. — На вайне генералы арміі Ватуцін, Чарняхоўскі загінулі гэтаксама, як і радавы Матросаў, а генерал-лейтэнант Карбышаў — так, як радавы Смірноў. На падводных лодках, напрыклад, у адных умовах начальнікі і падначаленыя. У авіяцыі першымі атакуюць камандзіры груп і іншыя афіцэры, а салдаты і сяржанты знаходзяцца на зямлі. У будучай вайне, калі яна пачнецца, усе будзем на лініі агню, дакладней у сферы агню.

Некаторы час Дабрынін зусім не падаваў голасу — магчыма, і пакрыўдзіўся. Сядзеў, апусціўшы галаву на грудзі.

Нарэшце вымавіў нацягнута:

— Цяпер дык я бачу, што вы з кадравых ваенных.

— Па чым жа гэта відаць? — неахвотна спытаў Балаліхін.

— Па вашых меркаваннях, па-першае... Ды і па выпраўцы. Сачыў, як вы крочылі да даведачнага бюро, быццам па пляцу.

Балаліхін толькі хмыкнуў.

А Дабрыніну цяпер, магчыма, хацелася яго параспытваць проста аб жыцці-быцці ваенных.

— У званні не менш як палкоўнік?

— І не больш.

— Сям'я ёсць?

— Як у кожнага нармальнага чалавека, — некалькі раздражнёна пацвердзіў Балаліхін. І, папярэджваючы наступныя пытанні, хуценька даў поўную інфармацыю пра сябе: — Жонка і два сыны, ужо дарослыя. Старэйшы закончыў авіявучылішча, верталётчык, служыць у Афганістане, у абмежаваным кантынгенце савецкіх войск. Малодшы яшчэ вучыцца, у ваеннамарскім падводнага плавання, цяпер на практыцы, тут, на Усходзе.

— Дынастыя ваенных, значыць?

— Так... Калі ўлічыць, што і дзед быў афіцэрам, загінуў у сорак чацвёртым пад Бабруйскам...

Пацяплела ў Дабрыніна ў вачах.

— Калі не сакрэт, як завуць хлопчыкаў вашых?

— Старэйшага Уладзімір, малодшага Вячаслаў.

— А жонка?

— Можна і пра жонку. Таксама не сакрэт. Закончыла архітэктурны, па спецыяльнасці працавала мала, не было дзе, — блукалі мы па гарнізонах. Была і выхавацелькай дзіцячага сада, што кожнай жанчыне па сіле, і кладаўшчыцай, і бібліятэкаркай. Па яе падліках, мы пераязджалі адзінаццаць разоў, сыны ў адной школе больш года не вучыліся.

— А, як кажуць, два пераезды — адзін пажар.

— Вось і мяркуйце, калі верыць пагаворцы: у нас было пяць пажараў.

— Не пазайздросціш...

— Зайздросціць няма чаму, але і не так страшна. Ваеннаму чалавеку звыкла: прадпісанне ў кішэню, саквояжы ў рукі, жонка з дзецьмі за ім у патыліцу — і паехалі да новага месца службы.

— А цяпер вы дзе, Аляксандр Міхайлавіч?

— Служу ў штабе акругі. Упершыню за многія гады жывём у горадзе, і ўпершыню жонка працуе па спецыяльнасці — праўда, яе лічаць «маладым архітэктарам».

— Кватэра, мабыць, добрая, як і належыць палкоўніку?

— Кватэра, як кватэра. Была трохпакаёвая, пакуль сыны жылі з намі, а калі паляцелі і паплылі, памянялі на двухпакаёвую.

— Начальства?

— Чаму начальства... Сам папрасіў замяніць — нам з жонкай ці многа патрэбна.

І як быццам гаворка спынілася на гэтым, Балаліхіну з самага пачатку не хацелася асабліва развіваць яе. Дабрынін сядзеў, ківаў шматзначна: маўляў, якая служба, такое і жыццё.

— Сюды, на Усход, падаліся, відаць, каб малодшага праведаць? — спытаў усё ж.

— Так. Водпуск выпаў у лютым. Жонка занята на рабоце. Я, значыць, сюды, — пацвердзіў Балаліхін. І спадарожніку задаў гэткае ж пытанне:— А вас, Сяргей Георгіевіч... якім ветрам?

— Чарговая гастрольная паездка, толькі і ўсяго.

— Зразумела. Дзе ж ваш акампаніятар?

— Канцэртмайстар Тамара Іларыёнаўна Чхаідзе вырашыла ехаць цягніком.

— Баюся, што яна апярэдзіць нас з вамі.

— Нічога немагчымага няма.

Падымаючыся, кінуў з сумам і болем:

— Гаварыць аб палітыцы ў наш час — усё роўна, што гаварыць аб надвор'і... у глабальных маштабах.

Яго не было з паўгадзіны. З'явіўся ажыўлены, нечым узрадаваны.

— Вось вам падарунак! — паклаў бокам партфель, а яму шлёпнуў, быццам казырнымі картамі, двума паперкамі. — Давайце запоўнім анкеты і паселімся ў аэрапортаўскай гасцініцы.

Балаліхін узяў паперку і палез па ручку ў кішэню.

А Дабрынін ужо рабіў патрэбныя запісы і адначасова расказваў:

— У даведачным бюро нічога талковага сказаць не могуць. На двары туман рассейваецца, пачынаецца мяцеліца, што не лепш. А каля кабінета адміністратара, гляджу, ідзе бойка за месцы ў гасцініцы. Натоўп вялізны, але я прабіўся, прад'явіў сваю чырвоную кніжку заслужанага, і мне вось... нам далі нумар.

— З мяне патрабуецца — усміхнуўся Балаліхін.

Сагнуўшыся над паперкай, Дабрынін заўважыў як бы засаромеўшыся:

— Не запытаўся, праўда, ці згодны вы на такое суседства, але аднамесных нумароў у іх зусім няма. Мне ж з вамі, прабачце за прамату, добра. Нягледзячы на вашу жорсткую манеру кантакту. Неяк больш упэўнена сябе адчуваеш з вамі. Больш упэўнена — чэснае слова.

— Правільна, — адазваўся Балаліхін проста. — На армію можна спадзявацца.

У гасцініцы аэрапорта яны пражылі трое сутак. І ўжо трымаліся неразлучнай парай — у сталоўцы, ля кніжнага кіёска, ля тэлевізара ў холе. Дабрынін раз-пораз паўтараў, што бадзяжны акцёрскі лёс падарыў яму сустрэчу з чалавекам, які перавярнуў яго свядомасць і душу, — к лепшаму. Гаварыў, адчувалася, больш з-за ветлівасці, трывога ў ім як была, так і засталася. Балаліхін пасмейваўся, слухаючы гэтыя прызнанні, і таксама не вельмі ім верыў, хоць аднойчы заўважыў, што Сяргея Георгіевіча, памаладзелага і акрэплага душой, цяпер можна было б залічыць у армейскі ансамбль песні і танца.

...На чацвёртыя суткі надвор'е злітавалася. Пасажыраў паднялі ў дзве гадзіны ночы, як па трывозе, хутка-хутка фарміравалі па рэйсах, заганялі ў салоны «Ілаў» і «Ту», і лайнеры адзін за другім узнімаліся ў неба, пераміргваліся сваімі сігнальнымі агнямі з зоркамі.

Пераклад з рускай.

**У СВЯТЛЕ РАМПЫ**

# Рысы зменлівай Мод

## Тэатр Стэфаніі Станюты



Спектакль «Гарольд і Мод», які ідзе на малой сцэне Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, багаты на цікавыя акцёрскія работы. У ім сакавіта і кідка, з добрым адчуваннем утрыраванай тэатральнай формы іграюць Т. Нікалаева, М. Кірычэнка, А. Іваннікава, У. Кін-Камінскі, В. Букін, сцэнічныя таленты якіх часам гучаць нечакана і па-новаму. І ўсё ж Станюту — Мод вылучаеш адразу і ненаўмысна, хоць загадзя ведаеш, што спектакль пастаўлены М. Пінігіным у бенефіс праслаўленай актрысы, і ідзеш менавіта «на Станюту». Сярод партнёраў па сцэне яна прадстаўляе тэатр, адрозны ад іншых па тэхніцы і мастацкай палітры. І таму «тэатру Станюты» ў спектаклі адведзена цэнтральнае месца.

**...Персанажы спектакля зручна адчуваюць сябе на пастаментах і, нібы манекены ў вітрыне магазіна, заміраюць у розных паставах. Толькі Мод ніколі не здолее ператварыцца ў помнік мёртвага, лялечнага шчасця. У адным з эпізодаў спектакля ёй аддадзены самы высокі пункт сцэны — другі ярус, куды яна падымае за сабой Гарольда (В. Манаеў), каб, заміраючы ад галавакружэння, паглядзець зверху на жыццё, натхнёна ўвабраць яго ў сябе адным вялікім глытком, нацешыцца яго прыгажосцю і веліччу. Функцыі фантасмагарычных вобразаў, створаных уяўленнем тэатра, простыя і адналінейныя: хвалюецца за любімага сына мадам Чэйзен, лечыць яго гіпнозам і псіхатэрапіяй доктар Магнуш, прапаноўваюць сябе замуж дзяўчаткі са «шлюбнай» канторы... У сімвалічнай паставе Смерці (Г. Давыдзька) гэтыя функцыі зведзены да механічных дзеянняў — вазіць маленькі катафалк, завешваць заслону, праводзіць у апошні шлях...**

**Мод С. Станюты — жывы, арганічны чалавек. Яна зменлівая і рухавая. Яна адна прагне знайсці душэўны кантакт з рознымі людзьмі, цяплом яе шчодрага сэрца і непадробнай шчырасцю запаўняецца ўся атмасфера спектакля.**

Па высакароднай сівізне, уважлівым паглядзе вялікіх, буйных вачэй, высакароднасці асанкі і сапраўды бачыш у ёй графіню. Высокая духоўнасць нейкай зусім адышоўшай чалавечай культуры адлюстравана ў абрысе тонкіх, рухомых і крыху стрыманых ліній цела і ў самім, страчаным сучаснасцю, спосабе сувязі з людзьмі. Гэта сапраўдная, непадробная інтэлігентнасць, якая ўласціва для ўсяго аблічча Мод — ад манеры насіць касцюм да ўмення слухаць і маўчаць.

З моманту выпадковага знаёмства з Гарольдам яна гатова адразу ж падхапіць любое дзівацтва юнага сябра, захапіцца ягонымі ідэямі, як уласнымі, і тут жа захапіць яго ў палон свайго неўтаймоўнага ўяўлення. З ёй надзвычай лёгка дыхаецца. Ахоплівае пачуццё чалавечай еднасці і роўнасці.

Такія людзі сустракаюцца рэдка, рысы іх хутчэй растворany ў многіх, але ж і Мод — не партрэт жыццёва праўдзівага чалавека, а вобраз фантастычны, у якім усё ўзвышана-цудоўнае. Дабрыня і розум, дзіцячая непасрэднасць і прыгажосць увасобіліся ў адным персанажы.

Лёс гераіні С. Станюты не вычэрпваецца завязкай і развязкай сюжэта. Актрыса не вылучае нейкай адной дамінуючай страсці, ідэі, тэмы. Яна прачыняе ўсе багацці чалавечых праяў, самыя разнастайныя спалучэнні думак і пачуццяў. Складваецца ўражанне, быццам нейкае мімалётнае пачуццё, якое выпадкова захапіла яе, нараджае новыя. На розных спектаклях тон іх змяняецца. Як у любога колеру ёсць адценні і градацыі, так і любое пачуццё, сказанае слова адліваюць рознымі фарбамі, нагадваючы плынь свабоднай ненаўмыснай імправізацыі.

Мод не атаясамліваецца са Станютай, але і мяжы, дзе пачынаецца Станюта і канчаецца Мод, няма. Праз ролю актрыса ўмее расказаць гледачу штосьці патаемнае і пра сябе. Гэта самараскрыццё немагчыма вылучыць у нейкія асобныя маналогі, рэплікі, сітуацыі: яно растворана ва ўсім ладзе жыцця персанажа на сцэне, дзе кожнае слова народжана не толькі драматургам, а душой актрысы. Таму ў канцы спектакля, расстаючыся са сцэнічным вобразам, кожны раз перажываеш і расстанне з добрым і мудрым чалавекам — Стэфаніяй Станютай.

Станюта, мабыць, ведае сакрэт, як рабіць нябачнымі і апраўданымі разыходжанні паміж псіхалагічнай верагоднасцю і чыста сцэнічнымі ўчынкамі, захоўваючы пры гэтым водар і абаяльнасць тэатральнай ігры. Вось Мод выпадкова натрапіла на стосы старых пісьмаў і фотаздымкаў. Хваля ўспамінаў захліснула яе: маладосць мінула, яе сапраўды не вернеш. Адышло цэлае жыццё, цэлы свет дарагіх і блізкіх людзей. І ад яго зусім нічога не засталося, акрамя выпадковых фотаздымкаў. Верыш, што актрыса на нашых вачах на самой справе заплакала,— сцэна ж сыграна без слёз, з вялікай душэўнай самааддачай, але менавіта цудоўна сыграна.

**Станюта валодае сцэнічным тайнапісам сцэны. Малюнак ролі вытанчана просты і ясны. Суразмернасць і гармонія, лёгкае і свабоднае валоданне сваім «душэўным апаратам», голасам; уменне спакваля кіраваць уяўленнем і эмоцыяй публікі, кідаючы яе то ў смех, то ў слёзы; рытмічны разлік, мудрае веданне ўласных магчымасцей і ўсведамленне неабходнасці дзеля цэласнасці вобраза крыху зміраць сваю творчую фантазію — неад'емныя якасці выдатнай майстрыхі купалаўскай сцэны. У актрысе, здаецца, жыве не толькі радасная святочнасць смышляеўскай студыі, дзе пачынаўся яе шлях у мастацтве, але і, як можна зразумець з розных даследаванняў, старамодная хвалюючая сардэчнасць і лёгкасць камедыйных акцёраў мінулага веку, якія ўражвалі не адно пакаленне гледачоў. І ў сцэнах, якія захапляюць гледача такой спавядальнасцю, і ў забаўных «жартах тэатра», калі Мод аддаецца ігры, цягаючы за вяровачку цацачную машыну, ці п'е чай з лялечнага посуду, гэтая тэатральнасць адчувальная.**

**У апошнія гады С. Станюту рэдка займалі ў новых ролях. І яна даражыць кожным імгненнем гэтак жаданага акцёрскаму сэрцу шчасця — іграць, але нават у сваім бенефісным спектаклі можа дазволіць сабе часам быць непрыкметнай на сцэне, даць магчымасць партнёршы правесці выйгрышную сцэну, не ўступаючы з ёй ва ўчэпістае творчае саперніцтва, «адыграць» за маладога партнёра. Яна выдатна разумее, што і таварыша па сцэне сагравацюць апладысменты публікі, прызначаныя толькі яму. Зрабіць гэта незаўважна, ненавязліва і не ва ўрон спектаклю можа далёка не кожны нават вельмі буйны акцёр.**

Для Мод не існуе паняцця ўлады і прыватнай уласнасці, — усё, што ёсць на зямлі, належыць жыццю. А жыццё не можа быць «тваім», «маім», «яго»,— яно дадзена ўсім. Любая жывая істота павінна свабодна дыхаць і квітнець ва ўсю закладзеную ў ім сілу. Надта многа ўмоўнасцей прыдумана чалавецтвам дзеля таго, каб стварыць маленькі свет мізэрнага шчасця, у якім натуральныя жаданні і патрэбнасці многіх заціснуты або абмежаваны. І Мод разбурае гэтыя ўмоўнасці. Выратоўвае адзінокае дрэўца, якое засыхае ў цэментным гаршку, каб падарыць яму жыццё ў лесе... Цацачнага цюленя, выбаўленага з гнілой вады басейна ў заапарку, адпускае ў прастору мора... Раздае людзям свае рэчы... Жыве адным днём, адным імгненнем, адным парываннем.

**У купалаўскім спектаклі прапускаюцца містычна-рэлігійныя і сексуальныя матывы п'есы К. Хігінса і Ж-К. Кар'ера. Гісторыя пра тое, як хлопчык закахаўся ў старую, набывае, зусім іншы сэнс. Душою гэтая Мод такая маладая, такая жыццярадасная, такая рухавая, што чалавечая старасць — фізічнае і духоўнае згасанне — для яе непрымальныя. Гледзячы на яе, Гарольд разумее, што яшчэ і не жыў. У спектаклі ён ашаламляе маці эгаізмам і «чорным гумарам» інсцэніраваных самазабойстваў, але да хваравітых выхадак Гарольда блізкія раўнадушныя. Толькі Мод абудзіла ў ім любоў да сапраўднага жыцця. Яна здольная яго глыбока адчуваць і несці ў сабе. Ён гуляў у смерць, а яна з усмешкай на твары, падзякаваўшы за прыемны вечар, ціха, усур'ёз і назаўсёды засынае...**

**«Мы пачынаем паміраць з самага нараджэння. У смерці няма нічога страшнага, нічога дзіўнага». Чорны чалавек прыстройваецца да Мод, якая застыла ў промні святла з чырвонай кветкай...**

С. Станюта сыграла не канкрэтны характар, а штосьці большае—саму радасць жыцця. Пакідаючы сцэну, яна ледзь падміргвае публіцы і пасылае ёй свой развітальны пацалунак. У гэтай мімалётнасці сцэнічнага развітання схоплены сам рух палёту. Здаецца, што не адыходзіць Мод, а растае, каб потым, як міраж, узнікнуць зноў.

У жыцці няма пачатку і канца. Мод не памірае. Яна жыве і ў Гарольдзе, і ў прасветленым лірызме спектакля, і ў сэрцах гледачоў. Мод вечная. І таму яшчэ доўга пасля спектакля чуеш, як гучыць гэтая прыцішаная мелодыя Мод:

Табе прадастаўлена шчасце жыць, радуйся!

**Уладзімір МАЛЬЦАЎ.**

**ЧАС І ПАЛІТРА**

ІНІЦЫЯТАРАМ персанальнай выстаўкі твораў народнага мастака СССР Міхаіла Савіцкага выступіў Дзяржаўны мастацкі музей БССР. З разліку, перш за ўсё, на ўласныя фонды. Выстаўка не выпадкова арганізавана ў пачатку юбілейнага года — 70-годдзя Савецкай улады. І сапраўды, ці многа яшчэ ў беларускім жывапісе карцін, якія так сцісла і вобразна раскрывалі б сэнс новай эпохі, як «Аднадушнасць»? Адна з ранніх карцін М. Савіцкага «Хлеб»: белы змрок развітання і адыходу партызан па дарозе бессмяротнасці; нялёгкі роздум людзей «У полі» на адваяванай зямлі... Прыкладна трэць створаных Савіцкім карцін, у якіх адлюстраваны эпізоды гераічнай гісторыі краіны, народа, увайшла ў гэту экспазіцыю.

Міхаіл Андрэевіч да персанальнай выстаўкі не рыхтаваўся. Ён проста працаваў. Як заўсёды шмат. Нягледзячы на стан здароўя. А галоўнае — нягледзячы на той перыяд жыцця, які здаўна называюць праходжаннем праз «медныя трубы» ганаровых званняў і ўзнагарод, калі для сяго-таго настае самазаспакоенасць, калі пахвала абарочваецца калыханкай.

— Мая справа — фарбаваць, — неаднойчы жартаўліва заўважаў мастак, падкрэсліваючы, што нягледзячы на тое, добра ці кепска гавораць пра яго самога і яго творы, а пэндзля ад яго ніхто не адбярэ. І менавіта ў працы — галоўны сэнс яго жыцця. І, магчыма, менавіта гэта, самая простая і ясная для мастака па прызванні, а не па назве, перакананасць дапамагае пераадольваць з найменшымі затратамі цяжкасці зусім не творчага парадку.

Здавалася б, усе магчымыя вышыні былі ўзяты пасля стварэння такіх магутных карцін, як «Віцебскія вароты», «Пакаранне смерцю», «Партызанская мадонна» — твораў народных духам і зместам. Здавалася б, пасля такіх выдатных твораў сучаснасці, як «Вязень 32815», «Мадонна Біркенау» з серыі «Лічбы на сэрцы», цяжка здзейсніць штосьці больш значнае. Мабыць, і цяпер нехта, акінуўшы выстаўку раўнадушным позіркам, не знойдзе ў экспазіцыі прынцыпова новага. Але наша вока няхай будзе пільным. Яно адразу прыкмеціць, вылучыць і тое, што напісана было даўно, ды прайшло незаўважаным, і тое, што нядаўна выйшла з-пад рукі майстра.

Чвэрць стагоддзя назад напісаны эскіз да карціны «Маці партызана». Але і сёння — свежыя гэтыя тэмпераментныя, быццам не рукой, а сэрцам прачэрчаныя мазкі. Пранізлівае пачуццё болю. Таго болю, калі свет успрымаецца прывіднай фантасмагорыяй. Так дадзена было напісаць чалавеку, які прайшоў праз боль пакут. Канчатковы варыянт карціны знаходзіцца ў сафійскім музеі, у Балгарыі. І толькі цяпер стала відавочным, што эскіз кампенсуе яе адсутнасць.

Савіцкі піша пра подзвіг. Пра гэта новае палатно — «41-ы год Перамогі». На ім адлюстраваны двое. Стары ў гімнасцёрцы, апранутай з нагоды свята, з акрытымі пледам каленямі. На грудзях — баявыя ўзнагароды. Побач старая жанчына. Уладкаваўшыся ля мужа, прытулілася шчакой да яго рукі. Выцвілымі, але пільнымі вачамі ўглядаецца ён у нас з нейкім напружаннем.

**НАШЫ ГОСЦІ**

# «ЦІ ЛЁГКА БЫЦЬ МАЛАДЫМ?»

Пра гэты фільм вядомага латышскага рэжысёра-дакументаліста Юрыса Подніекса напісана ўжо нямала ўсхваляваных радкоў у цэнтральных газетах; была гаворка пра новую работу і на ўсесаюзным тэлеэкране. Велізарныя чэргі ля касы маскоўскага кінатэатра, у якім праходзілі прэм'ерныя паказы стужкі, аператыўныя водгукі друку, надзвычайны грамадскі рэзананс, — такое вельмі рэдка выпадае на лёс фільмаў дакументальных!

Нядаўна і мінчане пабачылі праўдзівую, удумлівую і палемічную работу «Ці лёгка быць маладым?» Пашчасціла: фільм яшчэ не выйшаў у пракат, але даўні і добры наш сябар Ю. Подніекс адгукнуўся на запрашэнне беларускіх калег, прыехаў у Мінск, прывёз карціну. Сустрэчы з гледачамі прайшлі ў розных аўдыторыях, найперш — у Доме кіно. Так цесна бывала ў зале хіба што пад час прагляду «кіношнага імпарту». А тут — савецкі дакументальны фільм!

Рабілі фільм два гады. Доўжыцца ён 80 мінут — час, за які мы разам са стваральнікамі спрабуем наблізіцца да тых 15—20-гадовых, якія шукаюць сваё месца ў жыцці. Углядаемся ў «панкаў», якія без дай прычыны грамілі вагоны электрычкі і апынуліся на лаве падсудных; слухаем споведзь расчараванага паштара, які, здаецца, знайшоў сябе... у індуізме; назіраем за маладзенькім работнікам морга. А вось іншае. Нядаўні школьнік, які не паступіў у медінстытут, працуе санітарам і не адмаўляецца ад сваёй мэты — вучыцца далей. Рэжысёр-кінааматар, які здымае фільм пра сваіх равеснікаў, што апынуліся ў ілюзорным, ізаляваным ад жыцця лабірынце. Маналог падлетка, які ўдзельнічае ў рытуальным патрулі на плошчы Латышскіх стралкоў у Рызе. Твары хлопцаў, якія не так даўно хадзілі ў дыскатэкі, на канцэрты рок-ансамбляў, а цяпер успамінаюць сваю службу ў войску, Афганістан...

Вобразная асэнсаванасць кадраў, рэпартажнае назіранне, асацыятыўная дэталь, скупы аўтарскі каментарый, дыялог з удзельнікамі фільма,— усё гэта ўтварае мастацка-дакументальную цэласнасць, «пераказаць» якую амаль немагчыма. Праблемы маладых, наводзіць на думку знятае і паказанае Ю. Подніексам,— гэта праблемы ўсяго грамадства. Моладзь — наша люстэрка, люстэрка нашых супярэчнасцей і памылак. Трэба мець мужнасць і цярпенне, каб паглядзець у гэтае люстэрка і задумацца.

Калі фільм «Ці лёгка быць маладым?» з'явіцца на экранах, пастарайцеся яго паглядзець...

**С. ВЕТКА.**

насцярожана. І быццам прыслухоўваецца да цішыні. Яна глядзіць некуды ў сябе, у мінулае, і твар яе свеціцца шчасцем. Гэта шчасце ўсё яшчэ цудоўнага імгнення быцця. Імгненне — яно адзначана стрэлкамі старых ходзікаў, якія паказваюць без сямі мінут сем, — якое адлюстроўвае бясконцасць кахання, непадуладнага часу. Гэта шчасце пражытых разам многіх гадоў. Шчасце адданасці. Шчасце, што лёс зліўтаваўся, не разлучыў... Урачыста палымнее букет чырвоных цюльпанаў у паўзмроку пакоя.

кітам. А сяброўка, павязаная цёмнай хусцінкай, глядзіць вачамі мадонны. Прыгажуні! Жывапісец высвятліў прыгажосць у будзённасці. І яна перамагла. Гэтых ільнаводак цяжка параўнаць з вобразамі ранніх карцін. Пройдзена велізарная дыстанцыя ў спасціжэнні жыцця. Пазіцыя мастака стала больш завостранай сацыяльна, больш блізкай да канкрэтнага чалавека.

Фашызм ва ўсіх агідных яго праявах вельмі поўна адлюстраваны ў згаданай і ўсім вядомай серыі «Лічбы на сэрцы». Мастак працягвае гэту тэму ў

ны на першым плане. Колькі ўжо лекавых траў занесена ў Чырвоную кнігу! Сціплую жоўтую кветку купальніка паказвае нам касец з другога, не менш трывожнага палатна, гледзячы на нас строга, з перасцярогай...

У апошнія гады мастак асабліва шмат працуе над партрэтам. І толькі асобныя з іх былі на выстаўках. Вось, напрыклад, тэмпераменты — і гэтак жа тэмпераментна напісаны — Міхаіл Ульянаў. У дынамічнай позе, у руху рук адчуваецца энергія. Актыўны, сучасны вобраз.

# СПОВЕДЗЬ мужнасці і любові

У сувязі з гэтай карцінай Савіцкага ўспамінаецца палатно Я. Маісеенкі «9 Мая», дзе ярод персанажаў ёсць і тыя, хто прысутнічае на свяце нібы без поклічу душы. І тым, хто перажыў ліхалецце, што помніць яго і сёння, лепей быць адным. Так на адзіноце намаляваў Савіцкі сваіх герояў. У гэтым драматызм палатна.

Іншыя работы мастака, якія таксама прадстаўлены ўпершыню, нечакана развіваюць тэмы, якія Савіцкі распрацоўвае пастаянна. Палотны пераклікаюцца адно з адным, нібыта вядуць нячутныя дыялогі. Вось дыпломная «Песня». А вось спяваюць, вяртаючыся з поля, дзяўчаты-льнаводкі. Сюжэт амаль той жа. Але якія розныя карціны! У першай — успамін пра бесклапотнае юнацтва. Звонкае, як песня. Але і прасякнутае ледзь улоўным прадчуваннем бяды і развітання з краінай дзяцінства. Тут вячэрні паэтычны стан прыроды быў жывапісцу неабходны. У другой карціне пейзаж — толькі фон, суровае сінявата-халоднае асяроддзе. Уся ўвага сканцэнтравана на дзяўчатах. Ідуць бадзёра, ступаючы босымі нагамі на светлыя плямкі кветак. Твары характарныя, розныя. Гэта тыя, што засталіся на зямлі, не далучыўшыся да многіх равесніц сваіх у пошуках «прыгожага» гарадскога жыцця.

Мастак зараз ставіцца з асаблівай увагай да тыпажу і жыцця родных мясцін паблізу Талачына. Ён назірае сваіх герояў у розных сітуацыях.

Сям'я накіроўваецца ў госці марозным надвячоркам. І ў гэтым паважным шэсці, як некалі ў «Хлебе», мастак перадаў значнасць простага дзеяння. Праўдзівасць і годнасць, жыццё чалавека з чыстым сумленнем — агульная тэма гэтых карцін. Развіваючы яе, Савіцкі раптам звяртаецца да неўласцівага яму апавядальнага жанру. «Узнагароджанне граматай». Дзяўчаты-льнаводкі ніякавата адчуваюць сябе ад афіцыйных, сухіх слоў выказанай ім пахвалы. Крыху гратэскава выглядае вясковы бюракрат. Розныя людзі, маладыя і старыя, стомленыя і бадзёрыя, сабраліся ў непрыглядным пакойчыку з пафарбаванымі сценамі. І адчуваеш, што падзея адзначаецца фармальна, не так, як працаўніцы таго заслугоўваюць. А заслугоўваюць яны песеннага велічання, паэтычнага слова, якое гучыць у карціне «Лён цвіце». Тры дзяўчыны стаяць перад гледачом. У адной валасы залацяцца, як сонца, у другой — чысты лён, і вочы зіхацяць бла-

публіцыстычна гучным трыпціху «Агрэсія».

Цяперашняя жорсткая рэчаіснасць адлюстравана і ў карціне «XX век, 80-я гады». Яна — рэальнасць для тых, хто пакутуе ў засценках у самых гарачых кропках планеты, з каго і сёння здзекуюцца, каго забіваюць за праўду, імкненне да свабоды. Мастак уявіў сабе героя палатна чалавекам з народа — напэўна, ён мог быць і цесляром, і рабочым завода. Мужчыну з выразнымі рысамі твару, які ўвасабляе сумленне, веру ў справядлівасць, бяруць пад варту, надзяюць яму наручнікі. Дзейнічаюць безаблічныя чорныя фігуры, як тады, у мінулым. А цяпер яны прыйшлі з канцлагернага змроку ў аблічча фашысцкіх забойцаў.

Карціна своеасаблівая. Яна спалучае абагуленасць вобразасімвала з публіцыстыкай плаката. І надпісы па-плакатнаму дакладна і канчаткова вызначаюць «хто ёсць хто». На дошцы, якая вісіць на грудзях вязня, — «Pacem in terris» (Мір на зямлі) — надпіс-асуджэнне для катаў. Ён — лозунг барацьбы народаў. Тут, як у карцінах серыі «Лічбы на сэрцы», ясна прачытваецца трагічны аптымізм супрацьстаяння маральнай сілы сіле фізічнай, злоснай, агрэсіўнай. Можна забіць, пасадзіць за краты чалавека, але нельга забіць ідэю, якой жывуць мільёны.

Творчасць Савіцкага за апошнія гады нібы раздалася ўшыркі ў імкненні ахапіць жыццёва важныя праблемы стагоддзя. Яны не могуць не хваляваць мастака. Пэўна, жывапісец адчуў і тое, што размова аб прынцыпова важным не заўсёды патрабуе маштабных або пранізліва гучных вобразаў. Гэта размова можа быць і ціхай, і пранікнёнай. Мы прывыклі лічыць, што Савіцкі не пейзажыст. Ён і не стаў ім. Але ў шэрагу яго ных карцін — «Сказ пра хлеб», цыкл палотнаў, прысвечаных паэзіі Янкі Купалы — пейзаж пачаў адыгрываць больш значную ролю. А ў дзвюх новых работах ён сказаў аб прыродзе трывожнае слова. Мастак увёў у іх вобраз касца — чалавека, які заклапочаны лёсам жывога. У палатне «Вечар» стан бурнай, пратэстуючай прыроды перададзены жорсткім падсветам аранжавай паласы ля гарызонта, разарванымі аблокамі. Іх абрысы рытмічна паўтораны сілуэтам пяшчотнай вярбы пад навальнічным ветрам... Цяжка задумаўся чалавек з касой, намалява-

А вось выпісаны графічна дакладна Пімен Панчанка. Абодва героі не пазіруюць. Яны знаходзяцца ў натуральным для іх стане. Ульянаў, абаперышыся на поручні крэсла, звернуты да некага ў палемічнай гутарцы. Панчанка чые, быццам спавядаецца, гаворачы аб нечым патаемным...

Мастак шмат працаваў над вобразам Янкі Купалы. Адзін з партрэтаў прадстаўлены ў экспазіцыі выстаўкі. Ёсць у абліччы паэта раскаванасць і летуценнасць і ледзьве заўважная стомленасць. Тут не выяўленчы сімвал, а партрэт індывідуальнасці — тонкай, шматграннай. Іншым уяўляецца мастаку Колас. Яго партрэт вылучаецца жорсткай канструктыўнасцю рашэння.

І ёсць у мастака яшчэ партрэт, які асабліва быў бы дарэчы ў гэтыя дні. Але ў экспазіцыю ён не ўвайшоў, бо зараз знаходзіцца ў Маскве. На першым плане невялікага палатна, напружана скрыжаваўшы на грудзях рукі, сядзіць Пушкін. А за ім і горда, і трапятліва, і сумна ўзвышаецца яго жонка. Вялікія празрыста-светлыя вочы, маленькі рот, які, як сведчаць, амаль ніколі не кранала ўсмешка.

Хіба не дзіўная эвалюцыя жаночых вобразаў? Сельскія дзяўчаты, жанчыны-працаўніцы — вобразы, што ўзняліся да самага ёмістага абагульнення ў «Партызанскай мадонне». Але вось і яна, «мінская», на сваім звычайным месцы, адведзеным у пастаяннай экспазіцыі музея. Вось яе адкрыты, даверлівы позірк. У наш няўстойлівы свет, як некалі рафаэлеўская мадонна, нясе яна сваё бясцэннае дзіця. Нясе самаахвярна. І з надзеяй.

Ці існуе тут кантраст з Наталляй Ганчаровай? А раптам — падабенства? Не, вядома, не знешняе падабенства. Але ёсць роднасць унутраная. Яны абедзве — мадонны, якія знаходзяцца ў стане трывогі, у трапятлівай ўразлівай жаноцкасці сваёй, у спадзяванні на давер, любоў і дабро.

Творчасць М. Савіцкага насычана думкай. Яна адкрывае новыя і новыя грані зменлівага і неспакойнага свету, адлюстроўвае гэты свет і ўзвялічвае цудоўнае ў ім. Так складаецца бясконцая аповесць аб мужнасці і подзвігах, аб любві і веры, аб дабрацэ і адданасці — аб тым, што вечнае і заўсёды неабходнае нам.

**Эма ПУГАЧОВА.**



М. САВІЦКІ. Партрэт Пімена Панчанкі.



М. САВІЦКІ. 41-ы год Перамогі.

# ПРЫЗВАННЕ

**Да 75-годдзя в дня нараджэння Навума ПЕРКІНА**



**Гэтага сціплага, заўсёды падцягнутага і стрыманага чалавека добра ведалі многія беларускія літаратары. Дабрыня і чуласць да людзей спалучаліся ў ім з той сапраўднай інтэлігентнасцю, якая не ўспрымае нічога знешняга, паказнога ці няшчырага.**

**Шлях у літаратуру для Навума Перкіна, як і для прадстаўнікоў яго пакалення, быў няпросты. Складаную, можна сказаць, эпахальную па сваіх маштабах школу жыцця прайшоў ён, перш чым засесці за свой рабочы стол літаратара-даследчыка і крытыка. Асноўныя вехі яго біяграфіі асветлены рамантыкай барацьбы за новую сацыялістычную яву. Выбар жыццёвай пазіцыі быў зроблены вельмі рана і беспаваротна — яшчэ тады, калі па заціхлых вулачках яго роднага Турава гарцавалі банды злавеснага атамана Булак-Булаховіча. Праўда, маці спрабавала неяк утрымаць непаседу-падлетка каля сямейнага. рана асірацелага вогнішча, але ён ірваўся насустрач новаму жыццю. Вучоба ў Гомельскім педтэхнікуме, праца ў вясковай школе ў разгар калектывізацыі на Палессі, літфак Мінскага педагагічнага, вучоба ў аспірантуры пад кіраўніцтвам вядомага маскоўскага германіста прафесара Вахрушава. Здавалася, нішто не зможа затрымаць імклівае ўзыходжанне таленавітага філолага. Ды раптам трывожныя пазыўныя маскоўскага радыё, вайна...**

**Аднак у сэрцы юнака таілася глыбокая вера, хістанняў не было і быць не магло: «З якой бадзёрай дзелавітасцю і ўсведамленнем абавязку я ўкладваў 22 чэрвеня свой напаўваенны пляцак, гартаў свае запісы па артылерыйскай справе, запіхваў пацёрты нямецка-рускі слоўнік».**

**Пачынаецца шматпакутная, але гераічная ваенная адысея маладога афіцэра-прыпісніка: баі пад Старадубам, адступленне з бесперапыннымі баямі і сутычкамі ў варожым тыле, партызанскі атрад на Браншчыне, затым вызваленне, ізноў фронт, ізноў раненне, ваенны шпіталь, нарэшце, пераможны зварот ў родныя мясціны. Капітан Перкін выканаў свой доўг ад самага пачатку і да канца.**

**Першыя навуковыя працы Н. Перкіна звязаны з даследаваннем культурна-гістарычных вытокаў новай беларускай літаратуры, яе тыпалагічных сувязей з братнімі славянскімі літаратурамі, традыцыямі рамантызму і нацыянальнага фальклору. Даследчыя вывады вучонага не страцілі сваёй актуальнасці і ў наш час —ва ўсё ўзрастаючых маштабах яны ўплываюць і на сучасны ўзровень літаратуразнаўчых даследаванняў. Тонкае адчуванне спецыфікі паэтычных жанраў яскрава выявілася ў ягоных манаграфіях і артыкулах пра творчасць А. Куляшова, П. Броўкі, П. Глебкі, П. Панчанкі, М. Танка і іншых вядучых беларускіх пісьменнікаў. Развіццё беларускай літаратуры ў даваенныя гады, выпрацоўка ў ёй новых творчых прынцыпаў і ідэй сталі аб'ектам усебаковага асэнсавання ў фундаментальнай манаграфіі Н. Перкіна «Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры 20—30 гг.» (1960). Узначальваючы сектар узаемасувязей у Інстытуце літаратуры АН БССР, выключную ўвагу надаваў ён праблемам творчага ўзаемадзеяння нацыянальных літаратур у кантэксце агульных грамадскіх і культурных працэсаў, іх інтэрнацыянальнаму пафасу і мастацкай адметнасці, выяўленню зыходных ідэйна-эстэтычных прынцыпаў і асноў («У сям'і братніх літаратур» (1967), «Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў літаратуры» (1971), «Абсягі думкі» (1979).**

**На працягу ўсёй творчай дзейнасці Н. Перкін многа сіл і таленту аддаў выхаванню дастойнай творчай змены, падрыхтоўцы навуковых кадраў (падручнікі для сярэдніх школ і ВНУ, шматлікія метадычныя артыкулы і дапаможнікі, публічныя выступленні і інш.). І ўсё гэта стала арганічнай патрэбай таленавітага вучонага-педагога і выхавацеля па прызванні, па складзе сваёй паэтычнай і высакароднай душы.**

**Мікола ГРЫНЧЫК.**

ЧЫТАЧ СТАВІЦЬ ПЫТАННЕ

# ЦЯЖКІЯ ЎЗДЫХІ... БЕЛАРУСКАЙ ЭСТРАДЫ

Паслухаў паўтор вельмі актуальнай перадачы Беларускага радыё — аб праблемах маладых эстрадных выканаўцаў. А крыху раней пачуў у эфіры расказ пра падрыхтоўку кампазітарскіх кадраў у рэспубліцы. (Абедзве перадачы з папулярнай праграмы Беларускага радыё «Моладзі пра музычнае мастацтва». — **Рэд).** Гаварылася, што на аддзяленне кампазіцыі ў нашу кансерваторыю нярэдка трапляюць людзі выпадковыя. З сямі дзесяткаў членаў Саюза кампазітараў БССР добрую музыку пішуць аўтары, якіх можна па пальцах пералічыць. З гэтага можна зрабіць выснову пра нізкія патрабаванні да тых, хто паступае, пра нездавальняючы ўзровень падрыхтоўкі музыкантаў. А яны павінны пісаць музыку, адпаведную духу нашага часу і нават — для будучыні!

Часта даводзіцца слухаць па радыё інфармацыю пра замежныя паездкі нашых артыстычных калектываў. Гордасць адчуваеш за наш беларускі народ, за ягоны росквіт, за ягоную старажытную песенную культуру, танцы. Ды міжволі думаеш: а што ж новага павезлі туды нашы артысты?.. Успамінаюцца і сустрэчы-канцэрты дзеячаў нашага эстраднага мастацтва, дзе гледачы задаюць слушныя пытанні: дзе рыхтуюць маладых эстрадных спевакоў? Ці ёсць дастойная змена? І адказаць на гэтыя пытанні, аказваецца, нялёгка. Ці не таму, што работа з маладымі спевакамі вядзецца «самапасам»?

Няма адпаведных педагогаў, — уздыхаюць прызнаныя майстры беларускай эстрады. І вось атрымліваецца невясёлая для нас карціна, як, скажам, пад час перадачы Цэнтральнага тэлебачання «Песня-86». На сцэну выходзяць па некалькі разоў адны і тыя ж спявачкі: Ратару, Чапрага, Вескі, Талкунова і інш., не паспяваючы мяняць свае шыкоўныя ўборы. Песенькі ў іх выкананні часта малазмястоўныя, затое модныя. Таму што спяваюць — зоркі! Зоркі з Эстоніі, Малдавіі, Грузіі... А вось на Беларусі эстрадныя зоркі — прадстаўніцы «найлепшага полу», здаецца, зніклі з небасхілу. Ці не вінаватыя ў гэтым кіруючыя органы культуры нашай рэспублікі і тыя людзі, якія «стаяць ля руля» нашага музычнага мастацтва? Ці не значыць, што ў Эстоніі, Грузіі, Малдавіі вядзецца на музычнай эстрадзе глыбокая і карпатлівая работа, ёсць і педагогі, і рэжысёры, і балетмайстры, ёсць вядомыя ўсім поспехі — чаго, на жаль, не скажаш пра Беларусь.

Мы захапляемся фальклорам — і гэта цудоўна. Але, думаю, няправільна робім, калі адно захапленне развіваем ва ўрон захапленням іншым. Ці не ў выніку гэтага наша песенная эстрада і наша баявая сатырыка-гумарыстычная эстрада адышлі як бы на другі план? Ствараецца ўражанне, што многія работнікі культуры не хварэюць за гонар рэспублікі і таму іх не цікавіць, што робіцца на эстраднай ніве, ці гадуюцца новыя таленты.

Пакуль што нас «ратуюць» Яраслаў Еўдакімаў, Ігар Лучанок, Вольга Пархоменка, Ганна Радзько, Эдуард Ханок, Валерый Іваноў, Віктар Вуячыч, Леанід Барткевіч, нашы вакальна-інструментальныя ансамблі. Гэта адметныя і шаноўныя артысты, кампазітары. Можна дадаць і іншых прадстаўнікоў сталага пакалення, выказаўшы ім удзячнасць. Ды дзе ж свежыя сілы, больш маладыя? Яны, канечне, ёсць, але іх, маладых імёнаў, вельмі ўжо мала для такой буйной рэспублікі, як Беларусь. Можа, прычына іх малалікасці ў тым, што сапраўдныя таленты доўга «ходзяць незаўважанымі», не адчуваюць сябе патрэбнымі, не знаходзяць шляхоў у прафесійнае мастацтва?

Словам, работа з творчай моладдзю, падыход да яе навучання вымагаюць зацікаўленасці, увагі з боку адпаведных устаноў і творчых саюзаў, — такое маё ўражанне. Талент — гэта рэдкасць, яго трэба знайсці, заахвоціць, падтрымаць, даць прафесійную адукацыю. Між іншым, хіба не гэтак бывае ў вядомых беларускіх спартыўных трэнераў, чые таленавітыя выхаванцы сваімі высокімі дасягненнямі ўслаўляюць на ўвесь свет і рэспубліку, і нашу вялікую Радзіму — СССР? Трэба і добрых выканаўцаў песень рыхтаваць карпатліва і спакваля. Шукаць таленты і ў самадзейнасці. Праводзіць конкурсы эстрадных спевакоў — праводзіць не фармальна, а з адказнасцю, найбольш дастойных вылучаць для работы на эстрадзе ці для вучобы. Няма адпаведных выкладчыцкіх кадраў у рэспубліцы — дык хіба адмовяць у вучобе ці стажыроўцы маладым беларускім артыстам, эстрадным кампазітарам і музыкантам Масква, Ленінград, Кіеў?

У пошуку і падтрымцы маладых талентаў павінны быць зацікаўлены ўсе: ад Саюза кампазітараў да вясковай музычнай школы. Многае тут можа зрабіць Беларускае тэлебачанне: чаму б не наладзіць арыгінальную перадачу, накшталт своеасаблівага пробнага канцэрта «Мая любімая песня»? А чаму б у Мінску не правесці прадстаўнічы конкурс выканаўцаў беларускай песні, тым больш, што артысты з іншых рэспублік Савецкага Саюза маюць у рэпертуары песні беларускіх кампазітараў, ведаюць іх таксама ў Польшчы, у Чэхаславакіі...

Аўтарытэт нашых творцаў на ніве эстрады трэба ўздымаць.

**Леанід ДУБОЎСКІ,**
**мастак-афарміцель.**
г. Мар'іна Горка.

**КАМЕНТАРЫЙ АДДЗЕЛА МУЗЫКІ**

**Заклапочанасць нашага чытача Л. Дубоўскага станам беларускай эстрады, пэўна, падзяляюць многія. І аматары-меламаны, і прафесіяналы, неабыякавыя да таго, якія песенныя і эстрадна-інструментальныя навінкі гучаць у нашым эфіры, у канцэртных залах, хто знаёміць з гэтымі навінкамі слухачоў, з чым выходзіць Беларусь на ўсесаюзную музычную арэну і да т. п., — часта абменьваюцца трывожнымі пытаннямі. Пытаннямі, аналагічнымі тым, што ўзняты ў лісце Л. Дубоўскага. Аднак ад рытарычных пытанняў і «ўздыхаў» з прычыны праблем беларускай эстрады трэба пераходзіць да канструктыўных прапаноў і да справы. Пытанні, звернутыя да кіраўнікоў органаў культуры, нельга пакідаць без адказу.**

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# Аператыўнае даследаванне

*Р. Б. Смольскі. «Нашчадкам у спадчыну». Тэма Вялікай Айчыннай вайны ў беларускім тэатры 80-х гадоў. На рускай мове. Мінск, «Навука і тэхніка», 1986.*

Новая кніга Рычарда Смольскага, прысвечаная сцэнічнаму ўвасабленню тэмы Вялікай Айчыннай вайны беларускім тэатрам 80-х гадоў, з'яўляецца лагічным працягам працы, якую аўтар, адзін з вядучых нашых тэатразнаўцаў, распачаў больш за дзесяць год назад. Плёнам гэтай працы сталі паспяхова абароненая дысертацыя і манаграфія «На сцэне — неўміручасць подзвігу» (1982), дзе даследуецца асэнсаванне гераічных і трагічных падзей мінулай вайны ў тэатрах рэспублікі ў 1940—70 гады.

«Буйныя творчыя дасягненні беларускай літаратуры і мастацтва ў распрацоўцы ваеннай праблематыкі, — піша Р. Смольскі, — абумоўлены многімі прычынамі, і перш за ўсё своеасаблівасцю гістарычнага лёсу рэспублікі-партызанкі». І таму заканамерна, што ў цэнтры новай кнігі аказаліся спектаклі па творах С. Алексіевіч, В. Быкава, А. Дударава, М. Матукоўскага, А. Петрашкевіча, В. Ткачова, І. Чыгрынава, І. Шамякіна, іх аналізу прысвечаны два з трох раздзелаў — «Новыя гарызонты беларускай драмы» і «Асваенне беларускай прозы».

У 80-я гады беларускія тэатры таксама звярталіся да творчасці Л. Ляонава, В. Астаф'ева, В. Розава, Ю. Нагібіна, Ю. Фучыка. Пра гэтыя пастаноўкі аўтар разважае ў раздзеле «Пашырэнне кола пошукаў».

Нельга не адзначыць рэдкую аператыўнасць кнігі. Звычайна паміж выхадам у свет тэатразнаўчай працы і аналізуемай у ёй жывой сцэнічнай практыкай існуе часавы разрыў мінімум у два-тры гады, што лічыцца нормай. У даследаванні Р. Смольскага такога разрыву амаль няма — у навуковы ўжытак уведзены факты і з'явы грамадскага і культурнага жыцця, якія адбыліся ў 1985 і нават 1986 годзе. А водгукі на спектакль Маладзёжнага тэатра БССР «Гэтыя незразумелыя старыя людзі» С. Алексіевіч нават у перыядычным друку з'явіліся пасля з'яўлення кнігі «Нашчадкам у спадчыну», дзе даецца падрабязны і грунтоўны разбор гэтай пастаноўкі.

Аналіз асобных спектакляў Р. Смольскі арганічна спалучае з роздумам над праблемамі, характэрнымі для ўсяго савецкага тэатра, разглядаючы асэнсаванне ваеннай тэматыкі беларускай сцэнай на фоне агульнатэатральнага і агульнакультурнага працэсаў. Калі, напрыклад, аўтар гаворыць пра купалаўскую пастаноўку «Радавых», якая стала найвышэйшым дасягненнем нашага тэатра 80-х гадоў, ён выходзіць за межы аналізу п'есы і спектакля і ўключае іх у кантэкст усёй творчасці драматурга А. Дударава і рэжысёра В. Раеўскага. Р. Смольскі ўказвае на генетычную сувязь «Радавых» з першымі «ваеннымі» п'есамі А. Дударава «Узлёт» і «Выбар», а, гаворачы пра эстэтыку купалаўскага спектакля, заўважае, што «рэжысура В. Раеўскага, якая вызначаецца асаблівай пластычнай выразнасцю, схільнасцю да ўскладнёнага сцэнічнага пісьма, на гэты раз была сканцэнтравана, не адмаўляючыся ад звыклай манеры, на падрабязнай, тонкай абмалёўцы ўзаемаадносін дзейных асоб, на раскрыцці душэўнага стану, маральнага патэнцыялу салдат».

Цікавасць выклікаюць тэарэтычныя разважанні аўтара пра сённяшнія магчымасці і асаблівасці жанру трагедыі ў тэатры, пра суадносіны традыцый і наватарства ў адлюстраванні беларускім тэатрам ваенна-патрыятычнай праблематыкі, пра заканамернасці інсцэнізацыі прозы. Развагі грунтуюцца на аналізе лепшых спектакляў, сярод якіх «Радавыя» ў акадэмічных тэатрах імя Янкі Купалы і Якуба Коласа, «Знак бяды» В. Быкава і «Бабскае царства» Ю. Нагібіна ў Рускім тэатры БССР.

Аўтар, адзначаючы безумоўныя дасягненні беларускага тэатра ў асэнсаванні ваеннай тэматыкі, у той жа час выступае строгім крытыкам. Сярод прычын, якія абумовілі няўдачы некаторых пастановак, Р. Смольскі называе перанос са спектакля ў спектакль рэжысёрскіх, сцэнаграфічных і акцёрскіх штампаў, павярхоўнае веданне жыццёвага матэрыялу, прыблізнае ўяўленне пра мэту і скіраванасць сцэнічнага твора, арыентацыю на «ўсярэдненага» гледача.

Дзеля справядлівасці варта адзначыць пэўныя недахопы кнігі. Дзіўна, але гэта... таксама аператыўнасць, якая ўжо не дазваляе прааналізаваць генезіс спектакляў, асэнсаваць, у якім напрамку развіваецца тая ці іншая пастаноўка. Думаецца, што не трэба было ўключаць у даследаванне і аналіз спектакля «Плач перапёлкі» І. Чыгрынава ў купалаўцаў, — бо гэты твор Р. Смольскі ўжо вельмі падрабязна разгледзеў у сваёй манаграфіі «На сцэне — неўміручасць подзвігу».

Але гэтыя заўвагі маюць прыватны характар. Хочацца яшчэ раз падкрэсліць, што новая кніга Р. Смольскага з'яўляецца сур'ёзным і грунтоўным даследаваннем.

**Віктар НАВУМЕНКА.**

# Да 150-годдзя з дня смерці А. С. Пушкіна

**Аляксандр ПУШКІН**

## Кветка

Яе засохлай, не духмянай,
Забытай бачу ў кнізе я;
І тут жа мараю жаданай
Душа напоўнена мая:

Дзе і якой цвіла вясною?
Ці дацвіла? і хто сарваў,
Знаёмай ці чужой рукою?
Нашто яе сюды паклаў?

На памяць першага спаткання,
Альбо разлукі векавой,
Ці адзінокага гуляння
У полі, ці ў цішы лясной?

Дзе той ці тая, што кахалі?
Жывуць яшчэ і ў нашы дні?
Ці і яны ужо завялі,
Як гэта кветка ў цішыні?

## Дарожная жальба

Колькі мне гуляць на свеце
Ці у брычцы, ці вярхом,
Ці ў кібітцы, ці ў карэце,
Ці ў вазку, альбо пяшком?

І не ў спадчыннай бярлозе
І не там, дзе продкі спяць,
На вялікай мне дарозе
Бог прыдумаў паміраць,

У гарах ці пад ракітай,
На камені пад канём,
Ці у рове, што размыты,
Пад раскіданым мастом.

Ці чума мяне падчэпіць,
Ці замерзну на двары,
Ці мне ў лоб шлагбаум улепіць
Інвалід—цюхцяй стары,

Ці у лесе пападуся,
Нож зладзейскі паласне,
Ці ад суму задыхнуся
Дзесьці у каранціне.

Колькі мне ў журбе галоднай
І пасціць і сумаваць
І цяляцінай халоднай
Труфлі Яра памінаць?

І ўсё ж лепей быць на месцы,
Па Мясніцкай раз'язджаць
І аб вёсцы і нявесце
Пры каміне ўспамінаць!

І ўсё ж лепей чарка рому,
Ноччу сон, а ўранку чай;
І ўсё ж лепей, братцы, дома!..
Ну, пайшоў жа, паганяй!..

## Птаха

Я на чужыне назіраю
Знаёмы звычай даўніны;
На волю птаху выпускаю
На свяце сонца і вясны.

Адчуў у сэрцы суцяшэнне;
За што на бога наракаць,
Калі хоць аднаму стварэнню
Мог волю я падараваць!

## Прыкметы

Я ехаў к вам: жывыя сны
Віліся ўслед гурмой гуллівай,
І месяц справа, як ручны,
Суправаджаў мой бег руплівы.

Ад вас вёў шлях: не тыя сны...
Душа ўспаміны варушыла,
І месяц злева, як ручны,
Суправаджаў мяне паныла.

І марам вечным у цішы
Так аддаемся мы, паэты;
Так згодны прымхі і прыкметы
З душой, з пачуццямі душы.

Пераклаў Ю. СВІРКА.

# З НАШЧАДКАМІ ПАЭТА

Як памятаю сябе, памятаю і Пушкіна. Спачатку зачаравалі казкі, потым вершы, паэмы і яго імклівая, празрыстая і лаканічная проза.

Што давядзецца сустракацца з нашчадкамі вялікага паэта, і марыць не марыў, дзе яны, хто яны, якія яны, — нават не ўяўляў. А сустракацца давялося і неаднойчы.

У 1931 годзе мая стрыечная сястра закончыла педагагічныя курсы пры Рагачоўскім тэхнікуме і ў жніўні прыехала дадому з некалькімі сяброўкамі, накіраванымі на работу ў школы Глускага раёна. Пакуль ішло размеркаванне, усе яны жылі ў цеснай дзядзькавай хаце. Сярод іх асабліва вылучалася цёмна-русая, кучаравая, з выразным тварам Оля. Сястра мне сказала, што гэта праўнучка Пушкіна. Бацькі яе, Кліменкі, жывуць у Бабруйску, а яна едзе ў вёску Оземля выкладаць беларускую мову. Так, так, праўнучка Пушкіна, Вольга Яўгенаўна Кліменка, вучыла маленькіх палешукоў роднай мове і літаратуры. Яшчэ разы два сустракаў Вольгу Яўгенаўну ў часе настаўніцкіх канферэнцый.

У 1974 годзе на свяце Пушкінскай паэзіі ў Міхайлаўскім я пазнаёміўся з праўнукам Аляксандра Сяргеевіча — Грыгорыем Грыгор'евічам Пушкіным, яго жонкай Марыяй Іванаўнай і сынам Сашам. З Грыгорыем Грыгор'евічам мы аднагодкі, адразу сышліся і разгаварыліся. Ён да апошняга часу працаваў друкаром у паліграфічным камбінаце «Праўды». Ад яго даведаўся, што Вольга Яўгенаўна да пенсіі працавала настаўніцай, і цяпер жыве ў Архангельску. Грыгорый Грыгор'евіч сказаў, што многія пушкінскія нашчадкі звязаны з Беларуссю. У маёнтку Вавулічы, каля Цялушы, жыла ўнучка паэта Наталля Аляксандраўна Варанцова-Вельямінава. Памерла яна ў 1912 годзе і пахавана на могілках у Цялушы.

Адразу прыгадалася, што паэт Мікола Аўрамчык расказваў мне, як некалі яшчэ малою дзяўчынкаю яго маці часта з Плёсаў хадзіла да Наталлі Аляксандраўны. Унучка Пушкіна была вельмі чулая і ўважлівая да сялян: вучыла дзяцей, дапамагала бедным, раздавала лекі, а цяжкахворых за свой кошт адпраўляла ў бальніцы Вільні і Гомеля. Дзяўчынцы з Плёсаў падарыла томік вершаў свайго вялікага дзеда. Па іх пазней Мікола Аўрамчык далучаўся да паэзіі.

Сын Грыгорыя Грыгор'евіча Саша служыў у арміі ў Беларусі і вельмі ўпадабаў наш край. А сам Грыгорый Грыгор'евіч ваяваў на беларускай зямлі ў складзе першай дэсантнай гвардзейскай дывізіі. Пад Віцебскам ён узяў у палон гітлераўскага афіцэра. Калі палоннаму сказалі, што яго прывёў праўнук Пушкіна, той не даў веры. Відаць, добра папрацавала гебельсаўская прапаганда. Афіцэр пакруціў галавою і сказаў, што Пушкін быў дваранін, а ўсіх дваран выслалі ў Сібір. Разведчык растлумачыў, што яго бацька быў палкоўнікам у часе першай імперыялістычнай вайны, а ў 1917 годзе адразу перайшоў на бок Савецкай улады і ўдзельнічаў у разгроме белагвардзейцаў на Паўднёвым фронце. Пасля дэмабілізацыі, з 1921 года, быў навуковым супрацоўнікам пушкінскага аддзела Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна.

У часе ўрачыстасцей на славутай Пушкінскай паляне я прачытаў верш пра прыезд Пушкіна ў Магілёў па дарозе ў Міхайлаўскае. Ехаў ён праз Полацк, Віцебск. Бабінавічы, Оршу, Магілёў, Чэрыкаў.





На здымках: Грыгорый Грыгор'евіч Пушкін—праўнук А. С. Пушкіна; Аляксандр Грыгор'евіч Пушкін—прапраўнук А. С. Пушкіна.

Увечары мы гулялі з Грыгорыем Грыгор'евічам па галоўнай вуліцы Пушкінскіх гор, і ён мяне далікатна паправіў, што ў Магілёве Пушкін быў не 5-га, а 6-га жніўня 1824 года, што гэты факт аброс легендамі і прыдумкамі. Для пэўнасці ён спаслаўся на ўспаміны пляменніка дырэктара царскасельскага ліцэя Я. А. Энгельгардта — Аляксандра Пятровіча Распопава (1803—1882 гг.), які ўдзельнічаў у сустрэчы Пушкіна ў Магілёве. Спадзяюся, што чытачу будзе цікава пазнаёміцца з гэтымі ўспамінамі, якія прапаную ў сваім перакладзе.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

# ЯГО ВІЦЕБСКІ КАРЭСПАНДЭНТ

Вядомы пушкіназнавец П. Я. Шчогалеў упершыню апублікаваў у «Московском пушкинисте» (т. II, 1930) пісьмы многіх карэспандэнтаў Пушкіна. Самым «бескарыслівым паклоннікам» вялікага паэта Шчогалеў называе віцябчаніна В. Я. Мызнікава, які ў 1831 годзе сустракаўся з Пушкіным у Пецярбурзе, 9 верасня 1833 г. напісаў Пушкіну пісьмо з Віцебска і прысвяціў паэту свой верш.

З матэрыялаў ЦДГА БССР відаць, што паручнік 7-га палка Мызнікаў быў незвычайнай асобай.

У красавіку 1833 года граф Борх, уладальнік буйнога маёнтка ў Люцінскім павеце Віцебскай губерні, скардзіўся віцебскаму генерал-губернатару князю М. М. Хаванскаму, што ў яго маёнтку з'явіліся нейкія бунтары з іншых паветаў, якія «муцяць ваду», «бунтуюць сялян на шкоду яго, графа Борха, кіравання». У яго ж маёнтку пануе поўны парадак, сялянам няма на што скардзіцца, «все имеющие старание в домоводстве суть достаточны, а в бедном состоянии находятся лишь те, которые ведут себя распутно и занимаются пьянством».

Віцебскі генерал-губернатар склікаў камісію для расследавання беспарадкаў у маёнтку графа Борха. Чыноўнікам асаблівых даручэнняў быў прызначаны Мызнікаў, ад'ютант губернатара, які паставіўся да свайго абавязку вельмі сумленна.

Расследуючы сялянскія справы, Мызнікаў прыйшоў да вываду, што галоўнай прычынай беспарадкаў з'яўляюцца «дрэнныя паводзіны самога землеўладальніка» графа Борха, а бунтары і зламыснікі тут ні пры чым. Высветлілася, што «казённыя сяляне, якія знаходзяцца ў пажыццёвым уладанні графа Борха, кожны раз адпраўляюцца ў іншыя губерні ад 300 да 600 чалавек, але, вярнуўшыся на месца, не ведаюць, за якую цану яны працавалі, а чуюць толькі тое, што зробленыя імі грошы залічваюць ім у доўг». Усе сяляне знаходзяцца ў крайняй беднасці і амаль усе не маюць хлеба. Купец Злотнікаў, які быў арандатарам маёнтка графа Борха, і дваранін Рэут, даверыны ў справах Борха, «увогуле не знаходзілі патрэбным рабіць разлік з сялянамі, якія высылаліся на іншыя работы ў іншыя губерні».

Мызнікаў просіць генерал-губернатара аб'ектыўна разабрацца ў тым, што адбываецца, і заклікаць да парадку ліхвяроў. Аднак губернатар не паслухаў яго і ўзяў пад абарону апошніх. Па яго рашэнні сялянам было зроблена строгае папярэджанне, каб «оные из повиновения владельца выходить не осмеливались». Участковаму дваранскаму засядацелю даручана мець «за поведением оных неослабное смотрение», а сялян, якія адкрыта выступалі супраць насілля, судзіць як бунтаўшчыкоў.

Мызнікаў займаўся літаратурай, друкаваўся, паводле сведчання П. Я. Шчогалева. «в коекаких альманахах и журналах». Свабодны яго раз'езд «по высочайшему повелению» па ўсім Беларускім тракце даў яму магчымасць добра вывучыць жыццё народа.

Магчыма, таму Мызнікаў высока цаніў пісьменнікаў, якія пісалі не для прадстаўнікоў вышэйшага свету, а для шырокіх народных мас. Узорам для яго быў А. С. Пушкін, які сваімі «вековыми творениями» праславіў вялікі рускі народ.

Мызнікаў быў першым віцябчанінам, які ад імя сваіх суайчыннікаў вітаў паэта вялікай рускай зямлі.

**І. СЦЯПУНІН,**
**кандыдат філалагічных навук.**

# Сустрэча А. С. Пушкіна ў Магілёве 1824 г.

**У 1824 годзе ў губернскім горадзе Магілёве знаходзілася галоўная кватэра 1-й арміі. Пры галоўнай кватэры 1-й арміі была вучэбная кавалерыйская каманда для ўдасканалення па службе маладых афіцэраў, у ліку якіх знаходзіўся тады і я на службе ў Лубенскім гусарскім палку.**

**6 жніўня 1824 года, калі перад манежам палкавая музыка іграла зару, а публіка, карыстаючыся святочным днём і прыемным надвор'ем, гуляла па Шклоўскай вуліцы, праязджала на паштовых, павольна каляска; перад ёю нехта ішоў у афіцэрскай фуражцы, шынель напашні, у чырвонай шаўковай, рускага крою кашулі, падперазаны агагінікам. Каляска звярнула па Ветранай вуліцы на пошту; я адразу ж паспяшаўся за ёю, каб дазнацца, хто прыехаў. Наглядчык сказаў мне, што едзе з Адэсы калежскі асэсар Пушкін; я адразу ж кінуўся ў пасажырскі пакой і, узяўшы Пушкіна за руку, спытаў у яго:**

**— Вы, Аляксандр Сяргеевіч, напэўна, мяне не пазнаяце? Я— пляменнік былога дырэктара Ліцэя — Ягора Антонавіча Энгельгардта; у святочныя дні мяне бралі з корпуса ў Царскае Сяло, дзе вы з Дэльвігам прымушалі мяне дэкламаваць вершы.**

**Пушкін, абдымаючы мяне, сказаў: — Памятаю, памятаю, Саша, ты жвавы быў кадэт.**

**Я, ад радасці такой нечаканай сустрэчы, не ведаў, што рабіць; бегма пабег да таварышаў, што гулялі са мною, паведаміць ім, што праязджае наш дарагі паэт А. С. Пушкін (у той час усе зацікаўлены былі «Яўгеніем Анегіным», выйшла VI глава гэтага рамана пра дуэль Яўгенія з Ленскім). Усе паспяшаліся на пошту. Захаплення нельга апісаць. Пушкін загадаў адкаркаваць некалькі пляшак шампанскага. Пілі за ўсё, што прыходзіла ў галаву: за здароўе нянькі, Тані і за супакой душы Ленскага. Але гэтага для нас *было мала: у захапленні, што* з намі вялікі паэт Пушкін, мы ўзялі яго на рукі і аднеслі непадалёк на маю кватэру (я жыў разам з карнетам Куцынскім). Пушкін быў захоплены нашым энтузіязмам, мы ўзнімалі на руках дарагога госця, пілі за яго здароўе, за гонар і славу ўсяго ім створанага. Пушкін быў у самым вясёлым і прыемным настроі, ён ускочыў на стол і прадэкламаваў:**

Я люблю вечерний пир,
Где веселье председатель,
А свобода, мой кумир,
За столом законодатель.
Где до утра слово пей
Заглушает крики песен,
Где просторен круг гостей,
А кружок бутылок тесен.

**Зняўшы Аляксандра Сяргеевіча са стала, мы пачалі яго падкідаць на руках, а князь Абаленскі закрычаў:**

**— Панове, гэтая ўрачыстасць выходзіць за межы агульнай радасці, яна павінна быць адзначана чым-небудзь асаблівым. Панове! Зробім нашаму куміру ванну з шампанскага!**

**Усе згадзіліся, але Пушкін, усміхнуўшыся, сказаў:**

**— Сябры мае, шчыра ўдзячны, сапраўды было б цудоўна, я не супроць папаласкацца ў шампанскім, але спяшаюся: ехаць трэба.**

**Гэта было ў 4 гадзіны раніцы. Мы ўсе гурмою праводзілі яго на пошту, дзе зноў з'явілася шампанскае і, развітаўшыся, пажадалі яму шчаслівай дарогі...**

**ПАДЗЕІ І ДАТЫ**

# УСКРЫЛЕНЫ РЭВАЛЮЦЫЯЙ

**Да 85-годдзя з дня нараджэння Рыгора МУРАШКІ**



Рыгор Мурашка прыйшоў у літаратуру, маючы за плячыма вялікую жыццёвую школу. Пазней назапашаны багаты жыццёвы матэрыял лёг у аснову многіх яго твораў. Нарадзіўся будучы пісьменнік 16 лютага 1902 г. на Случчыне ў вёсцы Бязверхавічы ў беднай сялянскай сям'і. Скончыўшы пачатковую школу і двухкласнае вучылішча, у 1917 годзе паступіў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, дзе правучыўся два гады. У перыяд белапольскай акупацыі Беларусі (1919 — 1920) удзельнічаў у падпольнай і партызанскай барацьбе супраць захопнікаў. У 1924 — 1926 гг. па партыйнай мабілізацыі Р. Мурашка служыў у Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў на савецкай і партыйнай рабоце: адказным сакратаром часопіса «Бальшавік Беларусі», загадчыкам аддзела мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР. У час Вялікай Айчыннай вайны пісьменнік змагаўся супраць фашыстаў у радах народных мсціўцаў, у красавіку 1944 г. загінуў пры прарыве партызанамі блакады на Лагойшчыне.

Першы зборнік апавяданняў Р. Мурашкі «Стрэл начны ў лесе» пра падзеі грамадзянскай вайны і станаўленне Савецкай улады на Беларусі пабачыў свет у 1926 г. Пасля выходзяць зборнікі апавяданняў «Прыгранічны манастыр» (1930), «Званкі» (1931), «Рузікі» (1932), «Мюдаўская ноч» (1934), аповесць «У іхнім доме» (1929), раманы «Сын» (1929), «Салаўі святога Палікара» (1940).

Раннія апавяданні Р. Мурашкі пісаліся пад уражаннем паслярэвалюцыйных падзей, перадавалі іх пафас, неслі ў сабе своеасаблівы рамантычны кірунак.

На рубяжы 20 — 30-ых гадоў Р. Мурашка стварае раман «Сын» (1929 г.). Твор пісьменнік прысвяціў «авангарду змагання за будучыню рабочага класа і ўсяго паднявольнага чалавецтва — сталёвай бальшавіцкай гвардыі». У рамане праўдзіва і ўсебакова паказана жыццё, быт, праца, змаганне беларускага народа напярэдадні і ў час рэвалюцыі 1905 г.

Р. Мурашка шмат увагі аддаваў тым, хто толькі спрабаваў пісаць, загадваў кабінетам маладога аўтара, уважліва чытаў рукапісы, дэталёва разглядаў творы пачынаючых. І ўвесь час працаваў над сабой. У яго спеюць задумы вялікіх палотнаў — трылогіі, рамана... Выходзіць другое, папраўленае выданне «Сына» (1933). А тут яшчэ цяжкая хвароба — сухоты коснага мозга, якая час ад часу прыкоўвала пісьменніка да пасцелі. Пасля трагічна памёр сын Генрых. Празаік знайшоў у сабе сілы застацца ў пісьменніцкім страі, стварыць адзін з лепшых твораў нашай літаратуры пра калектывізацыю — раман «Салаўі святога Палікара».

Упершыню раман быў надрукаваны ў часопісе «Полымя рэвалюцыі», заваяваў прыхільнасць чытачоў надзённасцю і сучаснасцю сваёй праблематыкі. Гэта твор пра барацьбу новага свету з рэшткамі старога ладу, старой, антычалавечай маралі, заснаванай на ўладзе моцнага над слабым. Вядучы пафас твора — у неадольнасці новага, перадавога, у абароне ідэй гуманізму, праўды новага жыцця, сацыялістычных ідэалаў, носьбітамі якіх выступаюць настаўнік Васіль Гарбач, селянін Анішчык, старшыня сельсавета Масько.

Мастацкая спадчына Р. Мурашкі даволі багатая. На жаль, творы яго і дагэтуль не сабраны, і пісьменнік вядомы сучаснаму чытачу ў асноўным як аўтар раманаў «Сын» і «Салаўі святога Палікара». Няма, напрыклад, звестак пра лёс трылогіі «Чалавек-маска» і рамана «Сям'я Канончыкаў», над якімі працаваў пісьменнік у пачатку 30-х гадоў. Не даследавана і творчая дзейнасць Р. Мурашкі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Несумненна, усё напісанае пісьменнікам ставіць яго ў рады нашых лепшых мастакоў слова.

**Зоя СТУДНІК,**
**выкладчыца Магілёўскага педінстытута імя А. Куляшова.**

**Да 175-годдзя з дня нараджэння Маркіяна ШАШКЕВІЧА і 150-годдзя выхаду ў свет «Русалкі Днястровай»**

**Яскравай старонкай у гісторыі ўкраінскай культуры стала літаратурная і грамадская дзейнасць Маркіяна Шашкевіча (1811—1843) — натхніцеля створанага ім гуртка «Руская тройца», што выданнем альманаха «Русалка Днястровая» засведчыў спаконвечную прагу землякоў-галічан да яднання з «пабратанымі людзьмі» з-над берагоў Дняпра, Волгі і Дунаю.**

**На Украіне нядаўна шырока адзначалася 175-годдзе з дня нараджэння класіка ўкраінскай літаратуры М. Шашкевіча. У роднай вёсцы пісьменніка Підлысся на Львоўшчыне пабудаваны і афіцыйна адкрыты Дом-музей, устаноўлены помнік. Юбілейныя вечары прайшлі ў Львове, Цярнопалі, Драгобычы. Рэспубліканскі юбілейны вечар пад старшынствам Алеся Ганчара адбыўся ў Кіеве.**

**Але свята працягваецца. Ушаноўваецца 150-годдзе «Русалкі Днястровай» (1837) — першай кніжкі на ўкраінскай мове на заходнеўкраінскіх землях. У Львове мяркуецца правесці юбілейную канферэнцыю, адкрыць музей «Русалкі Днястровай», устанавіць мемарыяльны знак у гонар яе стваральнікаў.**

**Друкуючы артыкул пра М. Шашкевіча і беларускі пераклад яго верша, «Літаратура і мастацтва» аддае належнае пісьменніку, нязводная ідэя якога, кажучы словамі Д. Паўлычкі, «не струхлела і не падгніла».**

**17 лютага гэтага года адбыўся вечар у Маскве.**

# З РОДУ ПАДСНЕЖНІКАЎ

На самым-самым прадвесні, калі зіма яшчэ пануе ваўсю, а да сапраўднай вясны так далёка, у лесе з'яўляюцца падснежнікі. Пікамі сваіх сцяблінак яны прасвідроўваюць мерзлы грунт, працінаюць зляжалы снег, каб мужна сцвердзіць і жыццё, і красу, і веру ў абавязковы прыход вясны-красны. Ад марозаў і частых зазімкаў гэтыя кветкі-вяснянкі звычайна гінуць, а тыя, якім доліць дачакацца вясны, сціпла ўступаюць месца сваім больш шчаслівым і шыкоўным суродзічкам. І ўсё ж без іх, падснежнікаў, не было б вясны на зямлі, як і без таго жураўлінага ключа, што адмыкае неба для сонца, святла і цяпла.

У духоўным жыцці нацый таксама ёсць свае падснежнікі, якія вястуюць і набліжаюць прыход вясны. Такімі кветкамі-вяснянкамі, кветкамі-падснежнікамі, што прабіліся скрозь камяністую глебу ўкраінскага Прыкарпацця ў сцюдзёную цэсарскую эпоху, уяўляюцца мне постаці трох юнакоў са славутай «Рускай тройцы», — аўтары альманаха «Русалка Днястровая» (1837 г.) — першай украінскай кніжкі на землях былой Заходняй Украіны. І першым сярод першых быў Маркіян Шашкевіч. 175-ю гадавіну бяссмерця якога разам з украінцамі ўшаноўваем і мы, беларусы.

«Да літаратараў, якія стаяць на пачатку развіцця літаратуры, трэба падыходзіць па-асабліваму. Бо, вялікія або малыя, яны ў абодвух выпадках асобы гістарычныя». Гэтае слушнае сцвярджэнне Вісарыёна Бялінскага ў дачыненні да ўкраінскага, беларускага і іншых прыгнечаных у мінулым народаў можна было б крыху і ўдакладніць. Бо не было ў нас, заняволеных сацыяльна і нацыянальна, раз'яднаных рознымі імперыямі, рэлігіяй, нават алфавітам, малых пісьменнікаў. Не магло быць. Ці ж «малы» змог бы дарасці ў тыя цёмнай памяці часы да ўсведамлення грамадзянскай і нацыянальнай годнасці, запаліцца палкай любоўю да чалавека-працаўніка, выступіць актыўным абаронцам яго сацыяльных правоў, мовы, культуры, засланіць яго ад нацыянальнага нігілізму, усёпаглынальнай хвалі касмапалітызму? Не віна, а гістарычная бяда наша, што ад тых неафітаў роднай культуры колькасна мала што засталося. Дайшлі да нас не фаліянты ў скураных пераплётах, а сціплыя адзінкавыя кніжкі, накшталт «Русалкі Днястровай» М. Шашкевіча, І. Вагілевіча і Я. Галавацкага, накшталт зборнікаў Беларускага Дудара — Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, равесніка і аднадумца супольнікаў «Рускай тройцы»...

Біце ж чалом тром сакалом,
хлапцы, маладзіцы!
Гэта ж кветкі з свойскай веткі,
славянскай зямліцы.

Гэтымі словамі, напісанымі з выпадку прыезду ў Мінск Станіслава Манюшкі і двух яго сяброў-музыкаў, мог бы Дунін-Марцінкевіч у свой час прывітаць і «Рускую тройцу». Мог бы... Але занадта раздзеленыя былі нашы народы, надта мала ведалі адзін пра аднаго. Далёка ўперадзе былі і вызваленне ўкраінцаў і беларусаў з-пад улады капіталу, і гістарычнае ўз'яднанне таго і другога народаў у межах адзіных рэспублік, і нацыянальна-духоўны росквіт абодвух народаў, і іх дзяржаўна-палітычная еднасць у складзе СССР. А тады, у першай палове мінулага стагоддзя, на ўскраінах дзвюх імперый — царскай Расіі і цэсарскай Аўстра-Венгрыі — Маркіян Шашкевіч і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, не ведаючы нічога адзін пра другога, рабілі, па сутнасці, адну і тую ж справу: гартавалі народную душу, усялялі ў яе веру ў надыход вясны.

Такое прызначэнне, такі лёс падснежнікаў.

Здзіўляе і падабенства характару, размаху дзейнасці двух нашых класікаў. Маркіян Шашкевіч пісаў вершы і прозу, займаўся фалькларыстыкай і этнаграфіяй, укладаў першую ўкраінскую чытанку для дзяцей. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч перш за ўсё паэт, аўтар вершаў, вершаваных апавяданняў, паэм. У той жа час ён і першы беларускі драматург, аўтар «Пінскай шляхты», якая з поспехам ставіцца і цяпер. Ладзіў ён і тэатральныя спектаклі, у якіх сам іграў; разам са сваім сябрам і земляком С. Манюшкам пісаў і ставіў у Мінску першыя оперы...

Ім, прадвеснікам, пачынальнікам, патрэбна было ўсюды паспець, зрабіць тое, што ў іншых, дзяржаўных народаў рабілі некалькі, а часам і некалькі дзесяткаў чалавек.

Падснежнікі доўга не жывуць. Не дажыў хаця б да пушкінскага ўзросту і Маркіян Шашкевіч — памёр у няпоўныя 32 гады. Не дачакаўся навальнічных рэвалюцыйных грымот 1848 года — еўрапейскай «вясны народаў», па вобразным выказванні Карла Маркса. Ды гэта і не была вясна для ўкраінскага народа. Яна, вясна, прыйшла да ўкраінцаў, як і да беларусаў, намнога пазней — у пачатку XX стагоддзя, і не з Захаду, а з Усходу. Але — прыйшла! Не магла не прыйсці! Бо на самым-самым прадвесні, калі зіма яшчэ панавала ваўсю, а да сапраўднай вясны было так далёка, скрозь лютыя снягі Прыкарпацця прабіўся да сонца падснежнік. Імя яго — Маркіян Шашкевіч...

**Вячаслаў РАГОЙША.**

**Маркіян ШАШКЕВІЧ**

## ВЯСНЯНКА

Кветка-вяснянка
Вясну прасіла,
Богам маліла:
— Мамачка-мамка!
Выканай волю —
Пашлі мне долю:
Квітнець у шчасці
На сенажаці,
Каб я сябе чула
Красою яснай,
Зарою краснай,
Каб прыгарнула
Свет да сябе я.

— Дочка, галубка,
Твая надзея
Марная, любка!
Бо хутка дужа
Вернецца сцюжа,
Зазімак свісне —
Краса змарнее,
Твар пачарнее,
Лісцейка згубіш,
Голаў застудзіш —
Жаль сэрца сцісне.

1835—1836 гг.

Пераклаў В. РАГОЙША.

**ІШЛА ВАЙНА НАРОДНАЯ**

**Л. КАРОТКАЯ**

# ГІСТОРЫЯ АДНОЙ ПЕСНІ

Восень 1944 года. Не засталося фашысцкай саранчы на нашай зямлі. Савецкія воіны гоняць яе ўсё далей на захад і скора будуць дабіваць там, адкуль яна выпаўзла. Я зноў працую ў школе. На адным з урокаў чытаем артыкул Купалы «Узнялася Беларусь»: «Як і 200 гадоў таму назад, разыдуцца па нашай зямлі дудары і музыканты і будуць клікаць народ на барацьбу...»

Расказваю вучням пра тое, як у 1942 годзе пашчасціла мне сустрэцца з народным казачнікам і як ён расказаў мне прарочую казку пра Маскву, пра нашу будучую перамогу над фашыстамі. (Гісторыя казкі і сама казка пазней былі надрукаваны 9 мая 1967 у «Літаратуры і мастацтве» і асобным выданнем для дзяцей — «Зоркавы горад. Казка пра Маскву», Мн., «Мастацкая літаратура», 1974).

— А вы ніколі не сустракалі такіх таленавітых людзей?

І — наперабой, адразу некалькі галасоў:

— Летам цётка Астасьчыха песню пела...

— Ага! Пра паліцаяў... Як яны запрагалі дванаццаць сабак...

— Уцякалі ад Савецкай Арміі, а сабакі паздыхалі... На вуліцы спявала. Многа людзей сабралася. Смешная песня.

Пасля ўрокаў я іду да Надзеі Фомаўны Астаська. Сям'ю Астаськаў ведаю з дзяцінства. Суседзямі былі. Бедна жылі суседзі. Гаспадар — інвалід. Працаваў у шавецкай арцелі. Заработкі малыя. І дзеці малыя. Незадоўга да вайны памёр. Надзеі Фомаўне гора і клопатаў хапала. Хацела і не магла прыпомніць яе вясёлай. А дзеці раслі харошыя: працавітыя, прыветныя, сціплыя. Дачушцы Веры давялося пакінуць школу і ўладкавацца на работу, а сынок Коля вучыўся. Калі ў Астрашыцкі Гарадок уварваліся фашысты, Веру і яе сяброўку Раю Гарошка (яны жылі непадалёк ад дома, дзе абасноўвалася рамонтная каманда ТОДТ) гітлераўцы абавязалі кухарыць і прыбіраць іхнюю казарму. Скора працавітым, на выгляд пакорлівым дзяўчатам пачалі там давяраць, нават пакідаць на іх зброю.

Ні сам шэф Отта і ніхто з яго падначаленых і падумаць не маглі, што Вера і Рая зусім не пакорлівыя і не забітыя стварэнні, а сапраўдныя савецкія дзяўчаты-камсамолкі, што яны люта ненавідзяць захопнікаў і толькі і думаюць пра тое, як бы мацней нашкодзіць ім, як бы актыўней уключыцца ў барацьбу.

Кожную нядзелю фашысты ішлі ў цэнтр сяла, да нашага былога клуба, дзе цяпер для іх прывозілі і дэманстравалі кінафільмы. Першыя тыдні ў такіх выпадках пры зброі пакідалі каго-небудзь з салдат. Кожнаму не вельмі хацелася заставацца. І праз некаторы час ва ўсім будынку, акрамя Веры і Раі, заставаўся толькі тэлефаніст. Дзяўчаты заўважылі, што ён не адыходзіць ад свайго апарата, а апарат у далёкім пакоі. У самой жа казарме яны ў гэты прамежак часу поўныя гаспадыні. Паведамілі партызанам, што могуць з-пад носа ў гітлераўцаў вывезці ў атрад іх-

нюю зброю. І вось у адну з нядзель да казармы з таго боку, які не відзён з акна пакоя, дзе знаходзіўся тэлефаніст, якраз у той час, калі фрыцы пайшлі глядзець чарговы гітлераўскі фільм, пад'ехала падвода. Юны партызан, нядаўні вучань, Міша Вардамскі пазней расказваў мне, што ён быў вельмі рады даверу камандавання партызанскага атрада «За Айчыну», што і не вельмі баяўся (верыў дзяўчатам, якія пры сустрэчы з партызанамі і ўдакладненні плана аперацыі даводзілі, што ўсё будзе добра, толькі б прывезлі фільм) і адразу згадзіўся ехаць за дзяўчатамі і зброяй.

— Толькі каня добрага! — прасіў Міша.

Добрага каня даў Нічыпар Герын з Бяларуч. Адтуль і прыехаў Міша. Дзяўчаты хуценька павыносілі з казармы вінтоўкі і скрыні з патронамі, прыкрылі, усклаўшы ўсё на сані, коўдрамі, умасціліся самі, і Міша пагнаў каня. Праз дзве гадзіны партызаны сустракалі адважных сяброўак. А сем'і? Рая — сірата, а Верына маці і яе брат Коля выехалі ў атрад напярэдадні. Надзею Фомаўну пасялілі ў бліжэйшай да атрада вёсцы, а падлетак Коля ўпрасіў камандзіра, каб і яго ўзялі ў атрад.

Што рабілі ў атрадзе Вера і Рая? Усё: абіралі бульбу, варылі, мылі, абшывалі, стаялі на пасту, хадзілі на засады, падкладвалі міны на шашы, дзельнічалі ў разгроме нямецка-паліцэйскіх гарнізонаў. Іх вельмі паважалі баявыя таварышы. Абедзве пасля вайны атрымалі медалі «За адвагу». Міша Вардамскі выканаў яшчэ некалькі рызыкоўных заданняў, вельмі смела паводзіў сябе на баявых аперацыях. Пасля вайны працаваў галоўным дыспетчарам Мінскага аўтазавода. Два гады назад — інфаркт. Зараз Міхаіл Марцінавіч Вардамскі на пенсіі. Коля Астаська таксама быў выдатным партызанам.Гераічна загінуў у адным з апошніх цяжкіх блакадных баёў...

Расказам вучняў пра тое, што цётка Астасьчыха злажыла песню і спела яе на вуліцы перад народам, я паверыла адразу. Неяк еду ў атрад з разведкі, сустракаю нашых разведчыкаў. Вітаемся. Бачу: яны вясёлыя, смешыкі ў вачах.

— Хлопчыкі, — пытаюся, — які сакрэт вясёлы знаеце?

— Ды можам падзяліцца, — смяюцца хлопцы. — Ехалі праз Гаяны, дык там маці нашай Веры прыпеўкамі нас павесяліла. Дасціпныя прыпеўкі. Смешныя. Пра фрыцаў і паліцаяў. З'ездзі — пачуеш.

Але трэба было спяшацца з данясеннем у штаб, і я тады заехаць да Надзеі Фомаўны не змагла. Ішла цяпер па песню. Успаміналася нядаўняе, перажытае. Прыйшла да яе. Паўспаміналі разам. Пагаварылі. Парадаваліся поспехам нашых войск.

— Надзея Фомаўна! Кажуць людзі, што вы летам нейкую цікавую песню пелі пра паліцаяў.

— Ага. Пела. Забылася ўжо. Тады якраз паліцэйскія сем'і вярталіся, не ўдалося дабегчы да германскага раю. Вось я і спявала.

— Надзея Фомаўна, а калі Вера вам сказала, што трэба ў партызаны ісці, ці адгаворвалі вы яе?

— Ды не адгаворвала. Не магла глядзець на фашыстаў і паліцаяў-гадаў, здраднікаў паганых, боўдзілаў крывавых.

— А чаму — боўдзілаў?

— Боўдзілы і ёсць боўдзілы. Ніхто добры ў паліцыю не ішоў. Пакваліцца іншы дурань на форму ды паёк, мяркуе, дурань, што Савецкай уладзе ўжо ўсё, а фашысты не дурні: адразу іх на крывавую справу — палоннага павесіць, яўрэйку з дзіцем застрэліць. Так упэцкаецца каторы — і няма назад ходу да свайго народа. І вылузаецца тады з усіх сіл. Хваробу б той фашыст германскі ведаў, каб не яны, і хто чым дыхае, і хто чаго ў лес ідзе.

— Дык, можа, праспяваеце і мне вашу песню? Вельмі ж тым людзям, што чулі яе, спадабалася. Усе смяюцца і хваляць, — паддаю я ёй ахвоты.

— Прыманьваеш ты, — пасмейваецца Фомаўна. — Так ужо і ўсе... Але раз табе так цікава, спяю. Калі і забылася пра тое, што які сабака вёз, пераблытала, то нічога. Канец адзін.

Яна праспявала. Я смяялася. Потым папрасіла яе прадыктаваць. Песня такая: быццам і простая, а дванаццаць сабак не запамінаюцца. І я запісала песню даслоўна, толькі потым трохі змяніла канец. У спявачкі было: «Зямля пад нагамі гарыць, у пятлю паліцай бяжыць».

Песню выкарысталі ў жывой газеце. У адпаведным месцы адна з удзельніц аб'яўляла:

— А зараз, таварышы, паслухайце песню. Аўтар гэтай песні — маці слаўных партызан: гераічна загінуўшага ў баі за Радзіму Колі і праслаўленай у нашым сяле выдатнай аперацыяй «Оттавы вінтоўкі — партызанам» Веры — Надзея Фомаўна Астаська!

Песню прымалі на «біс».

Зімой 1944—1945 школьная агітбрыгада часта выязджала ў вайсковы шпіталь, які знаходзіўся і тады ў Бараўлянах. Над праграмай думалі многа. Каб і пра поспехі нашай арміі, пра блізкасць перамогі, пра гераізм чырвоных воінаў, рознымі спосабамі дазнаваліся пра подзвігі параненых, якія знаходзіліся ў шпіталі. Для кожнага з іх былі ў праграме прачулыя словы хвалы і ўдзячнасці. Ну і была сатырычная частка — пра фрыцаў і паліцаяў.

Пасля першага выступлення, адразу ўлічыўшы рэакцыю нашых слухачоў, начальнік шпіталя прасіў нас прыязджаць як мага часцей.

— Так настрой ім узнялі! Ды мы з вашай дапамогай утрая хутчэй на ногі іх паставім! Нават калі ў каго яна адна...

Уключылі ў праграму і песню Надзеі Фомаўны. Перад самой песняй — звесткі пра аўтара і яе дзяцей. Спачатку на тварах слухачоў спачувальная зацікаўленасць, у час выканання песні — усплёскі смеху, а затым — нястрымны рогат. Яшчэ два разы—на «біс». Потым па просьбе параненых і з дазволу ўрачоў пелі ва ўсіх палатах, каб паслухаў і той, хто павінен быў ляжаць...

Надзеі Фомаўны ўжо няма. Вера — на пенсіі. Цешыцца на ўнукаў. Часта запрашаюць яе ў школу, на прадпрыемствы — падзяліцца перажытым у суровыя ваенныя гады.

Больш сарака гадоў чуем мы рэха салютаў Перамогі, азіраемся назад, успамінаючы і ўзнаўляючы новыя старонкі і эпізоды Вялікай Айчыннай вайны. Дарэчы ўспомніць і песню Надзеі Фомаўны Астаська.

## *Запрагалі дванаццаць сабак...*

**Паліцаяў начальнік склікаў,**
**Ім «апошнія весці» казаў:**
**— Перамаць, растудыт і растак—**
**Адгуляў паліцэйскі бардак!**
**Запрагайма дванаццаць сабак,**
**Уцякайма ў германскі кабак!**

**А сабака сівы не пацягне—хілы.**
**Прагнаў паліцай.**
**А сабака шэры — раптам шусь за дзверы.**
**Не дагнаў паліцай.**
**Сабака куртаты — злодзей хітраваты.**
**Забіў паліцай.**
**Сабака кудлаты — не ішоў ад хаты.**
**Прыдушыў паліцай.**
**Сабака перапялёсты — цягне хай калёсы.**
**Запрагаў паліцай.**
**А сабака чорны — пашкільдуе жорны.**
**Заляйцаў паліцай.**
**А сабака рабы — няхай вязе бабу.**
**Уссадзіў паліцай.**
**А сабака лысы — цесця-бургамістра.**
**Падсадзіў паліцай.**
**А сабака белы — павязе абеды.**
**Спакаваў паліцай.**
**Сабака падласы — сала і кілбасы.**
**Шыкаваў паліцай.**
**А сабака руды — куфры і пасудак.**
**Накраў паліцай.**
**А сабака гонкі — гляк самагонкі.**
**Пагнаў паліцай.**

**Ад савецкага войска ўцякалі,**
**Перад Польшчай усе сабакі паздыхалі.**

**Здох перапялёсты. Сталі калёсы.**
**Падпіхаў паліцай.**
**Здох сабака чорны. Хоць на карак жорны.**
**Закрактаў паліцай.**
**Здох сабака рабы. У кювеце баба.**
**Выцягаў паліцай.**
**Здох сабака лысы. Цесця-бургамістра**
**Мацюкаў паліцай.**
**Здох сабака белы. Ляснулі абеды.**
**Візгатаў паліцай.**
**Здох затым падласы. У г...е кілбасы.**
**Выскрабаў паліцай.**
**Здох сабака руды. Чарапкі з пасуды**
**Утаптаў паліцай.**
**Здох сабака гонкі. Гляк без самагонкі.**
**Екатаў паліцай.**

**Капут паліцэйскі бардак.**
**Капут і германскі кабак.**
**Гарыць пад нагамі зямля.**
**Чакае на гадаў пятля.**

ЦІКАУНЫ ФОТААБ'ЕКТЫУ

# Яны з Давыд-Гарадка



**Шчодрая на таленты палеская зямля. Славуты рамеснікамі, шаўцамі, кветкаводамі, цеслярамі, іканапісцамі старажытны Давыд-Гарадок не мог не нарадзіць і сваіх пісьменнікаў. На пачатку васьмідзесятых гадоў упершыню за ўсю доўгую гісторыю мястэчка актыўна, арыгінальна і сур'ёзна заявіла аб сабе «давыд-гарадоцкая школа» маладых літаратараў. Злева направа — паэт Леанід Дранько-Майсюк (нар. 1957 г.), аўтар зборнікаў паэзіі «Вандроўнік» і «Над пляцам»; паэт Міхаіл Шэлехаў (нар. 1954 г.), вершы якога знаёмы беларускаму і ўсесаюзнаму чытачу, сёлета ў выдавецтве «Современник» (Масква) выходзіць яго першая кніжка; Уладзімір Глушакоў (нар. 1952 г.), публіцыст і празаік, аўтар дзвюх кніг; празаік і драматург Георгій Марчук (нар. 1947), аўтар раманаў «Крык на хутары», «Кветкі правінцыі». Маладых пісьменнікаў яднае не толькі іх родны гарадок на Гарыні, але і любоў да беларускай зямлі, да сталіцы рэспублікі. Фотааб'ектыў «схапіў» сустрэчу пісьменнікаў-«гарадчукоў» на заснежанай сталічнай плошчы, імя якой — плошча Перамогі.**

Фота і тэкст А. КАЛЯДЫ.

ПОШУКІ ЗНАХОДКІ

# З ЛІТАРАТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ І. І. ЗАМОЦІНА

Вядомы літаратуразнавец Іван Іванавіч Замоцін (1873 — 1942) даследаваў творчасць не толькі класікаў рускай і беларускай літаратуры, а і радавых, малавядомых празаікаў і паэтаў.

У канцы 1982 года мне давялося пабываць у дачкі Замоціна Таццяны Іванаўны, з якой я ў 30-я гады вучыўся ў Мінскім Вышэйшым педагагічным інстытуце (цяпер педінстытут імя М. Горкага). Сярод рукапісаў яе бацькі мы знайшлі даследчую працу пад назвай «Літаратурная спадчына А. Б. Петрашкевіча (па рукапісных матэрыялах)». Гэта праца напісана вучоным у канцы 1927 ці на пачатку 1928 г. і, на маю думку, не страціла сваёй каштоўнасці ў справе вывучэння некаторых з'яў дакастрычніцкай беларускай літаратуры.

Як вядома, прафесар Замоцін працаваў у Інстытуце беларускай культуры (Інбелкульт), з'яўляўся членам літаратурнай камісіі Інбелкульта. У распараджэнні кафедры беларускай літаратуры за 1925 — 27 гады паступіла пяць сшыткаў рукапісных твораў (звыш 150 вершаў і апавяданняў) малавядомага беларускага паэта пачатку XX стагоддзя Альфонса Браніслававіча Петрашкевіча, які пад псеўданімам Ф. Калінка і Красоўскі друкаваў свае творы ў газеце «Наша Ніва», часопісах «Маладая Беларусь», «Вольная Беларусь», «Bielarus» і ў іншых выданнях.

Кароткая бібліяграфічная даведка пра А. Петрашкевіча надрукавана ў газеце «Рунь» № 1 за 1920 год. Тут змешчаны яго некралог, які належаў пяру Змітрака Бядулі. Па просьбе вучонага З. Бядуля даў яму найбольш патрэбныя звесткі аб жыцці паэта, якога ён ведаў асабіста.

Дакладная дата нараджэння А. Петрашкевіча, як адзначае даследчык, пакуль не ўстаноўлена. Памёр ён у былым Вілейскім павеце Вілейскай губерні ў фальварку Вінцантове ў 1918 годзе, маючы 24 гады ад нараджэння. У раннім дзяцінстве будучы паэт страціў бацькоў і гадаваўся ў свайго беззямельнага дзядзькі. Хлопчыку давялося быць пастушком, баранавалокам, а пазней рабіць усю сялянскую работу. Здаецца, у Крайску скончыў народную школу, дзе і пачаў пісаць вершы на рускай і польскай мовах. Пазней, ва ўзросце 16 гадоў, пад уплывам знаёмства з З. Бядулем пачаў пісаць на беларускай мове. Агульная колькасць твораў маладога паэта, як падлічыў І. Замоцін, складае каля 300, з іх палова напісана на беларускай мове. Літаратурная прадукцыя Петрашкевіча, зазначае даследчык, вызначаецца як з боку зместу (а гэта галоўнае), так і з боку мастацкай формы. Заўважае, што паміж надрукаванымі творамі і тымі, якія засталіся ў рукапісным выглядзе, нельга правесці рэзкую якасную мяжу.

Вучоны дасканала і глыбока разглядае творы паэта, вызначае ідэйную накіраванасць іх, гаворыць пра яго «нясцерпнае чаканне лепшай будучыні»:

**Цесна сэрцу ў грудзях,**
**Як арлу у клетцы,**
**Усё на нейкі новы шлях,**
**К новым зорам рвецца...**

**Цесна сэрцу песняра,**
**Тут, на слёз падоле...**
**Ах, ці прыйдзе к нам пара**
**Лепшай долі, волі?**

Паэзія Петрашкевіча, узятая ў суцэльнай і шчыльнай увязцы з эпохай, стварае свайго роду агульны фон, на якім вылучаюцца асноўныя тэмы. «Але гэты фон, — гаворыць вучоны, — не аднастайны: лірыка прыроды ў Петрашкевіча эвалюцыянізіруе і ў сваёй эвалюцыі падначальваецца той жа сацыяльнай абумоўленасці, якая скіроўвае наогул яго літаратурную прадукцыю, гэта значыць, яна таксама паступова трациць выключна асабістую афарбоўку і становіцца больш канкрэтнай, жыццёвай, мясцовай, уліваючыся такім чынам у агульнае рэчышча літаратурных тэм і кампазіцый, характэрных для эпохі дакастрычніцкага перыяду».

У вершах апошніх год А. Петрашкевіч выказвае думку, што ён знойдзе сваё месца сярод працоўнага люду:

**Толькі ў хаце беднякоў,**
**Пад страхой з саломы**
**Мой бунеціk з васількоў**
**Будзе як знаёмы.**

Вучоны прасочвае эвалюцыю паэта ад інтымных матываў да твораў грамадскага значэння, калі паэт не аб уласнай долі клапоціцца, а аб долі свайго народа:

**Хай громы гарматны заціхнуць на векі,**
**З аружжа хай будуць сярпы ды плугі, —**
**Даволі ўжо слёзаў, крыві ды тугі...**

І. Замоцін у нарысе зрабіў глыбокі аналіз твораў Альфонса Петрашкевіча, выявіў класавую прыроду творчасці паэта, устанавіў залежнасць літаратуры ад сацыяльна-культурных абставін гісторыі Беларусі пачатку XX стагоддзя.

Паўстае пытанне: чаму Замоціна, гэтак жа, як і Змітрака Бядулю, зацікавіла творчасць малавядомага паэта?

Прафесар І. Замоцін кіраваўся як тэарэтычнымі, так і практычнымі меркаваннямі. Лічыў, што даследуючы творчасць выдатных пісьменнікаў мінулага, нельга абысці і другарадных пісьменнікаў. Замоцін пісаў: «Паміж геніяльнымі і малазначнымі пісьменнікамі цяперашняй эпохі няма непраходнай прорвы». Яны знаходзяцца ў пераемнай сувязі і з'яўляюцца выразнікамі пэўнага класа. А таму, маўляў, гісторыкі літаратуры вывучаюць другарадныя факты літаратуры з боку іх сацыяльнай прыроды і даюць ім адпаведнае месца ў гісторыі сацыяльна абумоўленых літаратурных з'яў эпохі.

Глыбока даследуючы творы Альфонса Петрашкевіча, вучоны адзначыў, што ў слоўніку маладога паэта «адчуваецца жывая стыхія вясковай мовы, падаваемая бытавымі выразамі, зваротамі і вобразамі». Вучоны лічыць, што мова твораў А. Петрашкевіча можа зацікавіць лінгвістаў як ілюстрацыя аднаго з момантаў у развіцці беларускай літаратурнай мовы пачатку XX стагоддзя, хоць яна ў некаторых творах паэта была «шурпатай і стракатай».

**Яфім ГАВАРУШКА,**
**настаўнік.**

